ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 3 № 3





МЕНСК

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1938

ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 3
Сакавік 1938 г.



ЗМЕСТ

*Стар.*

*У дапамогу прапагандысту і агітатару*



*Кансультацыя*



---

**Адрас рэдакцыі:**
**Менск, Чырвонаармейская вул., ЦК КП(б)Б, пакой 8.**
**Тэлефон рэдакцыі па камутатару 20.000, даб. 50.**

# Шалёныя фашысцкія псы знішчаны

13 сакавіка Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда Саюза ССР вынесла прыгавор па справе антысовецкага «права-трацкісцкага блока». 11 дзён разглядаў Вярхоўны Суд гэту справу, нечуваную ў гісторыі па маштабу і размаху гнусных злодзеянняў. Суд да канца, нітка за ніткай. разблытаў брудны клубок жудасных правакацый, каварства і вераломства. Перад усім светам совецкі суд выкрыў страшэнныя злачынствы подлых трацкісцка-бухарынскіх забойцаў, дыверсантаў і шпіёнаў, праклятых лазутчыкаў і наймітаў фашызма, непрымірымых ворагаў совецкага народа.

Як гаворыць прыгавор Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда СССР, падсудныя Бухарын, Рыкаў, Ягода, Крэсцінскі, Розенгольц, Грынько, Шаранговіч, Хаджаеў, Ікрамаў, Іваноў, Зубарэў, Зеленскі, Чэрноў па заданню разведак варожых да СССР замежных дзяржаў арганізавалі змоўніцкую групу пад назвай «права-трацкісцкі блок», якая аб'яднала падпольныя антысовецкія групы трацкістаў, правых, зіноўеўцаў, меншавікоў, эсэраў, буржуазных нацыяналістаў Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Азербайджана, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік. Гэтыя праклятыя здраднікі ставілі сваей мэтай звяржэнне совецкай улады, аднаўленне ў СССР капіталізма і ўлады буржуазіі. Уся іх шпіёнска-здрадніцкая дзейнасць была накіравана на падрыў абароннай і эканамічнай магутнасці СССР, на дапамогу агрэсарам у разгроме краіны соцыялізма.

Яны—гэтыя крывавыя бандыты—шалёна ненавідзелі наш рабочы клас, наша калгаснае сялянства, увесь шчаслівы совецкі народ, які будуе соцыялістычнае грамадства. Яны марылі надзець ярмо капіталізма на шыю працоўных, патапіць у крыві іх вялікія заваяванні.

Права-трацкісцкія бандыты оптам і ў розніцу прадавалі радзіму, гандлявалі яе ваеннымі тайнамі. Яны ірваліся да ўлады, каб рэстаўраваць капіталізм у нашай краіне. Для гэтага яны гатовы былі аддаць цэлыя рэспублікі, вобласці ў кабалу імперыялістычным драпежнікам. Яны, гэтыя гнусныя мярзаўцы, рыхтавалі квітнеючым і шчаслівым Украіне, Беларусі, Узбекістану і іншым рэспублікам лёс калоній імперыялістычных дзяржаў, дзе насельніцтва пазбаўлена ўсіх праў, акрамя права на рабства, голад і смерць. Яны рыхтавалі Совецкай Беларусі няшчасны лёс Заходняй Беларусі, якая вось ужо 17 год стогне і пакутуе пад ботам польскіх акупантаў.

Кіруючыя ўдзельнікі гэтай банды на працягу многіх год былі служкамі замежных разведак. Злейшы вораг народа обер-бандыт Троцкі быў агентам германскай разведкі з 1921 г. і англійскай з 1926 г., Ракоўскі—шпіёнам англійскай разведкі з 1924 г. і японскай

з 1934 г., Чэрноў—наймітам Гестапо з 1928 г., Крэсцінскі—германскім шпіёнам з 1921 г., Шаранговіч—агентам польскай дэфензівы з 1921 г., Грынько—германскім і польскім шпіёнам з 1932 г. У фашысцкай зграі знайшлі сабе прытулак і мацёрыя агенты царскіх ахранак—Іваноў, Зеленскі, Зубарэў. Увесь так званы «права-трацкісцкі блок» складаўся са шпіёнаў і царскіх ахраннікаў. На працягу раду год старанна ўтойваючы свае злачынствы, права-трацкісцкія бандыты вераломна рыхтавалі замежную інтэрвенцыю. Шалёныя фашысцкія псы—Бухарын, Рыкаў, Ягода і інш. не толькі ведалі аб шпіёнскай дзейнасці сваіх супольнікаў, але непасрэдна кіравалі іх злачыннай работай. Пазбаўленыя усякай апоры ў масах, яны праз сваіх хаўруснікаў-шпіёнаў дагаварваліся з фашысцкімі варварамі: «Прыходзьце хутчэй. Дапамажыце нам... Мы адчынім вам вароты краіны. Мы аддзякуем вам, чым жадаеце...»

Кроў ледзянее ў жылах, калі чытаеш чорны спіс злодзеянняў раз'юшанай банды. Гэтыя вырадкі роду чалавечага, гэтыя двуногія звяры былі здольны на самыя жудасныя ўчынкі, на любыя подласці. Яны гатовы былі ўмярцвіць сотні і тысячы рабочых і сялян. Яны засыпалі тоўчанае шкло ў прадукты харчавання, атручвалі іх, знішчалі тавары, арганізоўвалі чыгуначныя катастрофы, падпалы заводаў і многія іншыя дыверсійныя акты. Бандыты Чэрноў, Шаранговіч і іншыя заражалі чумою калгасную жывёлу, знішчалі зерне, псавалі пасевы, імкнуліся кінуць сялянства на голад і жабрацтва, задушыць совецкі лад касцлявай рукою голаду. Яны былі гатовы на ўсё, толькі-б падарваць магутнасць соцыялістычнай дзяржавы, толькі-б дабіцца звароту памешчыкаў і капіталістаў.

Пад непасрэдным верхаводствам Бухарына і Рыкава гнусныя бандыты стварылі ў розных мясцовасцях Совецкага Саюза паўстанчыя кулацкія кадры, каб арганізаваць узброеныя выступленні ў тылу Чырвонай Арміі к пачатку інтэрвенцыі супроць СССР.

Працэс антысовецкага «права-трацкісцкага блока» да канца выкрыў, як фашысцкую агентуру, не толькі трацкістаў, але і бухарынскую зграю. Бухарынцы на працягу доўгага часу майстэрскі маскаваліся, спрытна хавалі свой сапраўдны твар. Суд поўнасцю выявіў працэс ператварэння іх у контррэволюцыйную банду, якое намецілася многа год таму назад. Яшчэ на XVI з'ездзе партыі таварыш Сталін ахарактарызаваў трацкістаў і правых, як сваякоў па прыродзе. Адны—капітулянты пад маскай істэрычных «рэволюцыйных» фраз, другія—капітулянты без маскі. І тыя і другія на розных этапах іх барацьбы супроць партыі і совецкай дзяржавы цягацелі адзін да аднаго, не раз шукалі блокаў, каб аб'яднанымі сіламі падрываць будаўніцтва соцыялізма.

Факты, устаноўленыя судом, гавораць аб тым, што выкрытыя здраднікі заўсёды былі ворагамі працоўных, ворагамі народа. Яшчэ да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі Бухарын і Рыкаў разам з трацкістамі і зіноўеўцамі імкнуліся дэмаралізаваць, расстроіць рады наступаючага пролетарыята, яны прапаведвалі «тэорыю» аб немагчымасці соцыялістычнай рэволюцыі ў нашай краіне. Тады яшчэ Ленін і Сталін выкрылі капітулянцкі, контррэволюцыйны характар гэтых «тэорый».

Пасля Кастрычніка бухарынска-рыкаўская зграя прабавала ў саюзе з меншавікамі і эсэрамі дабіцца звяржэння ненавіснай ім совецкай улады. Разгром бухарынцаў у 1918 годзе прымусіў іх перайсці да скрытай барацьбы супроць большэвіцкай партыі, да вычa-

кання зручнага моманту для новых атак. У 1921 годзе, калі краіна рабіла круты паварот да новай эканамічнай палітыкі, бухарынцы зноў подла напалі на партыю, імкнучыся раскалоць яе рады, падарваць яе адзінства. Партыя Леніна—Сталіна выкрыла здрадніцкія манеўры бухарынцаў.

Барацьба партыі за соцыялістычную індустрыялізацыю і калектывізацыю сельскай гаспадаркі ў перыяд першай сталінскай пяцігодкі суправаджалася вялікімі цяжкасцямі. У гэты час бухарынска-рыкаўская зграя ў саюзе з трацкістамі павяла новыя атакі на генеральную лінію партыі, імкнучыся з усіх сіл накіраваць яе на шлях капітуляцыі перад буржуазнай стыхіяй, дэзарганізаваць большэвіцкія рады.

Кулацкая ідэалогія і палітыка бухарынцаў з вычарпальнай паўнатою была выкрыта таварышом Сталіным. Генеральная лінія партыі перамагла, соцыялізм зацвердзіўся на ўсіх фронтах. Страціўшы ўсякую глебу пад нагамі, правыя і трацкісты кінуліся ў абдымкі фашысцкіх разведак.

Трацкісты і бухарынцы даўно ўжо апынуліся ў лагеры контррэволюцыі, даўно перэтварыліся ў збраеносцаў буржуазіі. Працэс ясна паказаў немінучасць блоку правых з трацкістамі, няўхільнасць ператварэння іх у агентуру фашысцкіх разведак, у агалцелую банду подлых здраднікаў і дыверсантаў.

Логіка гісторыі, логіка барацьбы з партыяй немінуча павінна была прывесці правых ад наскокаў на палітыку індустрыялізацыі і калектывізацыі, ад «тэорыі» аб мірным урастанні кулака ў соцыялізм да падпольнай лютай барацьбы з партыяй і совецкім народам у саюзе з усімі чорнымі сіламі рэакцыі.

Суд канчаткова сарваў маску з твару разбойнічага атамана Бухарына. Гэты ад'яўлены бандыт рабіў на працэсе спробы адмежавацца ад сваіх супольнікаў, схаваць за дымавою заслонай гучных фраз і філасофскіх разважанняў азвярэлы твар забойцы і здрадніка, паказаць сябе ў ролі нейкага «тэарэтыка», «ідэолага» з незапэцканым крывёй беласнежным адзеннем. Бухарын імкнуўся даказаць, што ў яго былі нейкія «праграмныя пункты», «ідэйная арыентацыя».

Суд цалкам выкрыў д'ябальскую работу гэтага патэнтаванага двурушніка і іезуіта, каварнага, вераломнага падлюгі, арганізатара замежнага шпіянажу супроць СССР. Год за годам, крок за крокам прасачыў суд палітычнае жыццё Бухарына.

На ўсім працягу прабывання ў партыі Бухарын трымаў сябе, як агідны здраднік. Сотні раз ён кляўся імем Леніна, каб лішні раз здрадзіць партыі, краіне, справе соцыялізма. Сотні раз заяўляў аб сваёй адданасці сталінскаму кіраўніцтву, аб адсутнасці рознагалоссяў з партыяй і адначасова трымаў камень за пазухай, веў тайныя перагаворы з заядлымі ворагамі совецкага народа.

Бухарын—гэта Іуда Іскарыот у масцы ідэолага, гэта, як выразіўся тав. Вышынскі ў сваёй абвінаваўчай прамове,—праклятая помесь лісы і свінні.

Ланцуг яго подлых злачынстваў працягнуўся на дваццаць год.

Яшчэ ў 1918 годзе, на зары совецкай дзяржаўнасці, Бухарын, Троцкі і іх супольнікі заключылі саюз з эсэрамі і белагвардзейцам Савінкавым для сумеснай падрыхтоўкі страшэннага злодзеяння: забойства Леніна, Сталіна і Свердлова. Яны паставілі мэтай сарваць Брэсцкі мір, звергнуць совецкі ўрад і стварыць свой—контррэвалюцыйны.

Гэта рука гнуснага святошы Бухарына накіравала стрэл эсэраўскай тэрарысткі Каплан у сэрца Леніна. Гэта ў агіднай трацкісцка-бухарынскай клаацы нарадзілася думка аб замаху на правадыра сусветнай рэвалюцыі. Дваццаць год маўчаў аб гэтым Бухарын, думаючы ўтоіць гэты жудасны факт ад совецкага правасуддзя. Не вышла. Не ўшоў Бухарын ад адказнасці перад гісторыяй, перад рабочым класам за зробленае ў 1918 годзе злачынства супроць маладой совецкай рэспублікі.

Яшчэ 16 год назад Ленін ахарактарызаваў Бухарына, як дробнага буржуа-спекулянта, як абаронцу інтарэсаў кулацкай верхавінкі вёскі.

Ад абароны кулацтва да плана арышту XVII З'езда ВКП(б) і забойства кіраўнікоў партыі і ўрада, ад кулацкага лозунга «узбагачайцеся» да стаўкі на замежную інтэрвенцыю—такі законамерны шлях обер-бандыта Бухарына.

Вернымі саюзнікамі права-трацкісцкіх бандытаў з'яўляліся беларускія нацыянал-фашысты.

Як устаноўлена судом, праклятыі шпіён Шаранговіч, з'яўляючыся разам з Галадзедам і Чарвяковым адным з кіраўнікоў беларускай нацыянал-фашысцкай арганізацыі, па заданню польскіх разведчых органаў і кіраўнікоў «права-трацкісцкага блока»—Бухарына і Рыкава—разгарнуў шырокую дыверсійна-шкодніцкую дзейнасць у галіне сельскай гаспадаркі, жывёлагадоўлі і прамысловасці БССР, каб палегчыць ажыццяўленне агрэсіўных замыслаў у выпадку ўзброенага нападу на БССР. Нацыянал-фашысцкая арганізацыя ў БССР ператварылася ў сапраўдную экспазітуру польскай разведкі, з якою папярэдне ўзгадняліся нават прызначэнні на кіруючыя пасты ў БССР. Большае падзенне, горшае вераломства цяжка сабе ўявіць.

Па заданню польскай разведкі і дырэктыве трацкісцка-бухарынскага бандыцкага цэнтра Шаранговіч разводзіць анемію коней: гіне 30 тысяч галоў. Па дырэктыве сваіх гаспадароў шпіён Шаранговіч падрывае тарфяную прамысловасць—апалавую базу рэспублікі. Па заданню агрэсараў і бандыцкіх атаманаў здраднік Шаранговіч сее нацыянальную варожасць сярод народаў БССР.

Імкнучыся адарваць БССР ад вялікага Совецкага Саюза, ізаляваць беларускую моладзь ад рускай культуры, шпіёнская зграя зрывае выкладанне рускай мовы ў школах, выганяе са школ пад выглядам атэстацыі лепшых настаўнікаў, насаджвае ў сістэме народнай асветы свае нацыянал-фашысцкія кадры.

Заядлыя ворагі совецкага народа шкодзілі і ў галіне фінансавай палітыкі. У Лепельскай і Жлобінскай справах ярка выявіліся спробы фашысцкіх шпіёнаў выклікаць азлабленне сялянскага насельніцтва супроць совецкай улады, давесці яго да адчаю шляхам непасільных падаткаў, пабораў, канфіскацый маемасці. Падсудны Грынько ў сваіх паказаннях суду адзначыў, што лепельская справа з'яўлялася адным з падрыўных мерапрыемстваў трацкісцка-бухарынскай зграі.

Шаранговічы, галадзеды, чарвяковы, бенекі, чарнушэвічы, славінскія і іншыя подлыя здраднікі з усіх сіл імкнуліся ператварыць Беларусь у калонію польскага фашызма, агнём і мечам знішчыць квітнеючую рэспубліку, вярнуць на нашу зямлю паноў Чапскіх, Патоцкіх, Радзівілаў.

Але карта ворага біта. Наперакор усялякім падкопам расце, мацнее і квітнее адна з сузор'я адзінаццаці рэспублік—Беларуская ССР.

і нікому не адарваць яе ад вялікага, магутнага СССР, нікому не вярнуць на Беларусь уладу памешчыкаў і капіталістаў.

Найбольш змрочнай, агіднаю групай на працэсе была зграя атруціцеляў на чале з двуногім зверам, вырадкам Ягодай. Па распашэнню «права-трацкісцкага блока» яны ўмярцвілі лепшых сыноў народа, бязмежна адданых радзіме—В. Р. Менжынскага, В. В. Куйбышэва і А. М. Горкага.

Ад здрадніцкага ўдару ў хворае сэрца загінуў Алексей Максімавіч—выдатнейшы чалавек эпохі, вялікі друг працоўнага чалавецтва, прыяцель таварыша Сталіна, гігант мыслі і слова, якім ганарылася ўсё працоўнае чалавецтва.

На злачынных руках подлых бандытаў—кроў палкага трыбуна рэвалюцыі С. М. Кірава. «Права-трацкісцкі блок» з'явіўся ініцыятарам і натхніцелем гэтага бяспрыкладнага па сваёй гнуснасці забойства.

Забойцы з «права-трацкісцкага блока» рыхтавалі атручанне слаўнага сталінскага наркома, главы мужнай совецкай разведкі—таварыша Н. І. Ежова. Яны рыхтавалі замах на кіраўнікоў партыі і ўрада—штаб социялістычнай рэволюцыі. І якое вялікае шчасце, што крываеыя бандыты былі злоўлены да таго, як меркавалі ажыццявіць свае гнусныя намеры!

Змрочныя фігуры сярэдневяковых атруціцеляў—рымскіх пап Борджыя, Екацерыны Медычы і іншых вырадкаў роду чалавечага—бляднеюць перад жудаснымі постацямі зладзея Ягоды і яго хаўруснікаў—«спецыялістаў» па «забойствах з гарантыяй», скарыстаўшых у злачынных мэтах давер'е сваіх афяр.

Караючая рука совецкага правасуддзя апусцілася на галавы подлых гадзюк. Двуногія звяры знішчаны. Разгромлена гняздо прадажных псоў фашысцкіх разведак.

Совецкі суд выканаў волю 170-мільённага совецкага народа, які ў дні працэса з велізарнаю сілай прадэманстраваў сваю бязмежную нянавісць да ворагаў социялізма, сваю непахісную рашучасць усімі сродкамі абараняць заваяванні социялістычнай рэволюцыі, абараняць, як зрэнку свайго вока.

Вялікі совецкі народ паказаў усяму свету сваё несакрушальнае маральна-палітычнае адзінства, якое з'яўляецца непахіснай асновай магутнасці совецкага ладу.

У тысячах рэзалюцый, вынесеных на мітынгах рабочых, калгаснікаў, совецкай інтэлігенцыі, байцоў і камандзіраў ў дні суда, гучэла цвёрдая ўпэўненасць у непераможнасць краіны Советаў.

Грозны шквал народнага гневу і нянавісці да прадажных фашысцкіх халопаў, які пракаціўся па ўсей нашай радзіме ў памятныя дні суда, з'явіўся рашучай перасцярогай усім тым, хто паспрабуе падняць сваю руку на заваяванні рэволюцыі. Совецкі народ ад ўсёй душы ўдзячны слаўнай совецкай разведцы, кіруемай сталінскім наркомам тав. Н. І. Ежовым, схапіўшай за горла трацкісцка-бухарынскіх бандытаў, нанёсшай сакрушальны ўдар фашысцкім разведкам і генеральным штабам, якія рыхтавалі вайну супроць СССР.

Совецкая разведка заўсёды карысталася і будзе карыстацца любоўю і падтрыманнем мільёнаў совецкіх людзей, бо яна абараняе іх кроўную справу, бо яна пільна стаіць на варце іх мірнай социялістычнай працы.

Вялікае міжнароднае гістарычнае значэнне працэса антысовецкага «права-трацкісцкага блока».

Працэс выкрыў бандыцкую прыроду правых, трацкістаў, меншавікоў, эсэраў, буржуазных нацыяналістаў, усяго «права-трацкісцкага блока», як агентуры фашысцкіх разведак. Працэс даказаў, што «права-трацкісцкі блок»—гэта не палітычная групіроўка, не аб'яднанне партый, а банда разведчыкаў, шпіёнаў і дыверсантаў. «Права-трацкісцкі блок»—перадавы атрад міжнароднага фашызма, зграя катаў і падпольных забойцаў, тая-ж пятая калона, тая-ж ПОУМ, тыя-ж Зейс-Інкварты і Генлейны, якія дзейнічаюць на міжнароднай арэне. Бухарыны, рыкавы, ягоды, шаранговічы пад кіраўніцтвам обер-шпіёна Троцкага, пад кіраўніцтвам фашысцкіх разведак робяць сваю чорную справу не толькі ў СССР, але і ў Іспаніі, Кітаі—усюды, дзе ідзе барацьба за свабоду, дэмакратызм і культуру супроць фашысцкага варварства і рэакцыі. Гэта—адзін з атрадаў фашысцкіх правакатараў і падпальшчыкаў вайны. Разгром гэтага атрада—вялікая паслуга справе міру, справе дэмакратыі, справе барацьбы за культуру.

Вось чаму прыгавор Вярхоўнага Суда выклікаў аднадушнае адабрэнне і захапленне працоўных усіх краін, усяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва.

Няма сумнення, што фашысцкія правакатары і авантурысты не пакінулі думкі аб нападзе на СССР, што яны будуць імкнуцца засылаць да нас усё новых і новых лазутчыкаў і дыверсантаў. Яны паспрабуюць яшчэ аднавіць сваю разгромленую агентуру. І таму—ніякага самасупакаення! Ні на мінуту не аслабляць рэвалюцыйнай пільнасці!

Ні адзін здраднік і прадажнік не павінны пазбегнуць свайго заслужанага, немінучага лёсу—караючага меча совецкага правасуддзя.

Нельга забываць, што капіталістычнае акружэнне прадаўжае існаваць, што «гэта не пустая фраза, гэта вельмі рэальная і непрыемная з'ява» (Сталін). Нельга забываць, што «чым больш моцнымі мы становімся, чым мы становімся больш багатымі, тым больш злобы мы выклікаем у агалцелай зграі фашыствуючай буржуазіі, якая рыхтуецца да вайны з намі і якая пакуль што засылае да нас пачкамі шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў. Яна натхняе на барацьбу з працоўным народам Совецкай краіны недабітыя астаткі капіталістычных класаў, мабілізуючы пад свае фашысцкія сцягі мізэрныя рэшткі кулакоў, крымінальнікаў і трацкісцка-бухарынскіх вырадкаў...» **(Ежоў).**

Мы павінны заўсёды памятаць словы таварыша Сталіна ў пісьме прапагандысту Іванову:

> «Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку».

Будзем і надалей мацаваць абаронную магутнасць нашай вялікай радзімы. Яшчэ цясней згуртуемся вакол партыі большэвікоў і вялікага Сталіна, акружым яе любоўю і падтрыманнем, грознай сцяною, аб якую разаб'юць свае ілбы фашысцкія падпальшчыкі вайны.

---

# ПРЫГАВОР

## Імем Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда Саюза ССР

у складзе:

Старшынствуючага—Старшыні Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР Армваенюрыста **В. В. Ульрых**

Членаў: Намесніка Старшыні Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР Корваенюрыста **І. О. Матулевіча** і Члена Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР Дывваенюрыста **Б. І. Іеўлева**

Пры Сакратары—Ваенным юрысце 1 ранга **А. А. Батнер**

З удзелам дзяржаўнага абвінавваўцы—Пракурора Саюза ССР тав. **А. Я. Вышынскага** і членаў Маскоўскай калегіі абаронцаў т. т. **І. Д. Браудэ** і **Н. В. Комадава**—у адкрытым судовым пасяджэнні, у горадзе Маскве 2—13 сакавіка 1938 года, разгледзела справу па абвінавачванню:

1. **Бухарына** Нікалая Іванавіча, 1888 года нараджэння;
2. **Рыкава** Алексея Іванавіча,1881 года нараджэння;
3. **Ягоды** Генрыха Грыгор'евіча, 1891 года нараджэння;
4. **Крэсцінскага** Нікалая Нікалаевіча, 1883 года нараджэння;
5. **Ракоўскага** Хрысціана Георгіевіча, 1873 года нараджэння;
6. **Розенгольца** Аркадзія Паўлавіча, 1889 года нараджэння;
7. **Іванова** Владзіміра Іванавіча, 1893 года нараджэння;
8. **Чэрнова** Міхаіла Александравіча, 1891 года нараджэння;
9. **Грынько** Грыгорыя Фёдаравіча, 1890 года нараджэння;
10. **Зеленскага** Ісака Абрамавіча, 1890 года нараджэння;
11. **Бессонава** Сергея Алексеевіча, 1892 года нараджэння;
12. **Ікрамава** Акмаля, 1898 года нараджэння;
13. **Хаджаева** Файзулы, 1896 года нараджэння;
14. **Шаранговіча** Васілія Фаміча, 1897 года нараджэння;
15. **Зубарэва** Пракопія Тімафеевіча, 1886 года нараджэння;
16. **Буланава** Паўла Петровіча, 1895 года нараджэння;
17. **Левіна** Льва Грыгор'евіча, 1870 года нараджэння;
18. **Плетнёва** Дзмітрыя Дзмітрыевіча, 1872 года нараджэння;

19. **Казакова** Ігнація Нікалаевіча, 1891 года нараджэння;

20. **Максімава-Дзікоўскага** Веніяміна Адамавіча (Абрамавіча), 1900 года нараджэння і

21. **Кручкова** Петра Петровіча, 1889 года нараджэння—

— усіх у злачынствах, прадугледжаных арт. арт. 58-1а, 58-2, 58-7, 58-8, 58-9 і 58-11 КК РСФСР, а **Іванова, Зеленскага і Зубарэва,** апрача таго, у злачынствах, прадугледжаных арт. 58-13 КК РСФСР.

**Папярэднім і судовым следствам устаноўлена:**

Падсудныя **Бухарын, Рыкаў, Ягода, Крэсцінскі, Розенгольц, Ґрынько, Шаранговіч, Хаджаеў, Ікрамаў, Іваноў, Зубарэў, Зеленскі і Чэрноў,** з'яўляючыся непрымірымымі ворагамі савецкай улады, у 1932—1933 годах па заданню разведак варожых да СССР замежных дзяржаў арганізавалі змоўніцкую групу пад назвай «права-трацкісцкі блок», які аб'яднаў падпольныя антысовецкія групы трацкістаў, правых, зіноўеўцаў, меншавікоў, эсэраў, буржуазных нацыяналістаў Украіны, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Азербайджана, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік.

«Права-трацкісцкі блок» паставіў сваёй мэтай звяржэнне **існуючага** ў СССР соцыялістычнага грамадскага і дзяржаўнага ладу, аднаўленне ў СССР капіталізма і ўлады буржуазіі шляхам дыверсійна-шкодніцкай, тэрарыстычнай, шпіёнска-здрадніцкай дзейнасці, накіраванай на падрыў эканамічнай і абароннай магутнасці Совецкага Саюза і садзейнасць замежным агрэсарам у паражэнні і расчляненні СССР.

Пазбаўленыя ўсякай апоры ўнутры СССР, кіраўнікі «права-трацкісцкага блока» з мэтай ажыццяўлення сваіх злачынных замыслаў заключылі праз ворага народа **Л. Троцкага** і асобных удзельнікаў антысовецкага «права-трацкісцкага блока» пагадненне з прадстаўнікамі некаторых замежных дзяржаў аб узброенай дапамозе ў звяржэнні совецкай улады ў СССР на ўмовах яго расчлянення і адтаржэння ад СССР Украіны, Беларусі, Прымор'я, Сярэдне-Азіяцкіх і Заказказскіх рэспублік—на карысць памянёных замежных дзяржаў.

Гэты здрадніцкі зговар «права-трацкісцкага блока» з прадстаўнікамі замежных дзяржаў аблягчаўся тым, што кіруючыя ўдзельнікі антысовецкай змовы з'яўляліся прамымі агентамі замежных разведак і ажыццяўлялі на працягу многіх гадоў шпіёнскую дзейнасць на карысць гэтых разведак.

**Крэсцінскі** па прамому заданню ворага народа—агента германскай і англійскай разведак **Л. Троцкага** ўступіў у здрадніцкую сувязь з германскім рэйхсверам у 1921 годзе і быў германскім шпіёнам да дня свайго арышту ў 1937 годзе, атрымліваючы за сваю шпіёнскую работу і на злачынную дзейнасць трацкісцкай арганізацыі па 250.000 германскіх марак золатам штогод.

**Розенгольц** пачаў шпіёнскую работу для германскага генеральнага штаба ў 1923 годзе, для англійскай разведкі ў 1926 годзе.

**Ракоўскі** з'яўляўся агентам англійскай разведкі з 1924 года і японскім шпіёнам з 1934 года.

**Чэрноў** пачаў шпіёнскую работу на карысць Германіі ў 1928 годзе, звязаўшыся з германскай разведкай пры садзейнасці вядомага меншавіка—эмігранта **Дана.**

**Шаранговіч** быў завербаваны і перакінуты польскай разведкай для шпіёнскай работы ў СССР у 1921 годзе і быў польскім шпіёнам да дня свайго арышту.

**Грынько** з'яўляўся германскім і польскім шпіёнам з 1932 года.

Па заданню ворага народа **Л. Троцкага** і кіруючых удзельнікаў «права-трацкісцкага блока»—**Бухарына, Рыкава і Ягоды**—члены «права-трацкісцкага блока» **Розенгольц, Крэсцінскі, Ракоўскі, Грынько і Бессонаў** у яўна здрадніцкіх мэтах уступілі ў непасрэдныя зносіны з прадстаўнікамі варожых СССР замежных дзяржаў і вялі з імі перагаворы аб формах дапамогі замежным агрэсарам у выпадку іх нападу на Совецкі Саюз (арганізацыя тэрарыстычных і дыверсійна-шкодніцкіх актаў, шпіянаж).

Кіраўнікі «права-трацкісцкага блока», у тым ліку **Рыкаў, Бухарын і Ягода,** былі не толькі поўнасцю асвядомлены аб шпіёнскай дзейнасці сваіх саўдзельнікаў, але ўсяляк заахвочвалі расшырэнне шпіёнскіх сувязей і самі давалі ўказанні ўдзельнікам «права-трацкісцкага блока» пры іх здрадніцкіх перагаворах з прадстаўнікамі замежных дзяржаў, фарсіруючы падрыхтоўку замежнай інтэрвенцыі.

Па прамых дырэктывах замежных разведак удзельнікі «права-трацкісцкага блока» арганізавалі дыверсійна-шкодніцкія групы, ахапіўшы імі рад прадпрыемстваў прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі і сістэмы тавараабароту і вялі разбуральную дзейнасць, маючы сваёй задачай паралізаваць гаспадарчае жыццё краіны і аслабіць абароназдольнасць Совецкага Саюза.

Па ўказаннях японскай разведкі ўдзельнікі «права-трацкісцкага блока» арганізавалі ў Далёка-Ўсходнім краі крушэнне поезда з вайсковым грузам на станцыі Валачаеўка і поезда № 501 на перагоне Хор—Дармідонтаўка, а таксама зрабілі некалькі дыверсій на шахтах у Сучане. Усе гэтыя дыверсіі суправаджаліся чалавечымі афярамі.

Па дырэктыве ворага народа **Л. Троцкага** і на аснове зговару з прадстаўнікамі замежных дзяржаў **Розенгольц** праводзіў у сістэме Наркомзнешгандлю шкодніцкую работу, накіраваную на аказанне дапамогі Германіі і Японіі і суправаджаўшуюся нанясеннем эканамічных страт СССР. Апрача таго, Розенгольц шляхам розных валютных камбінацый сістэматычна фінансаваў Троцкага.

**Чэрноў** па заданню германскай разведкі і ўказаннях **Рыкава** выкарыстаў сваё адказнае службовае становішча ў зямельных органах СССР для арганізацыі праз сваіх саўдзельнікаў раду буйных ды-

версійна-шкодніцкіх актаў па зніжэнню ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур і псаванню сельскагаспадарчых мабілізацыйных запасаў, па скарачэнню пагалоўя конскага складу і буйнай рагатай жывёлы, у прыватнасці шляхам штучнага распаўсюджання эпізаотыі, прычым толькі ва Ўсходняй Сібіры ў 1936 годзе ў рэзультаце гэтага загінула каля 25.000 коней.

**Грынько** па заданню кіраўнікоў «права-трацкісцкага блока» і германскай разведкі, з мэтай выклікаць нездаволенасць насельніцтва і тым самым аблягчыць вярбоўку сваіх староннікаў, праводзіў у сістэме Народнага Камісарыята Фінансаў шырокую шкодніцкую работу, якая выражалася ў затрыманні выплаты заработнай платы, дрэнным абслугоўванні насельніцтва ашчаднымі касамі, незаконным спагнанні некаторых падаткаў з сялян і іншых шкодніцкіх мерапрыемствах.

**Шаранговіч,** з'яўляючыся адным з кіраўнікоў беларускай нацыянал-фашысцкай арганізацыі, па заданню польскіх разведчых органаў і кіраўнікоў «права-трацкісцкага блока»—**Рыкава** і іншых, разгарнуў шырокую дыверсійна-шкодніцкую дзейнасць у галіне сельскай гаспадаркі, жывёлагадоўлі і прамысловасці Беларусі, аблягчаючы тым самым ажыццяўленне задач агрэсараў у выпадку іх узброенага нападу на БССР.

**Ікрамаў** і **Хаджаеў** па ўказанню **Бухарына** разгарнулі вялікую дыверсійна-шкодніцкую работу ў розных галінах народнай гаспадаркі Узбекістана з мэтай выклікаць нездаволенасць насельніцтва і тым самым стварыць спрыяючыя ўмовы для падрыхтоўкі ў перыяд замежнай інтэрвенцыі ўзброеных выступленняў супроць савецкай улады.

**Зеленскі** арганізаваў у Цэнтрасаюзе і ў сістэме спажывецкай кааперацыі шкодніцкія групы і пры іх дапамозе, з мэтай выклікаць нездаволенасць насельніцтва, заблытваў планіраванне тавараў, затрымліваў прасоўванне іх у вёску, псаваў і гнаіў прадукты харчавання, падкідваў у іх шкло і цвікі, наўмысля зрываў забяспечанне прадметамі першай неабходнасці нізавой гандлёвай сеткі кааперацыі.

**Іваноў** па заданню **Бухарына** праводзіў шкодніцка-дыверсійную дзейнасць у лясной гаспадарцы Паўночнага края.

**Зубарэў,** з'яўляючыся актыўным удзельнікам падпольнай арганізацыі правых, па заданню **Рыкава** займаўся шкодніцтвам у сельскай гаспадарцы ў радзе абласцей РСФСР.

Побач з актыўнай дыверсійна-шкодніцкай дзейнасцю, удзельнікі «права-трацкісцкага блока» па заданню германскай, японскай і польскай разведак, пад непасрэдным кіраўніцтвам **Рыкава** і **Бухарына** і пры актыўным удзеле **Іванова, Хаджаева, Ікрамава, Зубарэва, Шаранговіча, Грынько** і **Зеленскага** падрыхтоўвалі ў Сібіры, на

Паўночным Каўказе, на Украіне, Беларусі, Узбекістане і ў іншых мясцовасцях Совецкага Саюза бандыцка-паўстанцкія кулацкія кадры для арганізацыі ўзброеных выступленняў у тылу Чырвонай Арміі к пачатку інтэрвенцыі супроць СССР.

У мэтах расшырэння бандыцка-паўстанцкай кулацкай базы, па рашэнню кіраўнікоў «права-трацкісцкага блока», **Бухарын** устанавіў арганізацыйныя сувязі з падпольным ЦК эсэраўскай арганізацыі, якая дзейнічала ў СССР, а таксама з закардонным ЦК эсэраў.

Па прамому зговару з замежнымі разведкамі і па заданню ворага народа **Л. Троцкага** «права-трацкісцкі блок» арганізаваў рад тэрарыстычных актаў супроць кіраўнікоў ВКП(б) і Совецкага Урада.

У 1934 годзе адзін з кіруючых удзельнікаў «права-трацкісцкага блока» **Рыкаў** асабіста стварыў тэрарыстычную групу для падрыхтоўкі і правядзення тэрарыстычных актаў у адносінах таварышоў Сталіна, Молатава, Кагановіча і Варашылава.

У жніўні 1937 года **Розенгольц** асабіста прабаваў зрабіць тэрарыстычны акт у адносінах таварыша Сталіна, для чаго не раз дабіваўся ў яго прыёму.

Зладзейскае забойства С. М. Кірава, ажыццёўленае 1-га снежня 1934 года Ленінградскім трацкісцка-зіноўеўскім тэрарыстычным цэнтрам, як гэта ўстаноўлена папярэднім і судовым следствам па данай справе, было арганізавана па рашэнню «права-трацкісцкага блока», прычым непасрэдны ўдзел у арганізацыі гэтага тэрарыстычнага акта прымаў падсудны **Ягода,** які даў спецыяльныя ўказанні сваім саўдзельнікам, працаваўшым у Ленінградскім упраўленні НКВД, не перашкаджаць правядзенню гэтага злачынства.

Па ўказанню ворага народа **Л. Троцкага** кіраўнікі «права-трацкісцкага блока» у 1934 годзе прынялі рашэнне забіць вялікага пролетарскага пісьменніка **Максіма Горкага.** Гэты страшэнны тэрарыстычны акт было даручана арганізаваць **Ягодзе,** які, азнаёміўшы з мэтамі змовы хатняга ўрача М. Горкага доктара **Левіна,** а затым урача **Плетнёва** даручыў ім шляхам шкодніцкіх метадаў лячэння дабіцца смерці **М. Горкага,** што і было выканана пры кіруючым удзеле ў гэтай злачыннай справе доктара **Левіна.** Актыўны ўдзел у гэтым злодзеянні прымалі ўдзельнікі «права-трацкісцкага блока» б. сакратар М. Горкага—**Кручкоў** і б. сакратар НКВД—**Буланаў.**

Па рашэнню кіраўнікоў «права-трацкісцкага блока» **Ягода** арганізаваў метадамі шкодніцкага лячэння забойства старшыні АДПУ тав. В. Р. Менжынскага і намесніка старшыні Совета Народных Камісараў СССР тав. В. В. Куйбышэва, прычым у правядзенні тэрарыстычнага акта ў адносінах тав. Куйбышэва непасрэдны ўдзел прымалі **Левін** і б. сакратар Куйбышэва, удзельнік падпольнай арганізацыі правых з 1928 года, **Максімаў-Дзікоўскі,** а ў правядзенні тэрарыстычнага акту ў адносінах В. Р. Менжынскага непасрэдны

ўдзел прымалі **Буланаў** і завербаваны **Ягодай** і **Левіным** у змоўніцкую групу ўрач **Казакоў.**

Апрача таго ўстаноўлена, што **Левін** і **Кручкоў,** па прамому заданню **Ягоды,** шкодніцкімі метадамі лячэння ўмярцвілі сына А. М. Горкага—М. А. Пешкова.

У сувязі з назначэннем у верасні 1936 года таварыша **Н. І. Ежова** Народным Камісарам Унутраных Спраў СССР «права-трацкісцкі блок», апасаючыся поўнага выкрыцця і разгрому антысовецкіх кадраў, даручыў **Ягодзе** зрабіць тэрарыстычны акт у адносінах т. **Н. І. Ежова.**

Выконваючы гэта зладзейскае даручэнне, **Ягода** пры непасрэдным удзеле **Буланава** рабіў замах восенню 1936 года на жыццё т. **Н. І. Ежова** шляхам паступовага атручвання яго арганізма спецыяльна прыгатаваным для гэтага ядам, з прычыны чаго была нанесена значная шкода здароўю Н. І. Ежова.

Апрача таго ўстаноўлена, што **Бухарын** па рашэнню цэнтра антысовецкай арганізацыі правых яшчэ ў 1930 годзе дагаварыўся з эсэрам-баявіком—арганізатарам забойства тав. **Валадарскага** і замаху на жыццё В. І. Леніна ў 1918 годзе—**Семёнавым** аб стварэнні ім раду тэрарыстычных груп для падрыхтоўкі і правядзення тэрарыстычных актаў супроць кіраўнікоў ВКП(б) і Совецкага Ўрада.

Таксама ўстаноўлена, што ў 1918 годзе **Бухарын** і ўзначальваемая ім група «левых» комуністаў, разам з **Троцкім** і «левымі» эсэрамі, арганізавалі змову супроць Совецкага Ўрада.

**Бухарын** і яго саўдзельнікі па змове мелі мэтаю сарваць Брэсцкі дагавор, звергнуць Совецкі Ўрад, арыштаваць і забіць **В. І. Леніна, І. В. Сталіна** і **Я. М. Свердлова** і сфармаваць новы ўрад з бухарынцаў, трацкістаў і «левых» эсэраў.

Выконваючы план змовы, «левыя» эсэры ў ліпені 1918 года, з ведама і згоды **Бухарына,** паднялі ў Маскве мяцеж з мэтай звяржэння Совецкага Ўрада, пры гэтым устаноўлена, што зроблены эсэркай Каплан 30-га жніўня 1918 года замах на жыццё **В. І. Леніна** з'явіўся прамым вынікам злачынных замыслаў «левых» комуністаў на чале з **Бухарыным** і іх саўдзельнікаў «левых» і правых эсэраў.

Папярэднім і судовым следствам устаноўлена, што падсудныя па данай справе—**Зеленскі, Іваноў** і **Зубарэў** уступілі на шлях барацьбы з рэволюцыйным рухам рабочага класа яшчэ ў годы царызма.

**Зеленскі** быў агентам-правакатарам Самарскага жандармскага ўпраўлення з 1911 года па 1913 год.

**Іваноў** быў агентам-правакатарам ахраннага аддзялення і жандармскага ўпраўлення ў Маскве і іншых гарадах з 1911 па 1916 год.

**Зубарэў,** будучы завярбован у лік агентаў-правакатараў у гор. Кацельнічы ў 1908 годзе, займаўся правакатарскай дзейнасцю да 1917 года.

Такім чынам **Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда Саюза ССР** устанавіла віноўнасць 1. **Бухарына Н. І.,** 2. **Рыкава А. І.,** 3. **Ягоды Г. Г.,** 4. **Крэсцінскага Н. Н.,** 5. **Ракоўскага Х. Г.,** 6. **Розенгольца А. П.,** 7. **Іванова В. І.,** 8. **Чэрнова М. А.,** 9. **Грынько Г. Ф.,** 10. **Зеленскага І. А.,** 11. **Бессонава С. А.,** 12. **Ікрамава А.,** 13. **Хаджаева Ф.,** 14. **Шаранговіча В. Ф.,** 15. **Зубарэва П. Т.,** 16. **Буланава П. П.,** 17. **Левіна Л. Г.,** 18. **Плетнёва Д. Д.,** 19. **Казакова І. Н.,** 20. **Максімава-Дзікоўскага В. А.** і 21. **Кручкова П. П.**—у тым, што яны, з'яўляючыся актыўнымі ўдзельнікамі змоўніцкай групы пад назвай «права-трацкісцкі блок», якая дзейнічала па прамых заданнях разведак замежных дзяржаў, праводзілі здрадніцка-шпіёнскую, дыверсійна-шкодніцкую, тэрарыстычную дзейнасць, правакуючы ваенны напад на СССР гэтых дзяржаў з мэтай паражэння і расчлянення Совецкага Саюза і адтаржэння ад яго Украіны, Беларусі, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік, Грузіі, Армен
іі, Азербайджана, Прымор'я на Далёкім Усходзе—на карысць варожых да СССР замежных дзяржаў, маючы сваёй канчатковай мэтай звяржэнне існуючага ў СССР соцыялістычнага грамадскага і дзяржаўнага ладу і аднаўленне ў СССР капіталізма і ўлады буржуазіі, г. зн. ва ўчыненні найцяжэйшых дзяржаўных злачынстваў, прадугледжаных арт. арт. 58-1а, 58-2, 58-7, 58-8, 58-9 і 58-11 КК РСФСР, а **Іванова, Зеленскага** і **Зубарэва** апрача таго, ва ўчыненні злачынстваў, прадугледжаных арт. 58-13 КК РСФСР.

На падставе паданага і кіруючыся арт. арт. 319 і 320 КПК РСФСР, **Ваенная Калегія Вярхоўнага Суда Саюза ССР.**

## ПРЫГАВАРЫЛА:

1. **Бухарына** Нікалая Іванавіча,
2. **Рыкава** Алексея Іванавіча,
3. **Ягоду** Генрыха Грыгор'евіча,
4. **Крэсцінскага** Нікалая Нікалаевіча,
5. **Розенгольца** Аркадзія Паўлавіча,
6. **Іванова** Владзіміра Іванавіча,
7. **Чэрнова** Міхаіла Александравіча,
8. **Грынько** Грыгорыя Фёдаравіча,
9. **Зеленскага** Ісака Абрамавіча,
10. **Ікрамава** Акмаля,
11. **Хаджаева** Файзулу.
12. **Шаранговіча** Васілія Фаміча,
13. **Зубарэва** Пракопія Тімафеевіча,
14. **Буланава** Паўла Петровіча,
15. **Левіна** Льва Грыгор'евіча,
16. **Казакова** Ігнація Нікалаевіча,

17. **Максімава-Дзікоўскага** Веніяміна Адамавіча (Абрамавіча) і

18. **Кручкова** Петра Петровіча

**— да вышэйшай меры крымінальнага пакарання—расстрэлу,** з канфіскацыяй усёй асабіста ім належачай маемасці.

19. **Плетнёва** Дзімітрыя Дзімітрыевіча, як не прымаўшага непасрэднага актыўнага ўдзелу ва ўмярцвенні тт. В. В. Куйбышэва і А. М. Горкага, хоць і садзейнічаўшага гэтаму злачынству—**да турэмнага зняволення на дваццаць пяць гадоў** з паражэннем у палітычных правах на пяць гадоў пасля адбыцця турэмнага зняволення і з канфіскацыяй усёй асабіста яму належачай маемасці.

20. **Ракоўскага** Хрысціана Георгіевіча і

21. **Бессонава** Сергея Алексеевіча—як не прымаўшых прамога ўдзела ў арганізацыі тэрарыстычных і дыверсійна-шкодніцкіх дзеянняў—**да турэмнага зняволення тэрмінам: Ракоўскага на дваццаць гадоў і Бессонава на пятнаццаць гадоў** з паражэннем кожнага ў палітычных правах на пяць гадоў па адбыцці турэмнага зняволення і з канфіскацыяй усёй асабіста ім належачай маемасці.

Тэрмін турэмнага зняволення **Плетнёву, Ракоўскаму і Бессонаву** вылічаць з дня іх арышту.

Старшынствуючы Старшыня Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР Армваенюрыст **В. Ульрых**

Члены: Намеснік Старшыні Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР Корваенюрыст **І. Матулевіч**
Член Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда Саюза ССР Дывваенюрыст **Б. Іеўлеў.**

---

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

Днямі адбыўся чарговы Пленум ЦК КП(б) Беларусі. Пленум абмеркаваў наступныя пытанні:

1. Даклад выконваючага абавязкі сакратара ЦК КП(б) Беларусі тав. А. А. Волкава—аб палітычных задачах партарганізацый КП(б)Б у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет БССР.

2. Даклад выконваючага абавязкі сакратара ЦК КП(б)Б тав. А. М. Лявіцкага—аб веснавой сяўбе.

3. Даклад выконваючага абавязкі сакратара ЦК КП(б)Б тав. А. А. Волкава—аб ходзе мясапаставак па БССР.

4. Аб ходзе выканання рашэння студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б) па разгляду апеляцый выключаных з партыі.

Па ўсіх пытаннях прыняты адпаведныя рашэнні.

*ЦК КП(б) Беларусі.*

---





# Палітычныя задачы партыйных арганізацый КП(б)Б у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет БССР

**Даклад выконваючага абавязкі сакратара ЦК КП(б)Б тав. А. А. ВОЛКАВА на пленуме ЦК КП(б)Б 28 сакавіка 1938 г.** *

Таварышы, у сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Совет БССР перад КП(б)Б, перад кожнай яе арганізацыяй стаяць велізарныя арганізацыйна-палітычныя задачы.

У мінулай рабоце па выбарах у Вярхоўны Совет СССР мы набылі ўжо велізарны вопыт. Мы вырасцілі велізарную колькасць партыйных і непартыйных большэвікоў, лепшых агітатараў, прапагандыстаў і арганізатараў. Але ўсё тое, чаго мы дасягнулі ў час выбараў у Вярхоўны Совет СССР, сёння нас задаволіць не можа, бо з кожным днём, з кожнай гадзінай нам прад'яўляюцца ўсё большыя і большыя патрабаванні. І зараз, у сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, партарганізацыі павінны правесці вялікую арганізацыйную і агітацыйна-прапагандысцкую работу, каб па-большэвіцку справіцца з гэтай важнейшай кампаніяй.

З велізарным палітычным уздымам, як усенароднае ўрачыстае свята, спаткала наша радзіма 12 снежня—дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР. 12 снежня 1937 года магутны многанацыянальны совецкі народ аднадушна прагаласаваў за партыю Леніна—Сталіна, за Сталінскую Канстытуцыю. Па закліку партыі Леніна—Сталіна амаль усе паагалоўна выбаршчыкі прышлі да выбарчых урнаў і з радасцю аддалі свае галасы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Па ўсёй неабсяжнай тэрыторыі вялікага Совецкага Саюза—ад Менска да Владзівастока, ад Мурманска да Тбілісі, ад берагоў Ледавітага акіяна да знойных прастораў Сярэдняй Азіі—усюды совецкі грамадзянін, незалежна ад расы, мовы і нацыянальнасці, ішоў з адзіным пачуццём адданасці і любві да сваёй соцыялістычнай радзімы, сваёй большэвіцкай партыі і нашага вялікага Сталіна.

**Выбары ў Вярхоўны Совет СССР паказалі ўсяму свету маральнае і палітычнае адзінства совецкага народа, яго згуртаванасць вакол партыі Леніна—Сталіна, яго беззаветную рашымасць і гатоўнасць цвёрда і няўхільна следаваць па шляху будаўніцтва комунізма.**

Той факт, што 98,6 проц. совецкіх выбаршчыкаў аддалі свае галасы кандыдатам сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, прагаласавалі за ленінска-сталінскую партыю, за тую палітыку ўнутраную і знешнюю, якую праводзіць Сталінскі Цэнтральны Камітэт комуні-

---

* Скарочаная стэнаграма.

стычнай партыі большэвікоў і совецкі ўрад, гаворыць аб велізарным адзінстве і маналітнасці совецкага народа. Ні адна партыя ў свеце, апрача нашай комуністычнай партыі, ніколі і нідзе не карысталася такім давер'ем і любоўю народа.

Партыя, няўхільна кіруючыся ўказаннямі таварыша Сталіна, узначаліла палітычны паварот, які адбываецца ў нашай краіне, у сувязі з увядзеннем Сталінскай Канстытуцыі, і дабілася бліскучых перамог.

Крыніцай магутнага яднання народаў Совецкага Саюза з'яўляецца перамогшы ў нашай краіне соцыялізм. Сіла совецкай улады, як гаварыў Ленін, стала ўсеагульнай сілай народа.

Таварыш Сталін, выступаючы 11 снежня 1937 года перад выбаршчыкамі Сталінскай выбарчай акругі горада Масквы, гаворачы аб росквіце совецкай дэмакратыі, падкрэсліў, што:

> «Такія свабодныя і сапраўды дэмакратычныя выбары маглі ўзнікнуць толькі на глебе таржаства соцыялістычных парадкаў, толькі на базе таго, што ў нас соцыялізм не проста будуецца, а ўжо ўвайшоў у быт, у штодзенны быт народа. Год 10 таму назад можна было-б дыскутыраваць аб тым, ці можна ў нас будаваць соцыялізм, ці не. Цяпер гэта ўжо не дыскусійнае пытанне. Цяпер гэта пытанне фактаў, пытанне жывога жыцця, пытанне быту, які пранізвае ўсё жыццё народа. На нашых фабрыках і заводах працуюць без капіталістаў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам на справе. На нашых палях працуюць труженікі зямлі без памешчыкаў, без кулакоў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізм у быту, гэта і называецца ў нас свабодным соцыялістычным жыццём».

Вось чаму выбары ў Вярхоўны Совет ССР, праведзеныя на аснове самай дэмакратычнай у свеце Сталінскай Канстытуцыі, яшчэ і яшчэ раз паказалі, што толькі ў нашай краіне магчыма сапраўдная свабода працоўных, магчыма выказванне сапраўднай волі народа, цесная і неразрыўная сувязь народа з яго выбраннікамі.

Ні ў адной краіне ні адна ўрадавая партыя ніколі не атрымлівала і ніколі не атрымае столькі галасоў, колькі атрымаў сталінскі блок комуністаў і беспартыйных на выбарах 12 снежня 1937 года. Аб гэтым сведчыць наглядны прыклад, калі на выбарах у Совет Саюза кандыдаты блока комуністаў і беспартыйных атрымалі 89.844.271 голас і пры выбарах дэпутатаў у Совет Нацыянальнасцей 89.063.169 галасоў. Гэтыя факты гавораць аб тым, што наш совецкі ўрад—адзіны ў свеце ўрад, які карыстаецца бязмежным давер'ем усяго народа.

Беларускі народ у дні выбараў ішоў адзінай шарэнгай разам з другімі народамі вялікага Совецкага Саюза. Беларускі народ, аднадушна галасуючы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, яшчэ раз паказаў сваю бязмежную адданасць справе партыі Леніна—Сталіна. Працоўныя нашай рэспублікі выбралі ў Вярхоўны Совет СССР сваіх лепшых сыноў і дачок, даказаўшых на справе сваю бязмежную адданасць соцыялістычнай радзіме, вялікай партыі Леніна—Сталіна.

97,4 проц. усіх выбаршчыкаў Совецкай Беларусі ўдзельнічала ў выбарах, а ў Менску, дзе выбіраўся лепшы сын большэвіцкай партыі, верны саратнік вялікага Сталіна Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, у галасаванні ўдзельнічала 99,7 проц. выбаршчыкаў.

Поўная перамога блока комуністаў і беспартыйных з'явілася яркім сведчаннем адзінства ўсяго многамільённага совецкага народа вакол

нашай партыі Леніна—Сталіна, вакол савецкага ўрада; з'явілася трыумфам перамог ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Такі першы вывад з выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Чаму атрымана на выбарах такая бліскучая перамога блока камуністаў і беспартыйных? Таму што совецкая ўлада—сапраўды народная ўлада. Яна выражае яго інтарэсы і з'яўляецца сапраўдным носьбітам народнай волі. У совецкай улады няма іншых інтарэсаў акрамя клопатаў аб радасным і шчаслівым заможным жыцці працоўных нашай радзімы.

У сваёй выдатнай прамове на перадвыбарчым сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі гор. Масквы таварыш Сталін, тлумачачы розніцу ў абстаноўцы выбараў у нас і ў капіталістычных краінах, гаварыў:

> «...У нас няма капіталістаў, няма памешчыкаў, стала-быць, і няма даўлення з боку маёмных класаў на немаёмных. У нас выбары праходзяць у абстаноўцы супрацоўніцтва рабочых, сялян і інтэлігенцыі, у абстаноўцы ўзаемнага іх давер'я, у абстаноўцы, я сказаў-бы, узаемнай дружбы, бо ў нас няма капіталістаў, няма памешчыкаў, няма эксплаатацыі і няма каму, уласна, давіць на народ для таго, каб сказіць яго волю».

Яркім адлюстраваннем перамогі блока комуністаў і беспартыйных з'яўляецца і тое, што з выбраных 1 143 дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР 870 дэпутатаў з'яўляюцца комуністамі і 273 беспартыйнымі.

Велізарную кіруючую ролю ў выбарах у Вярхоўны Совет СССР адыгралі нашы партыйныя арганізацыі. Народы нашай радзімы любяць большэвіцкую партыю і давяраюць ёй ва ўсім. Вось чаму ўсюды на перадвыбарчых сходах кожны працоўны нашай краіны лічыў для сябе гонарам выставіць і галасаваць за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Вось чаму на ўсіх сходах выстаўлялі кандыдатуру таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў тт. Молатава, Кагановіча, Варашылава, Ежова, Калініна, Жданава, Мікаяна, Андрэева, Чубара, Хрушчова і інш.

Працоўныя нашай краіны паслалі дэпутатамі ў Вярхоўны Совет СССР лепшых людзей, дастойных сыноў і дачок нашай радзімы, лепшых і перадавых стаханаўцаў нашых соцыялістычных прадпрыемстваў. У склад Вярхоўнага Совета выбрана больш 200 калгаснікаў-стаханаўцаў соцыялістычных палёў. Імёны Стаханава, Бусыгіна, Сметаніна Корабава, Мазая, Гудава і інш. заслужана карыстаюцца найвялікшай увагай у нашага народа. Гэтыя людзі сваёй адданасцю нашай вялікай радзіме, сваімі подвігамі ў творчай соцыялістычнай працы заслужылі гэты вялікі гонар.

Адсюль другі вывад, што Вярхоўны Совет па свайму складу з'яўляецца народным, у які выбраны сапраўдныя сыны і дочкі совецкага народа, сапраўдныя дзяржаўныя дзеячы.

У Вярхоўны Совет СССР выбраны лепшыя людзі з нашай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, слаўныя байцы, камандзіры і палітработнікі, лепшыя людзі нашай доблеснай совецкай разведкі—чэкісты, наркамунутдзельцы, пагранічнікі, лётчыкі, палярнікі, прадстаўнікі совецкай інтэлігенцыі, пісьменнікі, акадэмікі, прафесары, народныя настаўнікі, інжынеры, урачы, дзеячы мастацтва і т. д.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР выдатны не толькі сваім складам народных прадстаўнікоў, але яны выдатны яшчэ і тым, што ў працэсе выбарчай кампаніі вылучыліся тысячы і тысячы новых найталенаві-

цейшых дзяржаўных і грамадскіх дзеячоў, новых арганізатараў социялістычнай гаспадаркі, соцыялістычнага жыцця, соцыялістычнай дзяржавы.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР прадэманстравалі перамогу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і непарушнасць брацкага саюза вялікай дружбы ўсіх народаў вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Совецкая сапраўднасць бліскуча пацвердзіла словы таварыша Сталіна, што «змяніўся ў корані воблік народаў СССР. Знікла ў іх пачуццё ўзаемнага недавер'я, развілася ў іх узаемная дружба і наладзілася такім чынам брацкае супрацоўніцтва народаў у сістэме адзінай совецкай дзяржавы».

Бліскучыя перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі можна паказаць на прыкладах велізарнейшых дасягненняў нашай Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Беларускі народ у мінулым не меў сваёй дзяржаўнасці, стагоддзямі быў прыгнечан польскімі панамі, рускім царызмам, ад цямна да цямна гнуў спіну на памешчыкаў і капіталістаў. Быў непісьменным, галодным і жабраком. Па яго спіне стагоддзямі гуляла пуга польскіх паноў, нагайкі царскіх урадныкаў.

Толькі ў рэзультаце перамог Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і дзякуючы няўхільнаму правядзенню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, беларускі народ атрымаў права на свабоднае, шчаслівае жыццё. Беларускі народ ва ўпартай працы, пры актыўнай дапамозе вялікага рускага рабочага класа дабіўся і стварыў шчаслівае, квітнеючае жыццё.

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна беларускі народ па-сапраўднаму расправіўся з польскімі панамі, рускімі генераламі, капіталістамі і памешчыкамі. І ў рэзультаце гэтай перамогі працоўныя Совецкай Беларусі жывуць у дружнай сям'і народаў вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных рэспублік.

У прамове на нарадзе перадавых калгаснікаў і калгасніц Таджыкістана і Туркменістана, гаворачы аб дружбе народаў СССР, таварыш Сталін сказаў: «...дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне, бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і працвітае». Сталінская Канстытуцыя яшчэ больш умацавала гэту найвялікшую дружбу народаў і народнасцей вялікага Совецкага Саюза. Пад вялікім сцягам Сталінскай Канстытуцыі брацкая сям'я народаў СССР ідзе да новых перамог комунізма.

Дружба народаў СССР непарушна.

Такі вывад з выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР яшчэ раз перад усім светам паказалі непарушную магутнасць Саюза рабочых і сялян—асновы нашай соцыялістычнай дзяржавы. Выбары нанеслі знішчальны ўдар ворагам народа з трацкісцка-бухарынскай нацыянал-фашысцкай банды, гэтым подлым здраднікам, агентам фашызма, якія імкнуліся разбурыць саюз рабочых і сялян, распрадаць нашу квітнеючую радзіму, аднавіць уладу памешчыкаў і капіталістаў, затапіць у крыві шчаслівы совецкі народ. Не збыліся і ніколі не збудуцца каварныя замыслы ворагаў.

Саюз рабочых і сялян пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, атрымаўшай усенароднае прызнанне, склаўся і ўмацаваўся на аснове агульнасці інтарэсаў рабочых і сялян у барацьбе за вызваленне ад памешчыцкага і капіталістычнага рабства, у барацьбе за соцыялізм.

Саюз рабочых і сялян непераможны. Такі трэці вывад з выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Выбары з'явіліся грознай перасцярогай усім міжнародным разбойнікам, фашысцкім падпальшчыкам вайны. Совецкі народ напомніў фашысцкім авантурыстам, каб гэтыя канібалы не савалі сваё свіное рыла ў наш квітнеючы совецкі агарод. Совецкі народ напомніў аб сваёй грознай сіле, аб сваім адзінстве, аб сваім гарачым патрыятызме, рашымасці, гатоўнасці і здольнасці абараняць да канца сваю радзіму.

Увесь свет убачыў, што такое совецкі народ, якая яго арганізаванасць, свядомасць і актыўнасць.

Нязмерна вялікае міжнароднае значэнне выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Як Сталінская Канстытуцыя, адлюстраваўшая ў сабе найвялікшыя заваяванні соцыялізма народамі нашай краіны, так і рэзультаты выбараў, праведзеныя на аснове самай дэмакратычнай выбарчай сістэмы, з'яўляюцца абвінаваўчым актам супроць фашызма, супроць капіталістычнага ладу.

Перамога блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР усяляе бадзёрасць і ўпэўненасць міжнароднаму рабочаму класу і ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву ў іх барацьбе супроць фашызма, супроць капіталізма.

Такі чацверты вывад з выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Выбарчая кампанія з'явілася выдатнай школай палітычнага выхавання. У дні выбараў мы навочна пераканаліся, якую магутную армію арганізатараў, агітатараў і прапагандыстаў, носьбітаў жывога слова большэвіцкай праўды і справы мае партыя Леніна—Сталіна. Выраслі выдатныя агітатары, партыйныя і непартыйныя большэвікі, рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя—залаты фонд нашай радзімы, адзін з самых каштоўных капіталаў соцыялізма.

Такі пяты вывад з выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Аб маральна-палітычным адзінстве совецкага народа, яго згуртаванасці і арганізаванасці ярка гаворыць работа першай Сесіі Вярхоўнага Совета СССР.

Усе рашэнні першай Сесіі былі прыняты аднадушна. Прадстаўнікі народа—дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР—нашы дзяржаўныя дзеячы былі згуртаваны адзіным пачуццём, адзінай воляй у вырашэнні важнейшых дзяржаўных задач. Такія аднадушныя рашэнні магчымы толькі ў совецкім парламенце, парламенце соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

Работа Сесіі праходзіла пад непасрэдным кіраўніцтвам нашага друга, правадыра і настаўніка—таварыша Сталіна. Вось чаму першае пачуццё любві і адданасці дэпутаты—лепшыя прадстаўнікі народа нашай краіны—выказвалі нашай ленінска-сталінскай партыі, нашаму вялікаму Сталіну.

У сваёй агітацыйна-прапагандысцкай рабоце неабходна расказаць нашым выбаршчыкам аб рабоце першай Сесіі Вярхоўнага Совета СССР. На жывых прыкладах паказаць маральнае і палітычнае адзінства нашага многамільённага, многанацыянальнага совецкага народа.

## Агітацыя і прапаганда ў перыяд выбарчай кампаніі

Беларусь знаходзіцца напярэдадні выбараў у Вярхоўны Совет рэспублікі. Партарганізацыі КП(б)Б павінны замацаваць практычныя вынікі выбараў у Вярхоўны Совет СССР не толькі прадаўжэннем агітацыйнай работы ў масах, але і яшчэ большым расшырэннем агітацыі і прапаганды, уцягненнем новых кадраў актыва з партыйных і непар-

тыйных большэвікоў, выхоўваючы іх у духу бязмежнай любві да радзімы, да вялікай партыі Леніна—Сталіна.

Пленум ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні аб арганізацыі выбараў у Вярхоўны Совет СССР у кастрычніку мінулага года ўказаў на тое, што партыйныя арганізацыі павінны мець на ўвазе, што рашаючае значэнне ў выбарчай кампаніі будзе мець арганізацыйная і агітацыйна-прапагандысцкая работа.

Гэта ўказанне ЦК ВКП(б) было цалкам і поўнасцю пацверджана ўсім ходам выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР.

Прыступаючы да падрыхтоўкі выбараў у Вярхоўны Совет БССР, мы павінны ясна сабе ўявіць, што арганізацыйная і агітацыйна-прапагандысцкая работа ў канчатковым рахунку будзе рашаць поспех усёй выбарчай кампаніі.

У сваёй агітацыйна-прапагандысцкай рабоце партыйныя арганізацыі павінны накіраваць увагу на растлумачэнне працоўным найвялікшага палітычнага значэння нашых выбараў на аснове Сталінскай Канстытуцыі—Канстытуцыі перамогшага соцыялізма. Неабходна растлумачваць сусветна-гістарычнае значэнне нашых соцыялістычных перамог, атрыманых пад кіраўніцтвам нашай слаўнай большэвіцкай партыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна. Мы павінны расказаць шырокім масам аб найвялікшых перамогах ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Мы павінны паказаць, як наша партыя пад кіраўніцтвам Владзіміра Ільіча Леніна, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна на працягу ўсей сваёй гісторыі змагалася з усімі ворагамі за правільнае вырашэнне нацыянальнага пытання. Трэба паказаць, што ў рэзультаце гэтай барацьбы з ворагамі народа наша партыя здолела правільна вырашыць нацыянальнае пытанне, арганізаваць народы нашага вялікага Совецкага Саюза, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, на паспяховае будаўніцтва соцыялізма. Трэба расказаць, як ворагі партыі, ворагі народа, прыкрываючыся «левымі» фразамі ў вырашэнні нацыянальнага пытання, імкнуліся расчляніць вялікі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, прадаць нашы брацкія саюзныя рэспублікі фашыстам.

Трэба расказаць, як ўсе буржуазныя перараджэнцы, правакатары, дыверсанты, тэрарысты, шпіёны—трацкісты, бухарынцы, рыкаўцы, пятакоўцы, тухачэўскія, зіноўевы, каменевы, усе гэтыя шаранговічы, чарвяковы, галадзеды і іншая нацыянал-фашысцкая сволач вялі падрыўную контррэволюцыйную работу супроць партыі, супроць нашага ўрада, супроць народаў нашай краіны.

У сваёй растлумачальнай рабоце трэба паказаць, як наша партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна разграміла ўсю гэту контррэволюцыйную мразь.

Асобую ўвагу ў сваёй агітацыйна-прапагандысцкай рабоце мы павінны звярнуць на растлумачэнне пытанняў міжнароднага становішча; павінны расказаць найшырэйшым масам працоўных аб падзеях у Іспаніі, Кітаі, Францыі і іншых краінах; расказаць аб планах фашысцкіх агрэсараў у еўрапейскіх і ўсходніх краінах; расказаць аб тым, што фашысты шалёна рыхтуюць новую імперыялістычную бойню і, у першую чаргу, рыхтуюцца напасці на наш Совецкі Саюз.

Мы павінны памятаць указанні таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні і выцякаючых з гэтага задачах.

У адказе на пісьмо тав. Іванова таварыш Сталін піша:

«На самой справе было-б смешна і глупа закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія

> ворагі, напрыклад, фашысты, не паспрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваенны напад. Так могуць думаць толькі сляпыя бахвалы або скрытыя ворагі, якія жадаюць усыпіць народ. Не менш смешным было-б адмаўляць, што ў выпадку малейшага поспеху ваеннай інтэрвенцыі інтэрвенты паспрабуюць разбурыць у занятых імі раёнах совецкі лад і аднавіць буржуазны лад».

Гэтыя ўказанні таварыша Сталіна мы з вамі павінны асабліва памятаць таму, што мы жывем на граніцы з фашысцкімі дзяржавамі, якія ненавідзяць наш совецкі лад, нашу соцыялістычную радзіму, наш вялікі совецкі народ.

Яны ненавідзяць нас таму, што ў нашай краіне ўпершыню ў гісторыі рабочы клас і сялянства, звергнуўшы капіталістаў і памешчыкаў, устанавілі дыктатуру пролетарыята і ў сваёй гераічнай барацьбе за соцыялізм паказваюць прыклады працоўным усяго свету, якімі шляхамі, якімі сродкамі можна пазбавіцца ад гнёту капіталістаў і памешчыкаў. Таму яны ў першую чаргу рыхтуюць вайну супроць нас.

Аб гэтым неабходна расказаць усім працоўным большэвіцкай, зразумелай мовай. Расказаць, што адбываецца за рубяжом і мабілізаваць працоўных на яшчэ большае ўмацаванне абароннай магутнасці вялікага Совецкага Саюза на яго заходніх граніцах.

Мы павінны яшчэ больш клапаціцца аб нашай Чырвонай Арміі, аб нашым Ваенна-Марскім Флоце і нашых пагранічніках. Мы павінны мабілізаваць найшырэйшыя масы працоўных на абаронную работу, яшчэ больш развіваць патрыятычныя пачуцці кожнага працоўнага, расказваючы аб міжнародным становішчы, аб жыцці рабочых і сялян за рубяжом. Трэба паказаць наша светлае і радаснае соцыялістычнае жыццё, паказаць, што толькі соцыялістычная сістэма гаспадаркі нясе поўную свабоду і роўнапраўе народаў, нясе найвялікшы росквіт культуры, нябачанае развіццё вытворчых сіл і нябачаны ў гісторыі чалавецтва матэрыяльны добрабыт працоўных. Лёсам-жа капіталістычнай сістэмы з'яўляецца жабрацтва, голад, роспач і пагібель.

Гаворачы аб міжнародным становішчы, аб умацаванні абароннай магутнасці нашай краіны, мы павінны расказаць аб тым, што наш Совецкі Саюз няўхільна праводзіць палітыку міру. Тав. Літвінаў у сваёй гутарцы з прадстаўнікамі замежнага друку 17 сакавіка гэтага года заявіў, што мы былі і будзем заўсёды з міралюбівымі краінамі, мы заўсёды за калектыўную абарону інтарэсаў міру.

У той-жа час трэба памятаць, што міжнародная абстаноўка абавязвае нас умацоўваць абаронную магутнасць нашай краіны, каб з меншымі стратамі сваіх сіл нанесці ўдар усім ворагам, фашыстам, якія папрабуюць напасці на наш Совецкі Саюз, на нашу цудоўную радзіму.

Трэба растлумачваць, што, праводзячы палітыку міру, мы нястомна ўмацоўваем абарону нашай краіны, каб ахоўваць мірную працу народаў СССР, і што іменна ў рэзультаце такой палітыкі мы прайшлі цвёрдым поступам 20-гадовы шлях барацьбы і перамог, пабудавалі соцыялізм у нашай краіне.

Таварыш Сталін у дакладзе на Надзвычайным VIII З'ездзе Советаў гаварыў:

> «Прыемна і радасна ведаць, за што біліся нашы людзі і як яны дабіліся сусветна-гістарычнай перамогі. Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарэмна, што яна дала свае рэзультаты. Гэта ўзбройвае духоўна наш рабочы клас, наша сялянства, нашу працоўную інтэлігенцыю. Гэта рухае наперад і паднімае пачуццё законнай

гордасці. Гэта ўмацоўвае веру ў свае сілы і мабілізуе на новую барацьбу для заваявання новых перамог комунізма».

У сваёй растлумачальнай рабоце мы павінны асаблівую ўвагу звярнуць на вывучэнне матэрыялаў працэса над антысовецкім «права-троцкісцкім блокам». Паказаць усю гнуснасць здрады буржуазных перараджэнцаў, здраднікаў нашай радзімы, паказаць, што гэта банда забойцаў была на службе ў фашысцкіх замежных разведак, што адзінай іх мэтай было звергнуць совецкую ўладу, вярнуць капіталістаў і прадаць народы нашых саюзных рэспублік фашыстам.

Трэба расказаць аб паказаннях нацыянал-фашысцкіх бандытаў, арудаваўшых у нашай Совецкай Беларусі,—шаранговічаў, чарвяковых, галадзедаў, якія імкнуліся да таго, каб адарваць нашу Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку ад вялікай сям'і народаў СССР, вярнуць сюды капіталістаў і памешчыкаў і аддаць народы нашай Беларускай рэспублікі пад гнёт польскіх фашыстаў.

Партарганізацыі павінны растлумачыць прамову дзяржаўнага абвінаваўцы—пракурора СССР тав. Вышынскага, расказаць працоўным простай, зразумелай мовай аб задачах, якія выцякаюць з матэрыялаў апошняга працэса. Мы павінны мабілізаваць народы нашай Совецкай Беларусі на яшчэ большае павышэнне большэвіцкай пільнасці, на рашучую барацьбу з усімі ворагамі—трацкістамі, бухарынцамі і нацыянал-фашысцкімі паследышамі.

У сваёй растлумачальнай рабоце неабходна паказаць, як многа клопатаў праявіла і праяўляе наша партыя і таварыш Сталін аб нашым беларускім народзе.

Наша Беларуская Совецкая Рэспубліка створана нашай партыяй пры непасрэдным асабістым удзеле таварыша Сталіна.

На яркіх прыкладах і фактах трэба паказаць, якіх велізарных перамог дабіўся беларускі народ у галіне развіцця нашай соцыялістычнай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва. А такіх прыкладаў і фактаў у нас вельмі многа.

## Узначаліць уздым палітычнай і вытворчай актыўнасці мас

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР працоўныя Беларусі, несумненна, адзначаць нябачаным уздымам палітычнай і вытворчай актыўнасці. Задачы партыйных арганізацый заключаюцца ў тым, каб узначаліць уздым мас, каб ні ў якім разе не адрываць падрыхтоўку да выбараў ад гаспадарча-палітычных задач. Узмацненнем палітычнай і масавай работы трэба забяспечыць паспяховае правядзенне і рашэнне ўсіх пастаўленых задач.

Трэба помніць указанне таварыша Сталіна аб тым, што самі гаспадарчыя поспехі, іх трываласць і працягласць цалкам і поўнасцю залежаць ад поспехаў партыйна-арганізацыйнай работы, і што без гэтых умоў гаспадарчыя поспехі могуць аказацца пабудаванымі на пяску.

Гэта абавязвае нас узмацніць партыйна-арганізацыйную работу. Аснова ўсіх задач—ліквідаваць да канца вынікі шкодніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі—у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, культуры і тавараабароце.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР павінны быць азнаменаваны новым магутным вытворчым уздымам і разваротам стаханаўскага руху як у прамысловасці, на транспарце—чыгуначным і водным, так і ў сельскай гаспадарцы.

За годы сталінскіх пяцігодак Беларусь стала непазнавальна, тым больш непазнавальна яна ў параўнанні з мінулым. Толькі ў 1937 годзе валавая прадукцыя прамысловасці склала 2 мільярды 100 мільёнаў рублёў, а ў 1913 годзе валавая прадукцыя складала ўсяго толькі 89 мільёнаў рублёў. У трэцяй пяцігодцы валавая прадукцыя прамысловасці павінна скласці больш чым 5 мільярдаў рублёў.

Мы маем у Беларусі велізарны рост нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры беларускага народа.

Да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў Беларусі было звыш 70 проц. непісьменнага насельніцтва. Зараз непісьменнасць амаль поўнасцю ліквідавана. У 1914—15 гг. у Беларусі налічвалася 200 тысяч навучаючыхся, а ў 1937—38 гг. адных школ ёсць 7032, у якіх навучаюцца звыш мільёна нашых совецкіх дзяцей. У дакастрычніцкай Беларусі не было ні адной ВНУ, а цяпер Беларусь мае 22 ВНУ, у якіх навучаецца каля 15 тысяч нашых совецкіх студэнтаў, 95 тэхнікумаў з колькасцю больш 32 тысяч студэнтаў. Мы маем тэатры, кіно, клубы, дамы соцкультуры, кнігі, газеты, музыкальныя вучылішчы, вячэрнія школы для дарослых. Усё гэта стала здабыткам шырокіх мас працоўных Беларусі толькі пры совецкай уладзе, толькі ў рэзультаце перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Але, таварышы, нам трэба цвёрда помніць і выконваць указанні таварыша Сталіна, не заспакайвацца на дасягнутым, не зазнавацца. Калі мы маем велізарныя дасягненні, то мы маем яшчэ большыя задачы, якія пастаўлены перад намі ў выкананні вытворчых паказальнікаў у 1938 годзе. Некаторыя кіраўнікі забылі гэта. У выніку прамысловасць рэспублікі выканала лютаўскі план толькі на 96,2 проц. Гэта вялікі прабел у рабоце. Трэцяя сталінская пяцігодка патрабуе разгортвання стаханаўскага руху не толькі за выкананне, але перавыкананне задання. Па прамысловасці Наркаммясцпрома першы квартал 1938 года паказвае, што пералому ў рабоце мясцовай прамысловасці яшчэ няма: студзеньскі план выканан на 95 проц., лютаўскі— на 95 проц.

Асабліва адстае ў нас тарфяная прамысловасць: план за студзень выканан на 75 проц., лютаўскі—на 84 проц.

Па будматэрыялах выкананне плана недапушчальна зрываецца: студзеньскі план выканан на 76 проц., лютаўскі—на 68,3 проц.

Дрэнна працуе горна-хімічная прамысловасць, выканаўшая студзеньскі план толькі на 53,9 проц., а лютаўскі—на 51 проц.

З 76 улічаных прадпрыемстваў Наркаммясцпрома выканалі свае планы ў студзені 41 прадпрыемства і ў лютым—38 прадпрыемстваў.

Намаганнямі гаспадарнікаў, партыйных і профсаюзных арганізацый павінна быць у бліжэйшы час ліквідавана гэта недапушчальнае адставанне.

Па лёгкай прамысловасці. Я ўжо не кажу аб 1937 годзе, калі краіна недаатрымала на 5 з лішнім мільёнаў рублёў таварнай прадукцыі. І ў гэтым годзе не лепш: план у студзені выканан на 78,3 проц., а ў лютым—толькі на 60 проц. Шкляная прамысловасць выканала план на 84,4 проц.

Харчовая прамысловасць, якая мае, як і іншыя галіны, усе ўмовы для выканання плана, у лютым дала 95,4 проц. плана. Недапушчальнае становішча па мясной прамысловасці, дзе план выканан на 53,9 проц., па масларобству—на 49 проц., па плодагароднай прамысловасці—53 проц., па крухмальнай—43 проц.

Побач з гэтым у нас ёсць выдатныя ўзоры работы прамысловасці. Дазвольце паказаць вам некалькі прыкладаў. Там, дзе кіраўніцтва— гаспадарчае, партыйнае, профсаюзнае і комсамольскае разумее задачы партыі,—там справа пастаўлена не дрэнна.

Як узор добрага кіраўніцтва, я бяру завод Гомсельмаш. На тэтым заводзе шырока разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва паміж цэхамі, брыгадамі, асобнымі стаханаўцамі. Там вядзецца велізарная работа па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Гомсельмаш 8 снежня датэрмінова закончыў гадавую праграму па таварнай прадукцыі на 102 проц., а за 1937 год план выканан на 105,7 проц., што азначае павелічэнне супроць 1936 года на 22,3 проц.

У час правядзення выбараў у Вярхоўны Совет СССР Гомсельмаш выдзяліў 75 партыйных і непартыйных большэвікоў агітатарамі на выбарчыя ўчасткі. У рэзультаце добрай арганізацыі масавай работы на ўчастках на выбары з'явіліся ўсе выбаршчыкі.

Выдатна і тое, што тэмпы, узятыя Гомсельмашам у перыяд выбараў у Вярхоўны Совет СССР, не зніжаюцца.

У 1938 годзе план па заводу на 60 проц. больш, чым у 1937 годзе. Завод за два месяцы і 20 дзён 1938 года выканаў праграму па таварнай прадукцыі на 103 проц. 23 сакавіка завод выканаў квартальны план па вытворчасці пасеўных машын.

Завод асвоіў 5 новых сельскагаспадарчых машын. Колькасць стаханаўцаў вырасла з 720 да 790 чалавек. Гэта складае каля 40 проц. усіх рабочых завода. Завод зараз мае 90 чалавек, якія з дня ў дзень выконваюць норму на 200—300 проц. У сярэднім рабочы ў дзень выконвае план на 140 проц.

Стаханаўка Шулякова ў час выбараў была даверанай асобай на ўчастку; як адна з лепшых стаханавак і агітатараў, яна ўваходзіла ў склад беларускай дэлегацыі, вітаўшай першую Сесію Вярхоўнага Совета СССР. 3-га сакавіка тав. Шулякова прынята ў кандыдаты партыі і зараз працуе яшчэ лепш.

Стаханавец-фрэзероўшчык механічнага цэха тав. Пімен у сваёй рабоце пераняў метады работы тав. Гудава і адразу апрацоўвае 20 дэталяў.

Токар тав. Курака вылучан зараз майстрам. У сакавіку месяцы ён прынят у кандыдаты партыі.

Лепшы агітатар—інжынер-канструктар тав. Тулякоў прыняты ў спачуваючыя. Брыгада комсамольца тав. Давідовіча, якая працуе па выпуску сартыровак «Клейтон», выконвае норму на 185—190 проц. Большасць членаў яго брыгады—двухсотнікі. Лепшыя стаханаўцы тт. Суртын, Федасееў у 1938 годзе ўступілі ў комсамол.

Гэты прыклад паказвае, што людзі дабіліся ў гэтым калектыве добрых поспехаў і зараз па-большэвіцку замацоўваюць свае дасягненні, актыўна рыхтуючыся да выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

На менскім заводзе імя Варашылава рабочыя, рыхтуючыся да выбараў у Вярхоўны Совет СССР, бяруць абавязацельствы па павышэнню прадукцыйнасці працы і па падрыхтоўцы варашылаўскіх стралкоў 1 і 2 ступені, і па ўдасканаленню сваёй кваліфікацыі.

Значыць, там, дзе ёсць сапраўднае актыўнае партыйнае жыццё на вытворчасці, там і ліквідуюцца вынікі шкодніцтва, там і пад'ём вытворча-масавай і палітычнай работы.

Як абстаіць справа з падрыхтоўкай да большэвіцкай веснавой сяўбы? Па гэтаму пытанню мы заслухаем спецыяльны даклад тав. Лявіцкага. Але я хацеў-бы спыніцца на некаторых момантах.

Ясна, што мы паставілі перад сабою задачу—змагацца за высокі ўраджай, у што-б там ні стала выканаць лозунг таварыша Сталіна аб штогодняй вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

У звароце старшынь перадавых калгасаў нашай рэспублікі вы чыталі, якія задачы пастаўлены. Мы абавязаны ў 1938 годзе дабіцца, як мінімум на працадзень: 5 кілограмаў зернавых і 2 рублі грашыма. У нас ёсць усе магчымасці для выканання сталінскага лозунга—зрабіць усе калгасы бальшэвіцкімі і кожнага калгасніка заможным.

У рэспубліцы на 1 студзеня 1938 года 685.095 сялянскіх двароў аб'яднана ў калгасы, што складае 87,6 проц.

Мы маем магутную тэхнічную базу—200 МТС. На палях Савецкай Беларусі будуць працаваць 7.550 трактараў, 1.214 камбайнаў, 1.183 аўтамашыны, 2.680 трактарных сеялак, тысяча складаных і поўскладаных малатарань і іншых сельскагаспадарчых машын. Гэта велізарнейшая справа. Гэта-ж яркі доказ клопатаў партыі і асабіста таварыша Сталіна аб нашай Беларусі, аб нашым беларускім народзе.

Мы зараз ужо ўшчыльную падышлі да пачатку сяўбы, але трэба сказаць, што не ўсё яшчэ зроблена па падрыхтоўцы да гэтай баявой кампаніі. У нас вельмі дрэнна ў некаторых месцах, а сям-там прама шкодніцка адносяцца да такой машыны, як трактар, да якасці яго рамонту. Яшчэ не ўсюды па ўстаноўленай кандыцыі падрыхтавана насенне.

Не ўсюды па-гаспадарску даглядаюць за канём, больш балбочуць, чым сапраўды захоўваюць яго, а ў некаторых месцах нават адносяцца па-варварску. Ворагі, зразумела, і тут прыклалі сваю гнусную фашысцкую лапу, нанеслі нам вялікую страту ў гэтай справе.

Нас тав. Молатаў моцна папярэджваў, калі была Усесаюзная нарада пры Наркамземе СССР. Ён у сваім выступленні звярнуўся да работнікаў Беларусі, указаўшы нам на агідныя адносіны да калгаснага каня. З указання главы савецкага ўрада павінны быць зроблены адпаведныя вывады нашымі партыйнымі, савецкімі арганізацыямі і зямельнымі органамі.

Таварышы, я вам хачу паказаць жыццё аднаго добрага калгаса. Гэта калгас імя Валадарскага, Магілеўскага раёна.

Калгас імя Валадарскага арганізован у 1929 г. У ім аб'яднана 75 двароў, налічвае ён 110 калгаснікаў, у тым ліку 45 жанчын. Зямлі ў калгасе 667 гектараў, з якой ворыўнай 411 гектараў, сенажаці 60 гектараў, лесу 44 гектары. За апошнія тры годы калгас уноў асвоіў 17 гектараў зямлі, галоўным чынам за лік выкарчоўкі і падняцця цаліны.

Калгас у 1937 годзе поўнасцю выканаў план сяўбы на плошчы 256 гектараў, пасеяў зернавых 150 гектараў, ільну і канапель 14 гектараў, бульбы 34 гектары. У 1937 годзе калгас дабіўся высокага ўраджаю па зернавых і тэхнічных культурах.

Ураджай з аднаго гектара пасеву ў сярэднім па калгасу выражаўся ў наступным: жыта азімага 17,8 цнт., пшаніцы азімай 19,13 цнт., пшаніцы яравой 18,2 цнт., ячменю 20,4 цнт., аўса 14,6 цнт., канапель 6,4 цнт., ільнавалакна 6,8 цнт., бульбы 134 цнт. (тут малавата), караняплодаў 280 цнт.

Такога ўраджаю калгас дабіўся ў рэзультаце ўкаранення стаханаўскіх метадаў работы. У калгасе налічваецца 75 стаханаўцаў. Прымяняецца навейшая агратэхніка. Увесь пасеў яравых зернавых правадзіўся па зябліву, па чыстых папарах засеяна 78 гектараў. Праведзена культывацыя, пераворванне, баранаванне. Увесь пасеў пра-

ведзен сартавым насеннем, прыменена падкормка зернавых і тэхнічных культур. Выкарыстоўваюцца мясцовыя ўгнаенні, мінеральныя—азоцістыя, фасфарытныя і калійныя. У калгасе працуе хата-лабараторыя і клуб.

У рэзультаце такой работы калгас забяспечыў выдачу на працадзень 6,65 кілограма зернавых, бульбы 9 кілограмаў, гародніны 2 кілограмы, караньплодаў 25 кілограмаў, грашыма 2 руб. 25 кап.

Вось некаторыя стаханаўцы калгаса: стаханаўка Казлова выпрацавала 384 працадні, з усёй сям'ёй—1006 працадзён. Яна атрымала за сваю работу 66,9 цнт. зернавых, 2.263 рублі 50 кап. грашыма. Калгаснік Кардзянюк выпрацаваў 994 працадні, атрымаў 66 цэнтнераў зернавых, 2.236 руб. грашыма. Конюх Пятроўскі (50 год) выпрацаваў 1.000 працадзён, атрымаў 66,4 цэнтнера зернавых, 2.250 рублёў грашыма.

Калгас імя Валадарскага выканаў поўнасцю ў тэрміны план дзяржаўных паставак па хлебу, бульбе, малаку, мясу, поўнасцю ўнёс натураплату за работу МТС, выканаў план здачы ільнавалакна. У калгасе ёсць свінаферма, 104 галавы буйнай рагатай жывёлы, 18 свіней, 41 авечка.

У 1935—37 гг. у калгасе пабудавалі канюшню на 50 галоў, гумно, аўчарнік, цялятнік на 40 галоў, ільнасушылку на 2 тоны.

Калгас электрыфікован. Электрычнасць ёсць амаль ва ўсіх дамах калгаснікаў, ва ўсіх гаспадарчых будоўлях. У гэтым годзе праводзілася апрацоўка ільнавалакна пры дапамозе электраматораў. Старшынёю гэтага клагаса працуе т. Каракін, беспартыйны, працаваўшы да гэтага брыгадзірам.

Вось вам жыццё аднаго калгаса.

Як зараз рыхтуюцца нашы калгаснікі да сяўбы? Павінен прама сказаць, што ў нас зараз велізарная колькасць калгаснікаў уключылася ў соцыялістычнае спаборніцтва. 7.580 калгасаў з 9.654—гэта складае 76 проц.—(цяпер, напэўна, больш) уступілі ў соцспаборніцтва. Спаборнічаюць 13.852 брыгады, 16.923 звенні. Арганізавана 11.432 стаханаўскія брыгады, 20.687 стаханаўскіх звенняў.

Усе гэтыя людзі змагаюцца зараз за выкананне абавязацельстваў па павышэнню ўраджайнасці, за дастойную сустрэчу большэвіцкай вясны: больш 2 тысяч брыгад узялі на сябе абавязацельства даць па зярну ад 20 да 25 цэнтнераў з гектара, 976 брыгад узялі абавязацельствы даць звыш 25 цэнтнераў з гектара. Па бульбе 1.799 брыгад узялі абавязацельства даць 250 цэнтнераў з гектара, 870 брыгад абавязаліся даць ад 250 да 300 цэнтнераў з гектара, 220 брыгад абавязаліся даць звыш 400 цэнтнераў з гектара.

Па ільнавалакну 245 брыгад абавязаліся даць ад 10 да 12 цнт. і звыш 12 цнт.—267 брыгад.

Зараз у калгасах працуе 2.492 агратэхнічныя гурткі, у якіх вучацца 36.274 калгаснікі.

Трэба папярэдзіць, каб не было парушэнняў рашэння ЦК ВКП(б) і Соўнаркома СССР ад 2 жніўня 1937 года ў частцы севазваротаў. Мы не ўсюды сур'ёзна займаемся ўвядзеннем плана севазваротаў. Ворагі, усякая гэта сволач—бенекі, усе гэтыя псы ашуквалі партыю і ўрад адносна плана і агульнай колькасці зямлі, заблытвалі севазвароты. Рашэннем партыі і ўрада мы абавязаны па-большэвіцку выпраўляць гэту справу, але, на жаль, гэтага не робяць кіраўнікі асобных раёнаў.

Вось, напрыклад, у Чавускім раёне калгасу імя Калініна нехапае 10 га пахаці для выканання плана сяўбы. Райза залічвае ім і рвы, і

зараслі, і лугі. Або ў калгасе імя Сталіна нехапае 62 га зямлі для ўвядзення правільных севазваротаў, калгасу «Рассвет»—32 га, калгасу «Шлях соцыялізма»—20 га, калгасу «Барэц»—36 га, калгасу «Перабудова»—50 га.

Калгасы скардзяцца, даказваюць, што план няправільны, а райза і райвыканком нават не прыслухоўваюцца да іх голасу, не выпраўляюць памылак.

Паўстае пытанне, якое-ж гэта выпраўленне плана, якая гэта ліквідацыя вынікаў шкодніцтва?

Доўг партарганізацый—выправіць дапушчаныя памылкі, прыняць усе меры да таго, каб веснавую сяўбу правесці арганізавана, забяспечыць высокі ўраджай і багаты калгасны працадзень.

## Пытанні арганізацыі выбарчай кампаніі

Вопыт складання спісаў выбаршчыкаў у выбарчую кампанію па выбарах у Вярхоўны Совет СССР паказаў, што некаторыя партыйныя арганізацыі яўна недаацанілі значэння гэтай важнейшай справы. Многія кіраўнікі зразумелі складанне спісаў, як тэхнічнае мерапрыемства і перадаверылі гэту справу другарадным работнікам, а ў радзе выпадкаў—дзецям, школьнікам і т. д. Яны не ўлічвалі, што складанне спісаў—не тэхнічная справа, а справа вялікай палітычнай важнасці.

Недаацэнку гэтай важнай справы сям-там скарысталі ворагі. Мы мелі рад фактаў, калі свядома парушаліся выбарчыя правы грамадзян. Напрыклад, у Менску ворагі наўмысля заблытвалі ўлік насельніцтва, што выклікала вялікую блытаніну пры складанні спісаў выбаршчыкаў. У цэлым радзе раёнаў былі прапушчаны вуліцы, кварталы, пасёлкі, дамы і т. д.

Па Менску ў спісы выбаршчыкаў не былі ўнесены грамадзяне, пражываючыя ў пасёлку цагельнага завода № 1 у колькасці 705 чалавек. У Віцебску толькі на адным выбарчым участку не было ўнесена 27 выбаршчыкаў. У Пухавіцкім раёне сельсоветам былі даны весткі, што ў Мар'іна-Горцы 2.400 жыхароў, а пры больш старанным уліку аказалася, што там жыве 2.500.

Неахайныя, а часамі злачынныя адносіны да складання спісаў выбаршчыкаў мы мелі таксама ў гарадах: Гомелі, Бабруйску, Полацку і ў раёнах: Петрыкаўскім, Дрысенскім, Асвейскім і іншых.

У радзе раёнаў былі спробы не ўключаць у спісы выбаршчыкаў грамадзян, маючых фізічныя недахопы—глухіх, глуханямых, а ў Быхаўскім раёне пад выглядам страціўшых розум не было ўнесена ў спіс 90 чалавек выбаршчыкаў. У Смалявіцкім раёне па гэтай-жа прычыне не было ўнесена ў спіс 32 выбаршчыкі.

Амаль ва ўсіх раёнах Беларусі ў перыяд складання выбарчых спісаў былі дапушчаны масавыя выпадкі скажэння прозвішчаў, імёнаў, імёнаў па бацьку, года нараджэння і т. д.

Усе такія факты імкнуліся скарыстаць ворагі народа з мэтай дыскрэдытацыі палітычнага значэння выбарчай кампаніі.

Значэнне складання спісаў выключна вялікае. Гэтаму пытанню мы павінны будзем у прадстаячай рабоце надаць асаблівае значэнне, каб не дапусціць парушэнняў «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР».

Другая задача—гэта работа на выбарчых участках і ў выбарчых акругах.

Для нас зусім ясна, што выбарчы ўчастак з'яўляецца важнейшым месцам, дзе рашаецца поспех выбараў. Значыцца, трэба зараз, прыступаючы да падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, заняцца арганізацыяй выбарчых участкаў.

Нам прадстаіць тут вялікая арганізацыйная работа. У нас будзе арганізавана каля 300 акруг і, прыкладна, 4.300 выбарчых участкаў. Зараз трэба старанна прадумаць, скласці план арганізацыі выбарчых участкаў з поўным улікам інтарэсаў выбаршчыкаў, ні ў якай ступені не дапусціць тых памылак, якія мелі месца ў радзе выпадкаў пры выбарах у Вярхоўны Совет СССР.

Само сабою зразумела, што ўчасткі, дзе будуць знаходзіцца выбаршчыкі, павінны быць культурна абстаўлены, ім павінны быць адведзены самыя лепшыя памяшканні, добрае абсталяванне, поўнасцю прыстасаванае да абслугоўвання выбаршчыкаў.

Асабліва важнае значэнне мае для нас падбор участковых, акруговых выбарчых камісій і давераных асоб. Ва ўчастковыя выбарчыя камісіі мы павінны вылучаць людзей, добра праявіўшых сябе ў мінулую выбарчую кампанію, палітычна падрыхтаваных і актыўных таварышоў з рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі і моладзі. Правільны падбор людзей будзе вырашаць поспех работы выбарчых камісій, і да гэтай справы мы павінны падыйсці з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю.

Нам патрэбна гэту работу паставіць так, каб у выбарчыя камісіі не папаў варожы элемент. Трэба памятаць, што ворагі ўлічваюць важнасць і значымасць выбарчай кампаніі і паспрабуюць, прыкрываючыся актыўнасцю, пралезці ў камісію і весці там сваю падрыўную работу.

Асоба трэба адзначыць важнасць работы давераных асоб на выбарчых участках. Для гэтай работы трэба вылучыць асабліва правераных, аўтарытэтных і адданых нам людзей.

Мы мелі многа фактаў прыкладнай работы давераных асоб у мінулую кампанію. Такія таварышы, як Юрчанка—калгаснік калгаса «Чырвонаармеец», Магілеўскага раёна, яму 62 годы; ён выдатна пабудаваў сваю работу. Яму далі ў дапамогу прапагандыстаў-комсамольцаў. Не гледзячы на тое, што яго ўчастак быў раскідан па хутарах, ён забяспечыў 100-процантную яўку на выбары.

Такіх людзей у нас велізарная колькасць.

Наступная задача—гэта задача арганізацыі агітацыйна-прапагандысцкай работы на выбарчым участку. Ясна, што цэнтральнай задачай у надыходзячую выбарчую кампанію з'яўляецца забеспячэнне 100-працантнага ўдзелу выбаршчыкаў у галасаванні за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных пры выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

Агітацыя, прапаганда і наш большэвіцкі друк адыгралі і будуць адыгрываць важнейшую ролю. Трэба скарыстаць гэты важнейшы рычаг у нашым партыйным жыцці. Кіраваць трэба гэтай справай пасапраўднаму, па-большэвіцку.

Мы ў мінулую выбарчую кампанію мелі вялікую сетку гурткоў па вывучэнню Канстытуцыі і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Толькі па 63 раёнах у рэспубліцы былі арганізаваны 13.000 гурткоў з ахопам 500.000 чалавек. Па аднаму Гомельскаму раёну было арганізавана 2.500 гурткоў з ахопам 75.000 насельніцтва.

Для кіраўніцтва гурткамі трэба вылучыць палітычна падрыхтаваных, правераных прапагандыстаў і агітатараў, а іх у нас дастаткова.

Цяпер ужо нельга гаварыць, як раней гаварылі некаторыя кіраўнікі, што ў нас няма людзей, няма кадраў, няма агітатараў. Гэта няправільна. У нас вельмі многа людзей стала выдатнымі агітатарамі. Яны бяруць жыццёвыя факты і вядуць нашу большэвіцкую агітацыю на фактах і прыкладах з самога жыцця, так што сэрца радуецца.

Вось нядаўна—24 сакавіка ў «Правде» у аддзеле «Партыйнае жыццё» быў апублікован артыкул аб гомельскім лесакамбінаце імя Ежова. Тав. Герман—сакратар партыйнага камітэта лесакамбіната—паказвае выдатныя факты з пункту погляду інтэрнацыянальнага выхавання рабочых, росту прапагандыстаў і агітатараў, росту гурткоў.

У нас такіх фактаў многа. Вось, напрыклад, на заводзе імя Кірава было 18 пастаянных агітатараў, а ў рэзультаце праведзенай работы партыйная арганізацыя абагацілася і ўжо налічвае 53 агітатары з рабочых завода.

Вось выдатны прыклад работы аднаго агітатара з Віцебска—тав. Купала. У сваім пісьме ён піша:

«Мяне ўпершыню вылучылі агітатарам. Сваю работу я пачаў з таго, што перш за ўсё азнаёміўся з кожным выбаршчыкам у пасобку. Я сам асабіста пабываў у кожным доме, а мне далі абслугоўваць 20 дамоў, даведаўся ці знаходзяцца ўсе ў выбарчых спісах, ці ведаюць яны кандыдата, які балатыруецца па гэтаму ўчастку. Пасля гэтага я разбіў гэтыя 20 дамоў на 2 часткі, арганізаваў 2 гурткі. Заняткі ў гуртках праводзіліся праз дзень. Мы вывучалі Канстытуцыю, Палажэнне аб выбарах і даклад таварыша Сталіна на VIII з'ездзе Советаў. Я арганізаваў вывучэнне дакладаў таварыша Сталіна і тав. Молатава, запісаных на пласцінцы. Сістэматычна праводзіў гутаркі па пытанню бягучай палітыкі. Усё гэта выклікала вялікі інтарэс з боку выбаршчыкаў.

Я прымаў усе меры, каб усе наведвалі заняткі і ў сярэднім кожныя заняткі наведвала 25—30 чалавек.

Працуючы агітатарам, я сам вырас палітычна».

Гэта радавы рабочы, які ўключыўся на час выбараў у выбарчую кампанію і за час гэтай кампаніі вырас, як выдатны агітатар.

Вось другі прыклад. Таварыш Міхайлава, хатняя гаспадыня, яна працавала на адным участку. У дзень выбараў яна забяспечыла 100-процантную яўку выбаршчыкаў. Яна хадзіла з дома ў дом і простым большэвіцкім словам вяла агітацыйна-прапагандысцкую работу.

У нас вельмі многа форм і метадаў агітацыйнай работы: мітынгі, сходы, злёты, палітдні, пасылка агітбрыгад, наглядныя дапаможнікі. Усе гэтыя рычагі пусціць у ход—і мы зробім вялікую справу ў падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Кожная партыйная арганізацыя, кожны райком партыі зараз павінны заняцца падборам лепшых агітатараў і прапагандыстаў, стварыць пры кожным райкоме групу палітычна правераных, развітых, падрыхтаваных людзей, агітатараў, прапагандыстаў, добра ведаючых Канстытуцыю, выбарчы закон, даклады таварыша Сталіна, і ўскласці на іх кіраўніцтва агіткалектывамі, падрыхтоўкай нізавых агітатараў для велізарнейшай работы ў выбарчай кампаніі.

Велізарную ролю ў справе выбарчай кампаніі павінен адыграць друк. Мы павінны прад'явіць друку вялікія патрабаванні. Наша партыя, Ленін і Сталін заўсёды надавалі вялікае значэнне нашаму большэвіцкаму друку, друкаванаму слову. Трэба адзначыць, што наш друк за перыяд выбараў у Вярхоўны Совет СССР накапіў вялікі

вопыт і практыку па сувязі з масамі, прайшоў сур'ёзную большэвіцкую школу.

На старонках газет выступала многа новых людзей. Дзяліліся вопытам работы лепшыя агітатары, даверaныя асобы, хатнія гаспадыні, пенсіянеры, людзі рознага ўзросту і прафесій.

Як прыклад добрай работы можна адзначыць газету «Комуна», Клімавіцкага раёна, якая аператыўна асвятляла ход падрыхтоўкі да выбараў.

Газета «Большэвік Барысаўшчыны» арганізавала ў калгасе імя АДПУ, Красна-Слабодскага сельсовета, масавы вечар калгаснікаў на тэму: «Як вёска раней выбірала валаснога старшыню і як зараз калгасная вёска рыхтуецца да выбараў». Газета прысвяціла гэтаму пытанню цэлую старонку. Вялікую работу правялі шматтыражкі завода імя Кірава (Менск), Гомсельмаша і іншыя.

Разам з тым трэба адзначыць рад газет, якія выключна дрэнна працавалі. Газета «Комунар», Рагачоўскага раёна, не была звязана з актывам і нерэгулярна асвятляла ход падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет, не змяшчала пісьмы выбаршчыкаў. У газеце «Калгаснік Капыльшчыны» у час выбарчай кампаніі было змешчана толькі 24 заметкі на выбарчыя тэмы.

Гэтыя недахопы трэба ўлічыць і выправіць, скарыстаўшы наш большэвіцкі друк, гэту мацнейшую зброю ў справе падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Аб тым, што яшчэ дрэнна працуюць нашы газеты, відаць з рашэння ЦК ВКП(б) ад 15 сакавіка 1938 года, у якім рэспубліканскія газеты «Звязда» і «Советская Белоруссия» падвергліся рэзкай і правільнай большэвіцкай крытыцы за недастатковае асвятленне пытанняў партыйнага жыцця. Указаныя недахопы ў газетах бюро ЦК КП(б)Б выпраўляе. Асабліва павінны быць улічаны ўказанні ЦК ВКП(б) у гэту выбарчую кампанію.

Важнейшай задачай у справе выбараў у Вярхоўны Совет БССР з'яўляецца вылучэнне кандыдатаў. Кастрычніцкі пленум ЦК ВКП(б) нам указаў: «Партыйная арганізацыя абавязана выступаць пры вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты не асобна ад беспартыйных».

Зусім ясна, што гэта астаецца дырэктывай і сёння для правядзення выбарчай кампаніі. Яе парушаць ні ў якім выпадку нельга. Не замыкацца ад беспартыйных мас, а працаваць з імі. Гэту дырэктыву трэба ўзяць за аснову да няўхільнага выканання. Трэба памятаць, што мы зараз будзем вылучаць у Вярхоўны Совет БССР каля 300 кандыдатаў. Тут трэба папрацаваць. На нас ускладаецца выключна вялікая адказнасць. Трэба вылучыць лепшых, заслужаных людзей з ліку нашых стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, лепшых лётчыкаў, пагранічнікаў, лепшых людзей нашай совецкай інтэлігенцыі.

Вылучаючы кандыдатуру ў Вярхоўны Совет БССР, мы павінны памятаць указанне таварыша Сталіна аб тым, каб кожны дэпутат быў дзяржаўным дзеячам ленінска-сталінскага тыпу, заслужаны чалавек, апраўдаўшы сябе на рабоце, які сапраўды, будучы ў Вярхоўным Совеце БССР, змог-бы правільна вырашаць усе пытанні вялікай дзяржаўнай важнасці.

У перыяд выбараў у Вярхоўны Совет БССР вялікія задачы стаяць перад комсамольскімі, прафесіянальнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі.

Мы ў Беларусі налічваем больш 90 тысяч комсамольцаў, лепшых людзей з нашай совецкай моладзі. Гэта велізарная армія, велізарная актыўная сіла, вядучая ўсю моладзь Беларусі.

Комсамол у выбарчую кампанію па выбарах у Вярхоўны Совет СССР прарабіў велізарную работу. Ён вылучыў са свайго асяроддзя вялікую колькасць актыўных агітатараў і прапагандыстаў для работы ў выбарчых камісіях і на ўчастках і т. д. Зараз комсамольскія арганізацыі павінны прарабіць яшчэ большую работу і дапамагчы нашым партыйным арганізацыям у правядзенні агітацыйна-прапагандысцкай і арганізацыйнай работы на выбарчым участку, выбарчых камісіях і ў агітацыйнай рабоце сярод насельніцтва.

Гэту палітычную школу для нашай моладзі комсамольскія арганізацыі павінны скарыстаць.

Вялікую работу правялі ў перыяд выбарчай кампаніі нашы профсаюзныя арганізацыі. Яны стваралі гурткі, вылучылі лепшых людзей у якасці агітатараў і т. д. І зараз профсаюзныя арганізацыі абавязаны без зацяжкі разгарнуць масавую работу па падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет БССР. Кіраўнікам профарганізацый трэба ўлічыць, што гэта работа будзе праходзіць у вясенне-летні перыяд. Трэба скарыстаць усе масавыя мерапрыемствы для гэтай работы: спартыўныя гулянні, святы, эстафеты. Усе гэтыя важнейшыя рычагі знаходзяцца ў руках профсаюзаў і комсамола. Таму профсаюзы і комсамол павінны па-сапраўднаму ўключыцца ў выбарчую кампанію і зараз ужо пачаць праводзіць работу. Трэба ўключыць у актыўную работу ў выбарчай кампаніі грамадскія арганізацыі—Асоавіяхім, МОПР і інш.

Велізарнае значэнне ў разгортванні агітацыі і прапаганды маюць: радыё, кіно, тэатры і клубы. Усе гэтыя масавыя ўстановы неабходна скарыстаць для работы сярод выбаршчыкаў.

Асоба трэба адзначыць аб ролі горада, як культурнага, гаспадарчага і палітычнага цэнтра ў выбарчую кампанію. Наша партыя заўсёды ставіла і ставіць гарады з іх рабочым класам, як асноўнае звяно ў рабоце, як кіруючую палітычную і культурную сілу, дзе сканцэнтраваны найбольш падрыхтаваныя кадры прапагандыстаў, агітатараў. Гарадскія партыйныя і грамадскія арганізацыі абавязаны дапамагаць нашым сельскім раёнам у справе арганізацыі агітацыйна-прапагандысцкай работы. Асабліва гэта адносіцца да такіх гарадоў, як Менск, Гомель, Віцебск, Магілеў, Мазыр, Бабруйск і т. д. Гэта трэба падкрэсліць зараз, пры стварэнні абласных цэнтраў. Абласныя арганізацыі павінны паставіць як асноўную задачу—дапамогу сельскім раёнам у справе ўзняцця масава-палітычнай работы.

Партыйныя арганізацыі павінны поўнасцю выконваць указанні Сталінскага ЦК ВКП(б) аб смелым вылучэнні праверааных кадраў. Нядаўна было апублікавана спецыяльнае рашэнне Цэнтральнага Камітэта нашай партыі па вылучэнню беспартыйных на кіруючую гаспадарчую і совецкую работу. Але я павінен сказаць, што выкананне гэтага рашэння ў нас ідзе надта марудна, калі можна так выразіцца, са скрыпам.

У рэзультаце выбарчай кампаніі ў асобных раёнах ёсць становчыя прыклады. Так, у Бягомльскім раёне з агітатараў і прапагандыстаў вылучана больш 23 чалавек старшынямі калгасаў, старшынямі сельсоветаў, сельпо і на іншую кіруючую работу. На раённую работу вылучана 26 чалавек. Відаць, таварышы з Бягомльскага райкома

зразумелi гэту важнейшую задачу i правiльна падышлi да яе вырашэння.

Але такiх прыкладаў, таварышы, на жаль, вельмi мала. У большасцi райкомы робка падыходзяць да выканання ўказанняў нашай партыi па пытанню вылучэння кадраў.

У надыходзячую выбарчую кампанiю мы павiнны смялей вылучаць кадры, вывучаць добрых арганiзатараў, адданых нам людзей i даваць iм адказныя даручэннi.

Партарганiзацыi павiнны ўлiчыць, што пытанне вылучэння на кiруючую совецкую гаспадарчую работу мае для нас велiзарнае значэнне ў сувязi з арганiзацыяй у рэспублiцы 5 абласцей. Для работы ў абласных органах нам трэба многа людзей i iх неабходна вылучаць з народных мас.

Таварышы! Арганiзуючы ўсю работу па выбарах у Вярхоўны Совет БССР, мы павiнны памятаць указанне таварыша Сталiна аб павышэннi рэволюцыйнай пiльнасцi, трэба памятаць, што астаткi ворагаў народа—трацкiсцка-бухарынскае атрэп'е, шпiёны i дыверсанты, нацыянал-фашысты, бундаўцы i iншая нечысць прабуюць i будуць прабаваць скарыстаць выбарчую кампанiю ў сваiх контррэволюцыйных мэтах. Вопыт мiнулых выбараў, асаблiва працэс над антысовецкiм «права-трацкiсцкiм блокам» паказвае, як ворагi iдуць на любую мерзасць, правакацыю, каб нашкодзiць соцыялiстычнаму будаўнiцтву. Гэтыя псы, шкоднiкi, здраднiкi, агалцелыя фашысты, несумненна, паспрабуюць сарваць нам падрыхтоўчую работу да выбараў. Яны, несумненна, прабуюць i будуць прабаваць пралезцi ў любую шчылiну, туды, дзе ў нас слаба справа з большэвiцкай пiльнасцю, з партыйна-палiтычнай работай.

Трэба памятаць папярэджанне таварыша Сталiна аб тым, што «чым безнадзейней становiшча ворагаў, тым ахвотней яны будуць хапацца за крайнiя сродкi як адзiныя сродкi асуджаных у iх барацьбе з совецкай уладай. Трэба памятаць гэта i быць пiльным».

Вось да чаго заклiкае нас таварыш Сталiн.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР будуць праходзiць у напружанай мiжнароднай абстаноўцы. Фашысты ў Германii, Японii, Iталii, i Польшчы вядуць правакацыю, каб выклiкаць новую вайну i ў першую чаргу супроць Совецкага Саюза. Наша рэспублiка знаходзiцца на границы. Таму нам трэба асаблiва быць пiльнымi i непрымiрымымi да любых проiскаў ворагаў. Кожны партыйны i непартыйны большэвiк не павiнен забываць словы вялiкага Сталiна:

> «Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабiлiзацыйнай гатоўнасцi перад тварам небяспекi ваеннага нападу, каб нiякая «выпадковасць» i нiякiя фокусы нашых знешнiх ворагаў не маглi засцiгнуць нас знянацку...»

Мы павiнны зараз паказаць беларускаму народу, што гэтыя тройчы праклятыя, прэзрэнныя шаранговiчы, чарвяковы, галадзеды з'яўлялiся наймiтамi польскай фашысцкай разведкi. Гэта яны для ажыццяўлення сваiх каварных замыслаў супроць народа знiшчалi калгасных коней, распаўсюджвалi чуму i iншыя хваробы. Гэта яны—фашысцкiя наймiты—заблытвалi севазвароты i панiжалi ўраджайнасць нашых калгасных палёў. Гэта яны—гэтыя фашысцкiя псы—ставiлi стаўку на адарванне Совецкай Беларусi ад вялiкага Совецкага Саюза. Гэта яны—наймiты фашызма—сеялi нацыянальную рознь i скажалi ленiнска-сталiнскую нацыянальную палiтыку, iмкнулiся азлабiць

супроць совецкай улады і большэвіцкай партыі беларускае сялянства і рабочых.

Цяпер гэта даказана. Для ўсіх зразумела, што лепельская справа—гэта адно са звенняў падрыўной, здрадніцкай работы гэтых прадажнікаў, выконваўшых заданні сваіх фашысцкіх гаспадароў—пілсудчыкаў.

Ворагі пралічыліся. Наша слаўная совецкая разведка на чале са сталінскім наркомам тав. Нікалаем Іванавічам Ежовым выкрыла гэту шайку гнусных бандытаў, гэтых здраднікаў. Наш совецкі суд выздаў ім належнае, знішчыў, як шалёных псоў, выканаўшы тым самым аднадушную волю нашага совецкага народа.

Задача партарганізацый заключаецца ў тым, каб па-большэвіцку ўзяцца за поўную ліквідацыю ўсіх вынікаў шкодніцтва, усямерна развіваць актыўнасць мас, павышаць рэволюцыйную пільнасць, своечасова прысякаць малейшыя спробы ворагаў народа.

Наш абавязак —мацаваць сувязь з масамі, ні на мінуту не адрывацца ад мас, усюды несці большэвіцкае слова ў народныя масы. Беларускі народ, як заўсёды адданы справе Леніна—Сталіна, не раз яшчэ прадэманструе сваю любоў да партыі большэвікоў і роднага вялікага Сталіна.

Няхай памятаюць ворагі, што ў СССР зліліся ў адно дзве несакрушальныя сілы—народ і комунізм.

Мы павінны, таварышы, у надыходзячую выбарчую кампанію, у час выбараў у Вярхоўны Совет нашай рэспублікі нястомна працаваць, працаваць і працаваць.

Таварышы, я заклікаю вас да таго, каб зразумець, адчуць большэвіцкім нутром, якія адказныя задачы стаяць перад намі ў гэты сур'ёзнейшы момант, перажываемы намі, калі міжнародная абстаноўка ўсё больш і больш абвастраецца. Нам трэба пабудаваць партыйную работу так, каб яна адпавядала патрабаванням нашай партыі, указанням таварыша Сталіна.

Давайце, таварышы, пабудуем сваю работу так, каб найшырэйшыя масы яшчэ больш, яшчэ мацней згуртаваліся вакол нашай партыі, нашага Совецкага ўрада, вакол нашага любімага правадыра таварыша Сталіна.

Няхай жыве наш вялікі Сталін! **(Усе ўстаюць, працяжныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты).**

# Задачы партыйных арганізацый у правядзенні веснавой пасеўнай кампаніі

***Даклад выконваючага абавязкі сакратара ЦК КП(б)Б тав. А. М. ЛЯВІЦКАГА на пленуме ЦК КП(б)Б*)***

Таварышы! Штодзенныя клопаты і дапамога, якую аказваюць Савецкай Беларусі наш урад, Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі большэвікоў і асабіста таварыш Сталін,—настолькі велізарны, што цалкам і поўнасцю забяспечваюць нам магчымасць карэннага паляпшэння нашай работы ў сельскай гаспадарцы. Гэта дапамога стварыла ўсе прадпасылкі для таго, каб мы працавалі непараўнальна лепш, чым мы з вамі працуем на сёнешні дзень.

У гістарычнай пастанове СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня 1937 года беларускі народ атрымаў велізарную дапамогу ў справе ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы. У гэтым рашэнні прадугледжаны мерапрыемствы, накіраваныя на ўздым соцыялістычнай сельскай гаспадаркі Беларусі. Гэтымі мерапрыемствамі былі ліквідаваны шкодніцка арганізаваныя на сялянскіх землях соўгасы і перададзены навечна калгасам, было знята з калгасаў нашай Беларускай ССР 300 тысяч гектараў няправільна налічаных пасеўных плошчаў. Гэтым рашэннем была аказана выключная дапамога: арганізавана 60 новых МТС, прадастаўлен рад ільгот для калгаснікаў і аднаасобнікаў па пастаўках мяса, малака і бульбы. Апрача таго, пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня вернуты калгаснікам незаконна адрэзаныя ў іх шкоднікамі прысядзібныя землі, перададзены калгасам лясы і выпасы на вечнае карыстанне.

Апрача гэтага гістарычнага рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б) Беларусі аказаны дадатковыя ільготы па зернапастаўках. Дадаткова намечана к арганізацыі новых 15 МТС, Рэспубліка атрымала вялікую насенную дапамогу.

Усе гэтыя мерапрыемствы Саюзнага ўрада і Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, дапамога, аказаная імі спецыяльна для Беларускай ССР, стварылі поўную магчымасць да таго, каб мы ў сёлетнюю веснавую сяўбу—у першую вясну трэцяй сталінскай пяцігодкі—маглі паказаць узоры работы на фронце сельскай гаспадаркі. Яны стварылі ўсе прадпасылкі для быстрага і рэзкага ўздыму ўраджайнасці нашых калгасных палёў.

---

* Скарочаная стэнаграма.

Апошняе рашэнне ўрада і партыі аб плане кантрактацыі ільну і канапель у 1938 годзе дае нам дадатковыя вялікія магчымасці для ўздыму ўсёй нашай сельскай гаспадаркі ў Беларусі. З 9.654 калгасаў Беларусі лён сеюць шэсць з лішнім тысяч калгасаў. Значыць, калі прыняць пад увагу і пасеў канапель, то прыкладна на 80 з лішнім процантаў усіх калгасаў БССР распаўсюджваецца закон аб ільготах і заахвочванні іх пры пасеве ільну і канапель.

Усе мерапрыемствы партыі і ўрада ствараюць выключна спрыяючыя ўмовы і ўзнімаюць палітычную актыўнасць калгаснікаў на барацьбу за павышэнне ўраджайнасці, за выкананне сталінскага лозунга аб 7—8 мільярдах пудоў штогодняй вытворчасці хлеба, за ўздым палітычнага, матэрыяльнага і культурнага ўзроўню калгасных мас.

Калгаснае сялянства Совецкай Беларусі неаднаразова дэманстравала сваю палітычную зрэласць. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР у знамянальны дзень 12 снежня 1937 года паказалі згуртаванасць усяго нашага працоўнага народа вакол комуністычнай партыі і совецкага ўрада, вакол любімага правадыра і друга таварыша Сталіна.

Палітычная актыўнасць і вытворчы ўздым калгасных мас наглядна відны на разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху ў калгасах і соўгасах Беларусі.

Яшчэ сем з паловай год назад таварыш Сталін, выступаючы на XVI з'ездзе нашай партыі, гаварыў:

> «Самае выдатнае ў спаборніцтве заключаецца ў тым, што яно робіць карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага і цяжкага ярма, якім яна лічылася раней, у справу **чэсці,** у справу **славы,** у справу **доблесці і геройства».**

Далей таварыш Сталін гаварыў:

> «Не менш выдатным у спаборніцтве трэба лічыць той факт, што яно пачынае пашырацца і ў вёсцы, захапіўшы ўжо нашы соўгасы і калгасы».

Тады, сем з паловай год назад, соцыялістычнае спаборніцтва толькі пачынала пранікаць у калгасы і соўгасы. Зараз у нашай велізарнай краіне няма такога калгаса і соўгаса, дзе не было-б сваіх ударнікаў, сваіх стаханаўцаў.

У Беларусі мы маем 9.654 калгасы, з іх 7.580 калгасаў, або 76,5 проц., уступілі ў соцыялістычнае спаборніцтва за большэвіцкае правядзенне веснавой сяўбы і ўздым ураджайнасці калгасных палёў. У гэтых калгасах уступілі паміж сабой у соцыялістычнае спаборніцтва за сталінскі ўраджай 13.852 брыгады і 16.923 звяны. Па рэспубліцы арганізавана 11.432 стаханаўскія брыгады і 20.687 стаханаўскіх звенняў. Многія з іх, мяркуючы па абавязацельствах, якія яны ўзялі на сябе, паставілі перад сабой вельмі вялікія і сур'ёзныя задачы.

Напрыклад, па зернавых культурах: 2.265 брыгад абавязаліся атрымаць ураджай зернавых ад 20 да 25 цэнтнераў. Па бульбе: 877 брыгад абавязаліся атрымаць ураджайнасць ад 250 да 300 цэнтнераў з гектара, 455 брыгад—ад 300 да 400 цэнтнераў з гектара. Па ільнавалакну 294 брыгады абавязаліся атрымаць ураджайнасць ад 10 да 12 цэнтнераў.

Стаханаўскія звенні ў сваіх абавязацельствах ідуць значна далей брыгад. Атрымаць ураджайнасць па зернавых 30 цэнтнераў з гектара абавязаліся 376 звенняў. Па бульбе 499 звенняў абавязаліся

атрымаць звыш 400 цэнтнераў з гектара. Па ільнавалакну абавязаліся атрымаць ураджай 442 звяны—звыш 12 цэнтнераў з гектара.

Для таго, каб паўней было ўяўленне аб становішчы разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва ў калгасах рэспублікі, я прывяду яшчэ некалькі фактаў па асобных раёнах.

Вось, напрыклад, па Лельчыцкаму раёну,—у рэзультаце праведзенай масавай работы ўступіла ў соцыялістычнае спаборніцтва 115 брыгад, 286 звенняў, у тым ліку 125 стаханаўскіх. У раёне спаборнічаюць паміж сабой усе 54 калгасы. У Барысаўскім раёне 85 калгасаў, 120 брыгад, 90 звенняў уступілі ў соцыялістычнае спаборніцтва, узяўшы на сябе абавязацельства атрымаць ураджай па зернавых—звыш 20 цэнтнераў, па бульбе—звыш 300 цэнтнераў і па ільнавалакну—звыш 10 цэнтнераў з гектара. 25 калгасаў раёна абавязаліся дабіцца ўраджаю не ніжэй умоў для ўдзельнікаў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

Гэтыя даныя гавораць аб каласальным палітычным уздыме шырокіх калгасных мас. Але гэты палітычны ўздым не заўсёды замацоўваецца арганізацыйна-масавай работай з боку партыйных арганізацый. У Лельчыцкім раёне, дзе так вяліка актыўнасць калгаснікаў у справе барацьбы за высокі ўраджай, вельмі дрэнна арганізавана агратэхнічная вучоба стаханаўцаў,—у гэтым раёне працуюць усяго толькі 4 агратэхгурткі.

Па раду раёнаў соцыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух разгортваецца нездавальняюча. Прывяду факты, якія пацвярджаюць гэта становішча. Вось, напрыклад, па Дрысенскаму раёну са 124 калгасаў уступілі ў спаборніцтва ўсяго толькі 66. У Магілеўскім раёне са 194 калгасаў спаборнічае толькі 121, у Сіроцінскім раёне не спаборнічаюць 45 калгасаў, у Жлобінскім—40, у Рагачоўскім—38, у Чырвонапольскім—52, у Брагінскім—45, у Глускім—64. Такое-ж становішча і ў Шклоўскім, Бабруйскім, Заслаўскім, Лоеўскім і Нараўлянскім раёнах. У гэтых раёнах у выніку адсутнасці належнай увагі да гэтай справы з боку партыйных арганізацый соцыялістычнае спаборніцтва арганізавана з рук вон дрэнна.

## Па-большэвіцку правядзем першую вясну трэцяй сталінскай пяцігодкі

Таварышы! Не гледзячы на велізарную дапамогу, аказаную нам ЦК ВКП(б) і Саюзным урадам, не гледзячы на наяўнасць культурнага, палітычнага і вытворчага ўздыму калгасных мас, справа падрыхтоўкі да сяўбы знаходзіцца ў нас далёка не ў здавальняючым стане. Гэта з'яўляецца рэзультатам таго, што партыйныя арганізацыі, замест канкрэтнага кіраўніцтва справай падрыхтоўкі да сяўбы, да гэтага часу прадаўжаюць кіраваць «наогул» і, у рэзультаце гэтага, яны дрэнна ведаюць становішча спраў на месцах.

Можна, таварышы, на жывых прыкладах паказаць некалькі партыйных арганізацый і ў першую чаргу сакратароў раённых камітэтаў партыі і кіраўнікоў совецкіх і зямельных органаў, якія дрэнна ведаюць становішча спраў у калгасах і соўгасах. У Рэчыцкім раёне сакратар райкома партыі не ведае становішча спраў у калгасах раёна, дзе захаваліся такія назвы калгасаў, як напрыклад «Мудрэц» і т. д.

У Нараўлянскім раёне першы і другі сакратары райкома не ведаюць становішча спраў у калгасах, не ведаюць іх матэрыяльнай базы, іх магчымасцей, не ведаюць людзей у калгасах. У калгасе «Міхалкі» зябліва не культывуюць, а пераворваюць. Калі спыталі стар-

шыню, чаму ён так робіць, то калгаснікі, не чакаючы яго адказу, заявілі, што робіць ён гэта няправільна, супроць іх жадання. Старшыня калгаса, не гледзячы на гэта, прадаўжаў настойваць на сваім. Не гледзячы на пярэчанне калгаснікаў, ён не праводзіць культывацыі зябліва, падмяніўшы яе пераворваннем. Гэты-ж старшыня калгаса праводзіць работу супроць радковай сяўбы. У калгасе ёсць 2 сеялкі, з якіх адна нават не адрамантавана. Сяўба ў гэтым калгасе з першых-жа дзён праводзіцца выключна ўручную.

Адной з асноўных прычын, якія тармозяць падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы, з'яўляецца з рук вон дрэнная работа Наркамзема Беларусі. Гэты Наркамат дрэнна спраўляецца з задачай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы Беларусі.

Можна прывесці рад здзіўляючых прыкладаў, калі затрачваецца выключна многа часу ў Наркамземе БССР на вырашэнне пытанняў, пастаўленых перад ім з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый, з боку Цэнтральнага Камітэта партыі, што, безумоўна, не спрыяе ўмацаванню работы зямельных органаў на месцах. Вось, напрыклад, указанне ЦК КП(б)Б аб раздзяленні МТМ і МТС у Гомелі не выконвалася Наркамземам БССР 2 месяцы.

Возьмем другі прыклад—аб лубіне. Вы ведаеце, што ў газеце «Правда» быў надрукаван спецыяльны артыкул па гэтаму пытанню. Цэнтральны Камітэт прыняў спецыяльнае рашэнне па гэтаму артыкулу. Гэтым рашэннем Наркамзем абавязаўся правесці цэлы рад мерапрыемстваў па пытанню расшырэння пасеваў лубіна ў калгасах і ўздыму ўраджайнасці гэтай найкаштоўнейшай культуры. Аднак, да самага апошняга часу Наркамзем нічога не зрабіў і толькі 2 дні таму назад ён даў свае прапановы па гэтаму пытанню.

Возьмем такое пытанне, як культывацыя глебы. Зусім ясна і зразумела для ўсіх, што культывацыя з'яўляецца найбольш культурным спосабам апрацоўкі глебы. А вось у Наркамземе, у прыватнасці яго агратэхнічнае кіраўніцтва, прымае ўсе меры для таго, каб выцесніць культывацыю з нашых палёў. У калгасах культыватары ёсць, але не скарыстоўваюцца. Прычым у радзе калгасаў,—ЦК мае весткі,—аграномы даюць прамую ўстаноўку не скарыстоўваць культыватараў на апрацоўку глебы.

Такое-ж становішча і з пасевам канюшыны. Быў час, калі ў Наркамземе склалі спецыяльную зводку, па якой лічылася, што ў БССР 44 проц. зямлі непрыгоднай пад пасеў канюшыны. Побач з гэтым праводзіцца і іншая работа: змешваюцца сарты канюшыны. Больш таго, прымаюцца меры да таго, каб усякія размежаванні паміж двухукоснай і аднаўкоснай канюшынай былі па сутнасці сцёрты. Калі перад работнікамі Наркамзема было пастаўлена пытанне аб аднаўкоснай і двухукоснай канюшыне, то яны (Беркоўскі і некаторыя іншыя) прабавалі замазаць гэта пытанне, заяўляючы, што для нас у БССР усёроўна, што аднаўкосная і што двухукосная канюшына, уся справа, бачыце,—у плошчы, калі плошча добрая, то любая канюшына, моў, родзіцца, а калі плошча дрэнная, то ніякая канюшына не родзіцца. Гэта сцвярджэнне няправільнае. Мы павінны праводзіць работу па размежаванню раёнаў пасеву аднаўкоснай і двухукоснай канюшыны: першай для паўночнай, а другой—для паўднёвай часткі БССР.

У гэтым годзе з таго насення, якое мы атрымалі, мы ўжо стараемся правесці некаторае размежаванне, і ўсю аднаўкосную канюшыну накіроўваем на поўнач, а двухукосную—на поўдзень. Але я вам

павінен сказаць, што Наркамзем усё-такі правёў няправільнае размеркаванне насення. Па яго разнарадках частка насення аднаўкоснай канюшыны трапіла на поўдзень, а частка двухукоснай—на поўнач.

Калі да гэтага дадаць тое становішча, якое мы маем адносна сеялак і радковай сяўбы, то стануць зусім яснымі няправільныя адносіны да радковай сяўбы, якія існуюць у рэспубліцы. Гэты няправільны падыход пачынаецца ў Наркамземе, і пачынаецца ён з планавання Наркамзема. Наркамзем, напрыклад, запланаваў лічбу радковай сяўбы яравых у 350 тысяч гектараў, у той час, калі мы маем (па дзяржаўнай норме) магчымасць засеяць аднымі толькі трактарнымі сеялкамі 380 тысяч гектараў. Трэба ўлічыць, што апрача трактарных сеялак мы маем яшчэ каля 8 тысяч конных сеялак, якія пры самым мінімальным падліку могуць зрабіць яшчэ 180—200 тысяч гектараў. Яскравая справа, што такія адносіны Наркамзема да радковай сяўбы вядуць да таго, што і ў калгасах ігнаруюць гэта важнейшае мерапрыемства па ўздыму ўраджайнасці. Не выпадкова на складах Сельгасснаба стаяць нераспраданымі каля 500 штук сеялак розных тыпаў. Менскі раён мае на складзе Сельгасснаба 53 штукі розных сеялак. Віцебскі—47, Бабруйскі—20, Аршанскі—55, Лепельскі—67, Слуцкі—21 і т. д. Гэта пры тым становішчы рэчаў, калі Беларусь з года ў год не выконвае план радковай сяўбы.

Я хацеў-бы прывесці яшчэ адзін здзіўляючы прыклад, які літаральна б'е ў вочы і які патрабуе неадкладнага вырашэння пытання. Гэта—становішча з разорамі. Што такое разор? Можна разумець двaяка: разор—гэта значыць глыбокая баразна, а па простаму—гэта самы сапраўдны разор калгаснай гаспадаркі. Усюды, калі ставіш пытанне прама: для чаго вы гэта робіце?—атрымліваеш адказ: для стоку вады. Я вам павінен сказаць, што для стоку вады сапраўды робяцца водаадводныя канавы. Аднак, гэты самы разор, які робіцца незалежна ад схілу глебы, а толькі ў адпаведнасці з той баразной, па якой ідзе араты, нічога агульнага не мае з водаадводнай канавай. Я лічу, што гэты разор ёсць нешта іншае, як старая мяжа, якая захавалася ад аднаасобнай гаспадаркі. Такім чынам, старая прывычка аднаасобніка скарыстана цяпер шкоднікамі для таго, каб усю глебу, усё ворыва разбіць на вузкія палоскі. Прычым, у цэлым радзе месц разоры знаходзяцца адзін ад аднаго на адлегласці не больш 7—10 метраў.

Самая простая агратэхніка патрабуе абавязковай роўнасці глебы. І толькі ў тых выпадках, калі ў асобных месцах атрымліваецца застой вады, які прыводзіць да вымачак, трэба, незалежна ад напрамку ворыва, рабіць водаадводную канаву.

Па гэтаму пытанню асобныя таварышы заяўляюць, што ў нас, моў, глеба часта падвяргаецца вымачкам, і калі мы гэтыя самыя разоры робім, у нас на буграх, на асушаючайся глебе лепш вырастае расліна. Гэта можа быць, але я больш чым упэўнен, што такіх плошчаў, якія знаходзіліся-б увесь час цалкам і поўнасцю пад уплывам сточнай вады, настолькі мала, што яны, вядома, не з'яўляюцца падставай для таго, каб на ўсіх палях захоўваць разоры.

Справа тут заключаецца ў тым, што людзі прадаўжаюць прымяняць зусім няправільную агратэхніку. У сувязі з разорамі, я павінен сказаць, што мы павінны прымяняць больш шырокія загонныя ўчасткі і безумоўна, як правіла, скрозь і ўсюды праводзіць баранаванне не-

пасрэдна следам за ворывам, што ў большасці выпадкаў у калгасах рэспублікі не прымяняецца.

Усе гэтыя факты адносна ўкаранення ў калгасах агратэхнічных мерапрыемстваў, пытанні лубіна, канюшыны, дапамогі і кіраўніцтва нізавымі зямельнымі органамі з боку Наркамзема—яўна сведчаць аб тым, што апарат Наркамзема яшчэ да гэтага часу па-сапраўднаму, па-бальшэвіцку не ўзяўся за быстрэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы Беларусі.

Не гледзячы на тое, што мы знаходзімся ў адносна добрым стане ў сэнсе забяспечанасці насеннем і па некаторых іншых станоўчых даных, усё-ж агульны малюнак падрыхтоўкі да веснавой сяўбы з'яўляецца нездавальняючым. Калгасы рэспублікі не забяспечаны насеннем лубіна. Прычым, я вам павінен сказаць, што гэта незабяспечанасць насеннем лубіна заключаецца зусім не ў тым, што гэтага насення няма. Яно ёсць, але ў большасці выпадкаў знаходзіцца ў неабмалочаным выглядзе. Вось, напрыклад, у калгасе «Міцькі», Нараўлянскага раёна, лубін стаіць неабмалочаным. Такое-ж з'явішча мае месца і па раду калгасаў іншых раёнаў. У нас яшчэ не поўнасцю засыпана і насенне гароху, канюшыны і вікі.

Надзвычай важным пытаннем, вырашэнне якога патрабуе прыняцця неадкладных рашучых мер, з'яўляецца перадпасеўная ачыстка насення. Другі аналіз, які мы правялі на ўсхожасць, паказвае, праўда, значнае зніжэнне засмечанасці, але ўсё-ж мы яшчэ маем вялікую колькасць насення, заражанага кляшчом і засмечанага рознай прымессю. Гэта патрабуе ад нас неадкладнага давядзення якасці насення да адпаведных дзяржаўных стандартаў і абавязковай і дакладнай праверкі насення перад тым, як выязджаць у поле.

Трэба неадкладна закончыць міжкалгасны абмен і, асабліва, дзяржаўны абмен насення. План абмену мы выканалі толькі на 74 проц., у той час, калі цэлы рад раёнаў не засыпалі яшчэ поўнасцю сартавога насення. А для кожнага-ж з нас зусім ясна, што пасеў несартавым зярном будзе зніжаць нашу ўраджайнасць.

З угнаеннем у нас стварылася яўна нецярпімае становішча. Гною мы вывезлі толькі 30 працантаў—гэта значна ніжэй таго, што было вывезена на гэта-ж числа ў мінулым годзе. Мінеральных угнаенняў вывезена 80 проц., торфу—60 проц., вапны ўсяго 2 проц.,фекалія—8 проц., попелу—69 проц., птушынага памёту—39 проц. Нам трэба раз назаўсёды запомніць, што, калі мы з вамі не забяспечым увесь пасеўны клін гноем і мінеральнымі ўгнаеннямі, мы, вядома, ураджай, які мы разлічваем атрымаць,—не атрымаем. Вось чаму на гэта пытанне трэба звярнуць самую сур'ёзную ўвагу. Неабходна рашуча дабіцца безумоўнага выканання планаў унясення ўгнаенняў у глебу, звярнуўшы асаблівую ўвагу на максімальнае скарыстанне мясцовых відаў угнаення.

Наступнае пытанне, на якое трэба звярнуць сур'ёзную ўвагу,—з'яўляецца рамонт трактараў. Калі ў цэлым па рэспубліцы становішча з рамонтам трактараў не зусім пагражаючае, то па асобных раёнах мы маем зусім недапушчальнае з'явішча. Па зводках на 20 сакавіка план капітальнага рамонту выканан на 89 проц. Зараз мы набліжаемся да завяршэння плана як капітальнага, так і сярэдняга рамонту трактараў. Аднак, цэлы рад раёнаў прадаўжае знаходзіцца ў цяжкім становішчы. Вось, напрыклад, Хадцэвіцкая МТС, Сенненскага раёна, выканала план рамонту на 35 проц., Свяцілавіцкая МТС—на 48 проц., Кіраўская МТС (Кіраўскага раёна)—на 42 проц. і некато-

рыя іншыя. Зразумела, што ў гэтых МТС ёсць пагроза невыканання плана веснавых работ. І зусім незразумела, чаму райкомы партыі так халоднакроўна церпяць такое становішча рэчаў. Неабходна неадкладна завяршыць поўнасцю рамонт усіх трактараў у МТС і соўгасах і забяспечыць арганізацыю работы МТС такім чынам, каб кожная МТС нашай рэспублікі выканала свой вытворчы план у 1938 годзе.

Я хацеў-бы спыніцца яшчэ на пытанні аб кармавой базе для цягла. У нас у асобных месцах з прычыны адсутнасці належнай увагі з боку партыйных і савецкіх арганізацый і зямельных органаў стварылася напружанае становішча з канцэнтраванымі і грубымі кармамі для цягавай сілы ў часе пасеўнай. Дзяржава нам аказала дапамогу кармамі. Мы атрымалі цяпер каля 30 тысяч цэнтнераў грубых кармоў для дапамогі калгасам. Я лічыў-бы, што партарганізацыі і асабліва зямельныя органы павінны звярнуць зараз галоўную ўвагу на мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў калгасаў, асабліва на правільнае скарыстанне тых кармавых рэсурсаў, якія ёсць у калгасах.

Адным з сур'ёзных фактараў у справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў з'яўляецца правільнае размеркаванне даходнасці калгасаў, а таксама складанне і выкананне вытворчых планаў у калгасах. У гэтай справе мы маем прамое парушэнне сталінскага статута сельгасарцелі, якое трэба неадкладна-ж выправіць. На самай справе, хіба можна лічыць нармальным, што і цяпер у рэспубліцы ў радзе калгасаў да гэтага часу не закончана размеркаванне даходаў па працаднях. А гэта вырашае пытанне працоўнай дысцыпліны. Нашы кіраўнікі раёнаў, дзе маюць месца факты затрымання выдачы заробленых прадуктаў і грошай у мінулым годзе па працаднях, відавочна, любяць многа гаварыць аб поспехах, забыўшыся, што яны не зрабілі самага элементарнага, што павінна забяспечыць поспех сяўбы,—не паклапаціліся, каб калгаснікі атрымалі тое, што імі чэсна зароблена ў калгасе.

Зусім недапушчальнае становішча мы маем са складаннем вытворчых планаў у калгасах. Яны складзены, прыкладна, толькі ў палове калгасаў, а астатнія калгасы ўступаюць у сяўбу без вытворчых планаў. Гэту справу трэба неадкладна выправіць. Астаўшыяся дні да пачатку сяўбы трэба скарыстаць для таго, каб, па-першае, кожны калгас поўнасцю разлічыўся з калгаснікамі па працаднях, і, па-другое, каб у нас не было ні аднаго калгаса, які-б уступаў у сяўбу, не маючы вытворчага плана на ўвесь 1938 год.

Становішча падрыхтоўкі да сяўбы ў разрэзе абласцей паказвае, што найбольш адстаючымі абласцямі з'яўляюцца Магілеўская і, асабліва, Гомельская вобласць. Прычым, адносна Гомельскай вобласці можна прывесці наступныя даныя: план засыпкі канюшыны ў гэтай вобласці выканан усяго на 19,9 проц., па засыпцы сартавых зернавых яна ідзе ніжэй сярэдняга процанта па рэспубліцы на 7 проц., на 10 проц. ніжэй сярэдняй рэспубліканскай лічбы яна ідзе і па вывазцы гною. Калі рэспубліка ў цэлым выканала план вывазкі мінеральных угнаенняў на 80 проц., то Гомельская вобласць вывезла на палі мінеральных угнаенняў толькі 43,8 проц., а план вывазкі торфу выканан па вобласці на 45 проц.

Зусім незразумела становішча вывазкі гаручага па Гомельскай вобласці. Калі рэспубліка свой план па вывазцы гаручага выканала, то Гомельская вобласць план вывазкі гаручага недавыканала на 18 проц.

У Гомельскай вобласці найбольш адстаючым раёнам з'яўляецца Жлобінскі. Загадчык райза гэтага раёна тав. Карунчык паведаміў у Наркамзем БССР, што насенне ачышчана на 100 проц. Праверкай-жа ўстаноўлена, што гэтыя даныя з'яўляюцца очкаўціраценьскімі. Вось, напрыклад, у калгасе «Зара» з 220 цэнтнераў насення не ачышчана 156. У калгасе «Правда» з 320 цэнтнераў насення не ачышчана 263. Значная частка насення ў гэтым калгасе з'яўляецца некандыцыйнай. Раённыя арганізацыі, супакоіўшыся на очкаўціраценьскіх вестках сельсоветаў, пытаннем ачысткі насення не займаюцца. У той-жа час у радзе калгасаў раёна дапушчана псаванне насення. У адным калгасе «Ударнік» сапсавана 120 цэнтнераў ячменю.

Вось другі адстаючы раён—Уваравіцкі, той-жа вобласці. План засыпкі насення ў гэтым раёне недавыканан на 10 проц., план міжкалгаснага абмену выканан на 55 проц., план абмену сартавога насення з рэсурсаў Заготзярна і з Дзяржсортфонда выканан на 64 проц. Завезена мінеральных угнаенняў усяго 37 тон. Насенне зернавых ачышчана на 79 проц., трактары адрамантаваны на 40 проц. Гною вывезена 16 проц. З праверанага насеннага фонда праз кантрольную насеннаводчую лабараторыю аказалася некандыцыйным па чыстаце: аўса—45 проц., пшаніцы—64 проц., ячменю—86 проц.

Да адстаючых раёнаў трэба аднесці і Клічаўскі раён, Магілеўскай вобласці, які да гэтага часу не закончыў засыпкі насеннага фонду. Сартавога зярна засыпана тут 64 проц., не выканан план міжкалгаснага абмену. Вытворчыя планы складзены толькі ў 12 проц. агульнай колькасці калгасаў.

Я лічу, што неабходна прыняць самыя энергічныя меры, каб на працягу бліжэйшых-жа дзён выправіць усе недахопы з падрыхтоўкай да сяўбы. Сродкі і магчымасці для гэтага ёсць усюды. Нядаўняе рашэнне Соўнаркома СССР аб парадку фінансавання МТС, аб рамонце трактараў і камбайнаў, аб ільготах і мерапрыемствах па павышэнню ўраджайнасці ільну, канапель, бульбы паказваюць, якую велізарную ўвагу ўдзяляюць партыя і ўрад далейшаму развіццю соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Мы абавязаны патрабаваць ад кіраўнікоў партыйных і совецкіх арганізацый раёнаў і абласцей большэвіцкай работы, сапраўднай, а не паказной адказнасці за становішча падрыхтоўкі да сяўбы. Неабходна запомніць, што цяпер поспех справы будзе вырашаць аператыўнае, канкрэтнае кіраўніцтва партыйных, совецкіх арганізацый і зямельных органаў.

## Барацьба за ўраджайнасць—ёсць барацьба за большэвіцкія калгасы і заможнасць калгаснікаў.

Палітычны ўздым і вытворчая актыўнасць, як правіла, партыйнымі арганізацыямі ў калгасах не замацоўваюцца арганізацыйнай работай. Я хацеў-бы прывесці адзін вельмі паказальны прыклад аб стане партыйных арганізацый у нас на вёсцы.

Вось, напрыклад, такі факт. Партыйная арганізацыя на вёсцы складала на 1 студзеня 1937 года да агульнай колькасці комуністаў у рэспубліцы 22,3 проц. Вы разумееце, што гэты процант, вядома, вельмі нязначны. Але горш за ўсё, таварышы, гэта тое, што за 1937 год партыйная арганізацыя вёскі зменшылася як колькасна, так і па ўдзельнай вазе. Гэта ў той час, калі мы маем каласальнейшы рэзерв, за кошт якога партыйныя арганізацыі вёскі могуць і павінны

расці. Дастаткова ўказаць хоць-бы на той факт, што 50 проц. спачуваючых у рэспубліцы знаходзяцца на вёсцы. Вядома, колькасны склад спачуваючых на вёсцы далёка недастатковы. Але гэта рэзерв, з якім трэба сур'ёзна працаваць, выхоўваць і лепшых з іх прымаць у партыю.

Я вам павінен прывесці яшчэ адзін факт у адносінах комсамольскіх арганізацый. У МТС і калгасах рэспублікі ёсць толькі 28 тысяч комсамольцаў. Я лічу, што гэта крайне недастаткова. Апрача таго, толькі ў 25 проц. калгасаў БССР ёсць комсамольскія арганізацыі. Мне думаецца, што з такім становішчам мірыцца, безумоўна, нельга. Я думаю, што нашы кіраўнікі партыйных арганізацый улічаць гэту заўвагу і прымуць усе меры да палепшання работы комсамола і яго росту.

Нашым партарганізацыям вёскі ёсць за лік каго расці. Ёсць выдатныя людзі, выдатныя старшыні калгасаў, брыгадзіры, стаханаўцы, выдатныя комсамольцы, апраўдаўшыя сябе на рабоце, паказаўшыя сябе на выбарах у Вярхоўны Совет СССР. А мы часта не заўважаем гэтых людзей, не працуем з імі.

Наступнае пытанне, на якім трэба спыніць увагу партыйных арганізацый,—гэта адносіны да выканання планаў. Шкоднікі, якія арудавалі ў некаторых рэспубліканскіх органах, пры планаванні дапускалі страхоўку і гэтым прывучылі раёны і калгасы не выконваць поўнасцю планаў. Гэта шкодніцкая работа ворагаў народа—польскіх шпіёнаў і дыверсантаў—была накіравана на разлажэнне нашых калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў, была накіравана на падрыў магутнасці калгаснага ладу Совецкай дзяржавы. Беларусь ні ў адзін год па сутнасці не выканала сваіх планаў. Нам вядома, што выкрытыя і знішчаныя ворагі народа, якія арудавалі ў Беларусі, ашуквалі вышэйстаячыя органы і прывучылі раёны і калгасы не выконваць поўнасцю і ў тэрмін дзяржаўных планаў. Нашы партыйныя арганізацыі не зрабілі належных вывадаў са шкодніцкай работы ворагаў народа ў гэтым пытанні і не здолелі ўвязаць велізарны рост палітычнай актыўнасці калгасных мас і праводзімую палітычную работу на вёсцы з задачай па выхаванню калгаснікаў і ўсіх працоўных вёскі на акуратнае выкананне свайго свяшчэннага абавязку перад дзяржавай.

Такое становішча далей не можа быць цярпіма. Мы павінны палітычна выхоўваць нашы партыйныя арганізацыі, калгаснікаў, аднаасобнікаў, усіх працоўных, каб яны акуратна выконвалі свае абавязацельствы перад дзяржавай. Усе прадпасылкі для выканання абавязкаў перад дзяржавай у нас ёсць. У нас у наяўнасці велізарны палітычны ўздым і вытворчая актыўнасць насельніцтва. Гэта можна прадэманстраваць на выдатных узорах работы ў нашай сельскай гаспадарцы.

Возьмем калгасы з сярэднімі паказальнікамі. Вось, напрыклад, калгас імя Варашылава, Мсціслаўскага раёна. Гэты калгас арганізаван у 1929 годзе. Зямлі (усіх угоддзяў) ён мае 488 гектараў, у тым ліку ворнай—266 гектараў, сенакосу—115, саду—20 гектараў. У калгасе ёсць тры фермы: малочна-таварная з агульным пагалоўем 70 штук, свінагадоўчая з агульнай колькасцю 30 галоў і аўцагадоўчая—50 галоў. Калгас мае 50 коней, з якіх большасць вышэй сярэдняй укормленасці.

У 1937 годзе, у мэтах заваявання высокага ўраджаю, пад усе зернавыя культуры і лён уносіліся мінеральныя ўгнаенні. Так, на кожны

гектар унесена па 6 цэнтнераў фасфарытнай мукі, апрача таго, пад авёс на плошчы 15 гектараў унесена дадаткова па 2 цэнтнеры суперфасфату. 38 гектараў пшаніцы пасеяна па гною з разліку 100 вазоў на 1 гектар. Пад тэхнічныя культуры—лён—уносілася 3 цэнтнеры суперфасфату і 1,5 цэнтнера калійнай солі. У якасці падкормкі прымянялася аміячная селітра.

У рэзультаце прымянення стаханаўскіх метадаў працы калгас атрымаў сярэдні ўраджай: па зернавых—15 цэнтнераў, ільнасемя—4,15 цэнтнера і бульбы—147 цэнтнераў з гектара. Калгаснікі атрымалі на працадзень зернавых па 5,5 кілограма, бульбы—8 кілограмаў, грубых кармоў для жывёлы—7 кілограмаў.

За 1937 год у калгасе выпушчана 27 нумараў насценнай газеты; калгаснікі выпісваюць 40 экземпляраў газет. У сучасны момант у калгасе арганізавана 12 стаханаўскіх звенняў. Звеннявая Леонава дала абавязацельства дабіцца ўраджаю па зернавых 20—30 цэнтнераў і па ільнавалакну—10 цэнтнераў з гектара.

Калгас «Ротэ фанэ», таго-ж Мсціслаўскага раёна, арганізован у 1924 годзе. Зямлі ў калгасе (усіх угоддзяў) 263 гектары. У рэзультаце выканання агратэхнічных мерапрыемстваў і стаханаўскіх метадаў працы калгас у 1937 годзе атрымаў ураджай зернавых па 15,5 цэнтн. з гектара. Калгаснікі атрымалі на працадзень: зернавых па 7,5 кгр., бульбы—9 кгр., сена і саломы для жывёлы па 5 кгр. Усе калгаснікі гэтага калгаса выпісваюць газеты, сістэматычна праводзяц калектыўнае чытанне газет. У калгасе працуе гурток па вывучэнню Канстытуцыі і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР».

Можна прывесці яшчэ сотні добрых калгасаў, выдатна праводзіўшых работу, на справе выконваючых Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі, чэсна і акуратна выконваючых свой свяшчэнны абавязак перад дзяржавай.

Да веснавой сяўбы Беларусь мае 200 машынна-трактарных станцый, дзе працуюць 7.500 трактараў. Да канца года трактарны парк складзе больш 8 тысяч трактараў або 155 тысяч конскіх сіл. Мы дастаткова забяспечаны трактарным інвентаром. МТС маюць 2.680 трактарных сеялак супроць 935 у 1937 годзе, аўтамашын маем 1.183, гэта значыць у два з лішнім разы больш, чым у мінулым годзе. На калгасных палях у гэтым годзе будзе працаваць 601 паўднёвы камбайн супроць 41 у мінулым годзе і 613 паўночных камбайнаў—супроць 123 у мінулым годзе.

У нас ёсць падрыхтаваных 16.500 трактарыстаў, 770 камбайнераў, 920 брыгадзіраў трактарных брыгад, 800 аграномаў, большасць якіх скончылі совецкія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Зараз падрыхтоўваецца 5,5 тысячы трактарыстаў і 400 камбайнераў. Толькі за гэту зіму вылучана з нізавых работ 58 загадчыкаў райза, 125 дырэктароў МТС і 116 намеснікаў дырэктароў МТС па палітычнай часці. У нас ёсць яшчэ большыя магчымасці па вылучэнню лепшых праверанных людзей на кіруючую работу як з партыйных, так і беспартыйных таварышоў.

Перад намі стаіць вялікая задача, якую мы ў поўнай меры можам вырашыць—паставіць Беларусь у перадавыя шарэнгі слаўных рэспублік Совецкага Саюза, паказаць нашу сілу, нашу магутнасць. Да гэтага часу мы не можам заяўляць, што мы з'яўляемся перадавой рэспублікай, па якой можна было-б раўняцца. Наадварот, Беларусь з года

ў год давала нізкія паказальнікі. Узяць хоць-бы праклад па ўраджайнасці зернавых, якая за апошнія тры гады не перавышала 8 цэнтнераў з гектара.

Для таго, каб стаць у шарэнгі перадавых рэспублік нашага Саюза, трэба дабіцца ўраджаю па зярну 13 цэнтнераў, ільнавалакна— 5 цнт. і бульбы 170 цнт. з га ў сярэднім па рэспубліцы. Перадавыя-ж раёны павінны арыентавацца на атрыманне большага ўраджаю.

## Арганізацыйна-палітычна-масавая работа ў вёсцы

Для таго, каб забяспечыць рэзкае павышэнне ўраджайнасці і выканання гэтых паказальнікаў, партыйная арганізацыя Беларусі павінна сабе чотка ўсвядоміць, што галоўнае ва ўсёй нашай рабоце— гэта тое, што мы павінны рашуча і хутчэй ліквідаваць усе вынікі шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы рэспублікі, якое нарабілі бруднай сваёй рукой права-трацкісцкія агенты фашызма, нацыянал-фашысты, шпіёны, дыверсанты і здраднікі беларускага народа. Наша задача давесці да ўсведамлення кожнага калгасніка, кожнага сельскага актывіста, кожнага комуніста свяшчэнны абавязак—выкананне ўсіх дзяржаўных абавязацельстваў. Тут мы павінны асабліва падкрэсліць, што вырашыць пытанне ўздыму ўраджайнасці і падняцця матэрыяльнага ўзроўню можна толькі ў правільным спалучэнні з выкананнем кожным калгасам, кожным калгаснікам, аднаасобнай гаспадаркай дзяржаўных абавязацельстваў.

Таварышы, гэта работа заключае ў сабе некалькі бакоў:

Першае. Галоўны бок работы партыйных арганізацый—гэта работа арганізацыйная, масавая. Тут мы павінны паставіць перад сабой цэлы рад канкрэтных, зусім пэўных і чоткіх задач. Першай задачай з'яўляецца рост партыйнай арганізацыі сяла за лік лепшых стахаНаўцаў і перадавых людзей—актывістаў, людзей праверамых, адданых справе партыі Леніна—Сталіна, а таксама паляпшэнне работы комсамольскіх арганізацый і іх рост за лік лепшай часткі калгаснай моладзі. Паляпшэнне работы хат-чытальняў, чырвоных куткоў, калгасных клубаў.

Асноўным участкам палітычнай работы ў нас павінна з'явіцца брыгада, ферма, стаханаўскае звяно, дзе лепшымі формамі работы павінны быць: гутарка, чытка газет, выпуск насценных газет з паказам лепшых узораў работы калгаснікаў-стаханаўцаў у барацьбе за павышэнне ўраджайнасці.

Партыйныя і совецкія арганізацыі, зямельныя органы абласцей і раёнаў абавязаны ўзначаліць актыўнасць калгасных мас. З гэтай задачай яны справяцца ў тым выпадку, калі шырока разгорнуць у масах партыйна-палітычную работу, калі па-сапраўднаму возьмуцца за арганізацыю соцыялістычнага спаборніцтва. Трэба памятаць указанне таварыша Сталіна аб тым, што

> «...самі гаспадарчыя поспехі, іх трываласць і працягласць цалкам і поўнасцю залежаць ад поспехаў партыйна-арганізацыйнай і партыйна-палітычнай работы, што без гэтай умовы гаспадарчыя поспехі могуць аказацца пабудаванымі на пяску».

Другое. Палітычная і арганізацыйна-гаспадарчая работа ў калгасах, асабліва ў час веснавой сяўбы, будзе мець рашаючае значэнне. І адной з умоў поспеху нашай работы з'яўляецца строгае правя-

дзенне здзельнай аплаты працы ў калгасах. Ніякай расхлябанасці ў гэтай справе мы не можам дапускаць.

Важнейшай справай з'яўляецца правільная расстаноўка людзей у калгасах. Я тут маю на ўвазе арганізацыю брыгад. Трэба рашуча адмовіцца ад фармальнага, тэрытарыяльнага прынцыпу ў арганізацыі вытворчых брыгад. Па статуту калгаса мы павінны так падбіраць і камплектаваць брыгады, каб была забяспечана найбольш эфектыўная іх работа.

Трэцяе. Пры вырашэнні задачы ўраджайнасці патрэбна поўнасцю забяспечыць выкананне аграмінімума і прымяняць усе навейшыя дасягненні агратэхнікі. Для выканання гэтай задачы неабходна поўнасцю вырашыць наступныя пытанні:

Поўнасцю скарыстаць усе наяўныя культыватары як у калгасах, так і ў соўгасах і МТС. Пры ворыве неабходна рашуча змагацца з пакіданнем разору (глыбокай баразны), робячы ў выпадку патрэбы водаадводныя канавы. Поўнасцю скарыстаць з максімальнай нагрузкай усе трактарныя і конныя сеялкі. Поўнасцю скарыстаць наяўныя ў калгасах культурныя плугі, выцясняючы некультурныя плугі «сухені», якія распыляюць глебу, наносяць вялікія страты сельскай гаспадарцы. Апрача таго, неадкладна следам за ворывам пускаць бараны, разраўноўваючы барозны, якія астаюцца пасля ворыва, спыняючы ўсякія спробы дапускаць разрыў паміж ворывам, культывацыяй. баранаваннем і сяўбой, як прычыну, садзейнічаючую высушванню і разбазарванню вільгаці ў глебе. Апрача гэтага, неабходна практыкаваць прымяненне перакрыжнай сяўбы, асабліва па ільну. Поўнасцю выканаць план унясення ў глебу мінеральных і іншых відаў угнаенняў.

Чацвертае. Усюды прыступіць да абмеркавання на калгасных сходах, вытворчых нарадах пытання ўвядзення правільных севазваротаў, маючы на ўвазе пры абмеркаванні і прыняцці севазваротаў захаванне наступных прынцыпаў: а) прыняцце і ўвядзенне травапольных севазваротаў. Гэта сказана ў рашэнні Цэнтральнага Камітэта партыі і падказваецца нашай практыкай; б) максімальнае, наколькі магчыма, захаванне зернавых, асабліва азімых. Некаторыя таварышы ўдараюцца ў крайнасць і рашучым чынам выцясняюць усякія зернавыя культуры. Гэта ў корані няправільна; в) стварэнне луга-пасьбішчнага севазвароту, а ў вялікіх калгасах кармавога або прыфермнага севазвароту. Ва ўсіх калгасах, дзе мы маем лугі і пасьбішчы, трэба будзе спецыяльна выпрацаваць лугапасьбішчны севазварот, у які ўключаліся-б усе нашы лугавыя, пасьбішчныя і выганныя ўгоддзі. Яны давалі-б, з аднаго боку, карэннае паляпшэнне лугоў, з другога боку, падымалі-б нам выпасны баланс траў і, з трэцяга боку, мы-б атрымлівалі пэўную частку з гэтых плошчаў пад пасеў зернавых культур, каб тым самым у некаторай ступені змякчыць, а, можа быць, нават поўнасцю ліквідаваць тое зніжэнне плошчы зернавых культур, на якое мы павінны пайсці ў сувязі з увядзеннем травапольнага севазвароту.

Пятае. Цяпер, калі па рашэнню ўрада прыняты рашучыя меры па аздараўленню конскага пагалоўя, нам трэба ў сваёй практычнай рабоце старанна сачыць за калгасамі, дзе былі анемійныя коні, строга сачыць, каб усе патрабаванні ветэрынарыі як у карантынных калгасах, так і ў навакольных былі безумоўна выкананы.

Догляд каня павінен быць арганізован узорна, і першае, за што трэба ўзяцца,—гэта ўтрыманне канюшні. На самай справе, ці-ж можна лічыць нармальным, што з нашых канюшань усю зіму не вы-

возяць гной? Гэта зусім няправільна. І ў гэтым трэба шукаць прычыну распаўсюджвання заразных захворванняў, вялікага падзяжу і дрэннай укормленасці каня.

Ва ўсіх калгасах, або, ва ўсякім выпадку, у пераважнай большасці, ёсць людзі, якія служылі ў Чырвонай Арміі ў кавалерыйскіх часцях ці ў артылерыі. Усе яны ведаюць, як трэба даглядаць каня. І ўсюды гэта ігнаруецца. Чаму, як правіла, коней не чысцяць, не расчышчваюць капыт? Чаму коней пояць нясвоечасова, так-сяк? І, нарэшце, чаму ў калгасах не практыкуюць падкорм каня ў баразне? Чаму не практыкуюць падвоз корму коням у поле, а наадварот— гоняць коней за 3—5 кілометраў для падкормкі ў канюшню?

Не менш важнае пытанне—гэта ўзнаўленне коней. Тут трэба прама сказаць, што ў нас людзі не сочаць за станам вытворнікаў, скарыстоўваюць іх на розныя гаспадарчыя работы, а потым здзіўляюцца, што значная частка матак прахаласціла. За вырашэнне пытання аб вытворніках у калгасах павінен узяцца Наркамзем, усе партыйныя і савецкія арганізацыі. Трэба прыцягваць да судовай адказнасці асоб, вінаватых у неахайным утрыманні і доглядзе вытворніка.

Шостае. Партыйныя арганізацыі прадаўжаюць дрэнна працаваць з аднаасобнікамі. Вось некалькі лічбаў. Мы маем 87,6 проц. калектывізацыі,—гэта на 5 проц. ніжэй агульнасаюзнага процанта. У мінулым годзе за адзін чацверты квартал па рэспубліцы было выключана з калгасаў 965 гаспадарак. Гэта вельмі вялікая лічба, і я лічу, што райкомы партыі павінны неадкладна праверыць, каго і за што выключылі з калгасаў. Трэба паглядзець, наколькі правільна яны выключаны і перагледзець няправільныя рашэнні.

У многіх раёнах партыйныя арганізацыі не вядуць пастаяннай, сістэматычнай масавай работы сярод аднаасобнікаў, не арганізуюць іх уступленне ў калгасы. Вось у Расонскім, Жлобінскім, Рэчыцкім, Кіраўскім, Лельчыцкім, Смілавіцкім і ў некаторых іншых раёнах мы маем значную колькасць аднаасобных гаспадарак, якія могуць і павінны быць у калгасах. Аднак у гэтых раёнах няма прыкметнага прыліву ў калгасы. І гэта з'яўляецца вынікам недаацэнкі важнасці штодзеннай масавай работы сярод аднаасобнікаў.

Таварышы! На лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК партыі ў 1937 годзе таварыш Сталін гаварыў:

«Калі нашы партыйныя таварышы, захапляючыся гаспадарчымі поспехамі, адыходзілі ад палітыкі, гэта была крайнасць, каштаваўшая нам вялікіх афяр. Калі цяпер некаторыя нашы таварышы, беручыся за ўзмацненне партыйна-палітычнай работы, уздумаюць адыйсці ад гаспадаркі, то гэта будзе другая крайнасць, якая будзе нам каштаваць не меншых афяр. Нельга шарахацца ад адной крайнасці да другой, нельга аддзяляць палітыку ад гаспадаркі».

У нас некаторыя таварышы прабавалі аддзяліць партыйна-палітычную работу ад гаспадарчай, і атрымалася не палітыка і не гаспадарка.

У нас атрымалася ў палітыцы вельмі сур'ёзная палітычная памылка, а ў гаспадарцы мы ў асобных месцах маем яўныя прарывы і прабелы.

Таму зусім праў таварыш Сталін, які з усёй яснасцю і чоткасцю паказвае, як трэба па-сапраўднаму правільна, па-дзелавому правільна спалучаць палітычную работу з гаспадарчымі пытаннямі.

Таму цяпер, калі мы стаім перад вельмі сур'ёзнай задачай,—перад правядзеннем веснавой сяўбы, якая з'яўляецца для нас палітычным

экзаменам, гаспадарчым экзаменам, якая павінна вырашыць самае галоўнае, самае асноўнае ў падняцці ўраджайнасці, ад партыйных арганізацый патрабуецца асаблівая напружанасць і пільнасць у рабоце, асаблівая цвёрдасць і аператыўнасць у кіраўніцтве палітычнай і гаспадарчай работай.

З гэтымі задачамі наша партыйная арганізацыя, пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта партыі, пад вадзіцельствам геніяльнага і мудрага правадыра народаў таварыша Сталіна,—павінна і, безумоўна, справіцца. **(Бурныя апладысменты).**

---

# Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР

РАЗДЗЕЛ I

## Выбарчая сістэма

**Артыкул 1.** На падставе артыкула 109 Канстытуцыі Беларускай ССР выбары дэпутатаў у Вярхоўны Совет Беларускай ССР праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

**Артыкул 2.** На падставе артыкула 110 Канстытуцыі Беларускай ССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне Беларускай ССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, адукацыйнага цэнзу, аседласці, сацыяльнага паходжання, маемаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў Вярхоўны Совет Беларускай ССР, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

**Артыкул 3.** На падставе артыкула 111 Канстытуцыі Беларускай ССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне прымаюць удзел у выбарах на роўных падставах.

**Артыкул 4.** На падставе артыкула 112 Канстытуцыі Беларускай ССР жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з мужчынамі.

**Артыкул 5.** На падставе артыкула 113 Канстытуцыі Беларускай ССР грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з усімі грамадзянамі.

**Артыкул 6.** На падставе артыкула 116 Канстытуцыі Беларускай ССР кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

РАЗДЗЕЛ II

## Спісы выбаршчыкаў

**Артыкул 7.** Спісы выбаршчыкаў складаюцца ў гарадах гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам— раённым Советам; у сельскіх мясцовасцях—сельскім (сяла, вёскі, мястэчка, пасёлка) Советам дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 8.** У спісы выбаршчыкаў уключаюцца ўсе грамадзяне, якія маюць выбарчае права і пражываюць (пастаянна ці часова) к моманту

складання спісаў на тэрыторыі данага Совета, дасягнуўшых к дню выбараў 18 год.

**Артыкул 9.** Не ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў па судовых прыгаворах на працягу ўсяго ўстаноўленага ў прыгаворы тэрміну пазбаўлення выбарчых правоў, а таксама асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку страціўшымі розум.

**Артыкул 10.** Спісы выбаршчыкаў складаюцца па кожнаму выбарчаму ўчастку ў алфавітным парадку з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, узросту і месца жыхарства выбаршчыка і падпісваюцца старшынёю і сакратаром Совета дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 11.** Ніхто з выбаршчыкаў не можа быць унесен больш, чым у адзін выбарчы спіс.

**Артыкул 12.** Спісы выбаршчыкаў, якія знаходзяцца ў вайсковых часцях і вайсковых злучэннях, складаюцца камандаваннем за подпісамі камандзіра і ваеннага камісара. Усе іншыя ваеннаслужачыя ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў па месцу жыхарства адпаведнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 13.** Спісы выбаршчыкаў выбарчых участкаў, ствараемых пры больніцах, радзільных дамах, санаторыях і іншых лячэбных установах, складаюцца як на хворых грамадзян, так і на медыцынскі персанал, які знаходзіцца на дзяжурстве ў дзень выбараў.

У выбарах не могуць прымаць удзелу хворыя, якія знаходзяцца ў скарлатынозных і дыфтэрыйных аддзяленнях.

**Артыкул 14.** За 30 дзён да выбараў Совет дэпутатаў працоўных вывешвае спісы выбаршчыкаў для ўсеагульнага агляду або забяспечвае выбаршчыкам магчымасць азнаямляцца з гэтымі спісамі ў памяшканні Совета.

**Артыкул 15.** Арыгінал спісаў выбаршчыкаў захоўваецца адпаведна ў Совеце дэпутатаў працоўных і ў вайсковай часці ці ў вайсковым злучэнні.

**Артыкул 16.** Пры перамене выбаршчыкам месца свайго прабывання ў тэрмін паміж апублікаваннем спіса выбаршчыкаў і днём выбараў адпаведны Совет дэпутатаў працоўных выдае яму па форме, устаноўленай Цэнтральнай выбарчай камісіяй, «пасведчанне на права галасавання» і адзначае ў спісе выбаршчыкаў—«выбыў»; у пункце новага месцажыхарства—пастаяннага ці часовага—выбаршчык уносіцца ў спіс выбаршчыкаў пры прад'яўленні пасведчання асобы, а таксама «пасведчання на права галасавання».

**Артыкул 17.** Заява аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў (неўключэнне ў спіс, выключэнне са спіса, скажэнне прозвішча, імя, імя па бацьку, няправільнае ўключэнне ў спіс асоб, пазбаўленых выбарчых правоў) падаецца ў Совет дэпутатаў працоўных, які апублікаваў спіс.

**Артыкул 18.** Выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан разгледзець кожную заяву аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў у трохдзенны тэрмін.

**Артыкул 19.** Пасля разгляду заявы аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан або ўнесці неабходныя выпраўленні ў спіс выбаршчыкаў, або выдаць заявіцелю пісьмовую даведку аб матывах адхілення яго заявы; пры нязгодзе з рашэннем Совета дэпутатаў працоўных заявіцель можа падаць скаргу ў народны суд.

**Артыкул 20.** Народны суд на працягу трох дзён абавязан у адкрытым судовым пасяджэнні з выклікам заявіцеля і прадстаўніка Совета разгледзець скаргу на няправільнасць у спісе і сваё рашэнне неадкладна паведаміць як заявіцелю, так і Совету. Рашэнне народнага суда—канчатковае.

## РАЗДЗЕЛ III

## Выбарчыя акругі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР

**Артыкул 21.** На падставе артыкула 21 Канстытуцыі БССР Вярхоўны Совет БССР выбіраецца грамадзянамі БССР па выбарчых акругах.

**Артыкул 22.** Выбарчая акруга па выбарах у Вярхоўны Совет БССР складаецца па прынцыпу: 20 000 насельніцтва—на акругу. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Вярхоўны Совет БССР пасылае аднаго дэпутата.

**Артыкул 23.** Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у Вярхоўны Совет БССР праводзіцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР.

**Артыкул 24.** Спіс выбарчых акруг па выбарах у Вярхоўны Совет БССР апублікоўваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР адначасова з назначэннем дня выбараў.

## РАЗДЗЕЛ IV

## Выбарчыя ўчасткі

**Артыкул 25.** Для прыёму выбарчых бюлетэняў і падліку галасоў тэрыторыя гарадоў і раёнаў, што ўваходзяць у выбарчыя акругі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР, падзяляецца на выбарчыя ўчасткі.

**Артыкул 26.** Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, у гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных, у сельскіх мясцовасцях—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 27.** Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца не пазней, чым за 45 дзён да выбараў.

**Артыкул 28.** Тэрыторыя сельсовета, які налічвае не больш 2 000 насельніцтва, складае, як правіла, адзін выбарчы ўчастак; у кожным

сяле, вёсцы, пасёлку, мястэчку, якое налічвае ад 500, але не больш 2 000 насельніцтва, арганізоўваецца асобны выбарчы ўчастак.

У паселішчах або групе паселішч з насельніцтвам менш 500 чалавек, але не ніжэй 300 чалавек, у тых выпадках, калі адлегласць такіх паселішч да цэнтра выбарчага ўчастка перавышае 10 кілометраў, могуць быць утвораны асобныя выбарчыя ўчасткі.

**Артыкул 29.** У паасобных раёнах Палескай вобласці, дзе пераважаюць дробныя паселішчы, дапускаецца з дазволу Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР арганізацыя выбарчых участкаў з колькасцю не менш 100 чалавек насельніцтва.

**Артыкул 30.** Гарады, рабочыя пасёлкі, а таксама сёлы і тэрыторыя сельсовета, якія налічваюць больш 2000 насельніцтва, падзяляюцца на выбарчыя ўчасткі з разліку адзін выбарчы ўчастак на 1 500—2 500 чалавек насельніцтва.

**Артыкул 31.** Вайсковыя часці і вайсковыя злучэнні складаюць асобныя выбарчыя ўчасткі з колькасцю не менш 50 і не больш 1 500 выбаршчыкаў, якія ўваходзяць у выбарчую акругу па месцу знаходжання часці або вайсковага злучэння.

**Артыкул 32.** Пры больніцах, радзільных дамах, санаторыях, дамах інвалідаў з колькасцю выбаршчыкаў не менш 50 утвараюцца асобныя выбарчыя ўчасткі.

У больніцах з некалькімі карпусамі дапускаецца ўтварэнне выбарчых участкаў пры асобных карпусах пры наяўнасці ў кожным з іх не менш 50 выбаршчыкаў.

У больніцах і іншых лячэбных установах, дзе асобныя выбарчыя ўчасткі не арганізоўваюцца, дапускаецца прыём выбарчых бюлетэняў у саміх больніцах і лячэбных установах вылучанымі членамі выбарчых камісій. У гэтых выпадках больніцы снабжаюцца асобнымі выбарчымі скрынкамі.

**Артыкул 33.** Судны з колькасцю выбаршчыкаў не менш 25, знаходзячыяся ў плаванні ў дзень выбараў, могуць саставіць асобныя выбарчыя ўчасткі, уваходзячыя ў выбарчыя акругі па месцу прыпіскі судна.

## РАЗДЗЕЛ V

## Выбарчыя камісіі

**Артыкул 34.** Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Совет БССР складаецца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР адначасова з апублікаваннем дня выбараў.

**Артыкул 35.** Цэнтральная выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 10 членаў.

**Артыкул 36.** Цэнтральная выбарчая камісія:

а) наглядае на ўсёй тэрыторыі БССР за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР»;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій і выносіць па скаргах канчатковыя рашэнні;

в) устанаўляе ўзоры пячатак, выбарчых скрынак, форму «пасведчання на права галасавання», форму і колер выбарчых бюлетэняў і канвертаў для іх, форму спіса выбаршчыкаў, форму пратаколаў па падліку галасоў, форму пасведчання аб выбранні;

г) рэгіструе выбраных дэпутатаў у Вярхоўны Совет БССР;

д) здае мандатнай камісіі Вярхоўнага Совета БССР справаводства па выбарах.

**Артыкул 37.** У кожнай выбарчай акрузе па выбарах у Вярхоўны Совет БССР утвараецца Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія.

**Артыкул 38.** Акруговыя па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца абласнымі Советамі дэпутатаў працоўных не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 39.** Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 6 членаў.

**Артыкул 40.** Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія:

а) наглядае за своечасовай арганізацыяй выбарчых участкаў адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі Советаў дэпутатаў працоўных;

б) устанаўляе парадкавыя нумары выбарчых участкаў;

в) наглядае за своечасовым складаннем і давядзеннем да ўсеагульнага ведама спісаў выбаршчыкаў;

г) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» кандыдатаў у Дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР;

д) снабжае ўчастковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі і канвертамі па ўстаноўленай форме;

е) робіць падлік галасоў і ўстанаўляе рэзультаты выбараў па акрузе;

ж) прадстаўляе ў Цэнтральную выбарчую камісію справаводства па выбарах;

з) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні.

**Артыкул 41.** Участковыя выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных—не пазней, чым за 40 дзён да выбараў.

**Артыкул 42.** Участковая выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 2—6 членаў.

**Артыкул 43.** Участковая выбарчая камісія:

а) робіць па выбарчаму ўчастку прыём выбарчых бюлетэняў;

б) робіць падлік галасоў па кожнаму кандыдату ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР;

в) перадае справаводства па выбарах у Акруговую выбарчую камісію.

**Артыкул 44.** Пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі, Акруговых Участковых выбарчых камісій лічацца сапраўднымі, калі на іх прымае ўдзел больш паловы агульнага складу камісій.

**Артыкул 45.** Усе пытанні ў выбарчых камісіях вырашаюцца простай большасцю галасоў; пры роўнасці галасоў—голас старшыні дае перавагу.

**Артыкул 46.** Выдаткі, звязаныя з правядзеннем выбараў у Вярхоўны Совет БССР, робяцца за кошт дзяржавы.

**Артыкул 47.** Цэнтральная выбарчая камісія, Акруговыя і Участковыя выбарчыя камісіі маюць сваю пячатку па ўзору, устаноўленаму Цэнтральнай выбарчай камісіяй.

## РАЗДЗЕЛ VI

## Парадак выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР

**Артыкул 48.** Права выстаўлення кандыдатаў у Вярхоўны Совет БССР забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных—на падставе артыкула 116 Канстытуцыі БССР: за комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку.

**Артыкул 49.** Права выстаўлення кандыдатаў ажыццяўляюць як рэспубліканскія органы грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, так і іх абласныя і раённыя органы, таксама як агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па вайсковых часцях, а таксама агульныя сходы сялян—па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах.

**Артыкул 50.** Кандыдаты ў дэпутаты не могуць быць членамі Акруговых па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчых камісій, а таксама Участковых выбарчых камісій той акругі, дзе яны выстаўлены кандыдатамі ў дэпутаты.

**Артыкул 51.** Не пазней, чым за 30 дзён да выбараў, усе грамадскія арганізацыі або таварыствы працоўных, якія вылучаюць кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, абавязаны зарэгістраваць кан-

дыдатаў у дэпутаты ў адпаведнай Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі.

**Артыкул 52.** Акруговыя па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчыя камісіі абавязаны зарэгістраваць усіх кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, выстаўленых грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР».

**Артыкул 53.** Грамадская арганізацыя ці таварыства працоўных, якія вылучаюць кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, абавязаны прадставіць у Акруговую выбарчую камісію наступныя дакументы:

а) пратакол сходу ці паседжання, вылучыўшага кандыдата ў дэпутаты, падпісаны членамі Прэзідыума, з указаннем іх узросту, месцажыхарства, назвы арганізацыі, вылучыўшай кандыдата, указання аб месцы, часе і колькасці ўдзельнікаў сходу ці пасяджэння, вылучыўшага кандыдата ў дэпутаты, прычым у пратаколе павінны быць указаны прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў дэпутаты, яго ўзрост, месцажыхарства, партыйнасць, заняткі;

б) заяву кандыдата ў дэпутаты аб яго згодзе балатыравацца па данай выбарчай акрузе ад выставіўшай яго арганізацыі.

**Артыкул 54.** Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР можа галасавацца толькі ў адной акрузе.

**Артыкул 55.** Адмаўленне Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі ў рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты можа быць абскарджана ў двухдзенны тэрмін у Цэнтральную выбарчую камісію, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым.

**Артыкул 56.** Прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, заняткі, партыйнасць кожнага зарэгістраванага кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР і назва грамадскай арганізацыі, вылучыўшай кандыдата, апублікоўваюцца Акруговай выбарчай камісіяй не пазней, чым за 25 дзён да выбараў.

**Артыкул 57.** Усе зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР падлягаюць абавязковаму ўключэнню ў выбарчы бюлетэнь.

**Артыкул 58.** Акруговыя па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчыя камісіі абавязаны не пазней чым за 15 дзён да выбараў у Вярхоўны Совет БССР надрукаваць і разаслаць усім Участковым выбарчым камісіям выбарчыя бюлетэні.

**Артыкул 59.** Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на мовах насельніцтва адпаведнай выбарчай акругі.

**Артыкул 60.** Выбарчыя бюлетэні друкуюцца па форме, устаноўленай Цэнтральнай выбарчай камісіяй, і ў колькасці, якая забяспечвае снабжэнне ўсіх выбаршчыкаў выбарчымі бюлетэнямі.

**Артыкул 61.** Кожнай арганізацыі, выставіўшай кандыдата, зарэгістраванага ў Акруговай выбарчай камісіі, таксама як кожнаму грамадзяніну БССР, забяспечваецца права беспрашкоднай агітацыі за гэтага кандыдата на сходах, у друку і іншымі спосабамі, згодна артыкула 100 Канстытуцыі БССР.

РАЗДЗЕЛ VІІ

## Парадак галасавання

**Артыкул 62.** Выбары ў Вярхоўны Совет БССР праводзяцца на працягу аднаго дня—агульнага для БССР.

**Артыкул 63.** Дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР устанаўляецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР не пазней, чым за 2 месяцы да тэрміну выбараў. Выбары праводзяцца ў нерабочы дзень.

**Артыкул 64.** Штодзень на працягу апошніх 20 дзён перад выбарамі Ўчастковая выбарчая камісія апублікоўвае ці шырока паведамляе выбаршчыкам якім-небудзь іншым спосабам аб дні выбараў і месцы выбараў.

**Артыкул 65.** Падача галасоў выбаршчыкамі робіцца ў дзень выбараў ад 6 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы па мясцоваму часу.

**Артыкул 66.** У 6 гадзін раніцы ў дзень выбараў старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі ў прысутнасці яе членаў правярае выбарчыя скрынкі і наяўнасць складзенага па ўстаноўленай форме спісу выбаршчыкаў, пасля чаго закрывае і апячатвае скрынкі пячаткаю камісіі і запрашае выбаршчыкаў прыступіць да падачы галасоў.

**Артыкул 67.** Кожны выбаршчык галасуе асабіста, з'яўляючыся для гэтага ў памяшканне для галасавання, прычым падача галасоў выбаршчыкамі робіцца шляхам апускання ў выбарчую скрынку выбарчага бюлетэня, запячатанага ў канверт.

**Артыкул 68.** У памяшканні для выбараў выдзяляецца для запаўнення бюлетэняў асобны пакой, у якім у часе галасавання забараняецца прысутнасць каго-б там ні было, у тым ліку і членаў Участковай выбарчай камісіі, апрача галасуючых; пры допуску ў пакой для запаўнення бюлетэняў адначасова некалькіх выбаршчыкаў, ён павінен быць абсталёван перагародкамі ці шырмамі па ліку дапускаемых адначасова выбаршчыкаў.

**Артыкул 69**. Выбаршчык, які з'явіўся ў выбарчае памяшканне, прад'яўляе сакратару ці члену Ўчастковай выбарчай камісіі або пашпарт, або калгасную кніжку, або профсаюзны білет, або іншае пасведчанне асобы і пасля праверкі па спісу выбаршчыкаў і адзнакі ў спісе выбаршчыкаў атрымлівае выбарчы бюлетэнь і канверт устаноўленага ўзору.

**Артыкул 70.** На асоб, якія з'явіліся ў памяшканне для выбараў з «пасведчаннем на права галасавання», згодна артыкула 16 гэтага «Па-

лажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», Участковая выбарчая камісія вядзе асобны спіс, які прыкладаецца да спісу выбаршчыкаў.

**Артыкул 71.** Выбаршчык у пакоі, адведзеным для запаўнення выбарчых бюлетэняў, астаўляе ў выбарчым бюлетэні прозвішча таго кандыдата, за якога ён галасуе, выкрэсліваючы астатніх; улажыўшы бюлетэнь у канверт і заклеіўшы яго, выбаршчык пераходзіць у пакой, дзе змяшчаецца Ўчастковая выбарчая камісія, і апускае канверт з выбарчым бюлетэнем у выбарчую скрынку.

**Артыкул 72.** Выбаршчыкі, якія не маюць магчымасці з прычыны непісьменнасці ці якога-небудзь фізічнага недахопу самастойна запоўніць выбарчы бюлетэнь, маюць права запрасіць у пакой, дзе запаўняюцца выбарчыя бюлетэні, любога іншага выбаршчыка для запаўнення выбарчага бюлетэня.

**Артыкул 73.** Выбарчая агітацыя ў выбарчым памяшканні ў часе падачы галасоў не дапускаецца.

**Артыкул 74.** Адказнасць за парадак у выбарчым памяшканні нясе старшыня камісіі, і яго распараджэнні для ўсіх прысутных абавязковы.

**Артыкул 75.** У 12 гадзін ночы дня выбараў старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі абвяшчае падачу галасоў закончанай, і камісія прыступае да ўскрыцця выбарчых скрынак.

РАЗДЗЕЛ VIII

## Вызначэнне рэзультатаў выбараў

**Артыкул 76.** У памяшканні, дзе Ўчастковая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, пры падліку галасоў маюць права прысутнічаць спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

**Артыкул 77.** Участковая выбарчая камісія, ускрыўшы скрынкі, звярае колькасць паданых канвертаў з колькасцю асоб, якія прымалі ўдзел у галасаванні, і рэзультаты зверкі заносіць у пратакол.

**Артыкул 78.** Старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі ўскрывае канверты і абвяшчае ў прысутнасці ўсіх членаў Участковай выбарчай камісіі рэзультаты галасавання па кожнаму бюлетэню.

**Артыкул 79.** На кожнага кандыдата ў дэпутаты вядзецца падліковы ліст у 2-х экземплярах сакратаром камісіі і ўпаўнаважанымі на тое членамі Ўчастковай выбарчай камісіі.

**Артыкул 80.** Прызнаюцца несапраўднымі бюлетэні:

а) неўстаноўленага ўзору і колеру;

б) паданыя без канверта ці ў канверце неўстаноўленага ўзору;

в) з колькасцю кандыдатаў, перавышаючай лік выбіраемых дэпутатаў.

**Артыкул 81.** Пры ўзнікненні сумненняў у сапраўднасці выбарчага бюлетэня пытанне вырашаецца Ўчастковай выбарчай камісіяй шляхам галасавання, што адзначаецца ў пратаколе.

**Артыкул 82.** Участковая выбарчая камісія складае па ўстаноўленай форме пратакол галасавання ў двух экземплярах, падпісваемых усімі членамі Ўчастковай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

**Артыкул 83.** У пратаколе галасавання Ўчастковай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) час пачатку і сканчэння падачы галасоў;

б) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па спісу выбаршчыкаў;

в) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па «пасведчаннях на права галасавання»;

г) лік паданых канвертаў;

д) кароткі выклад заяў і скарг, паданых ва Ўчастковую выбарчую камісію, і прынятыя Ўчастковай выбарчай камісіяй рашэнні;

е) рэзультаты падліку галасоў па кожнаму кандыдату.

**Артыкул 84.** Пасля сканчэння падліку галасоў і складання пратакола, старшыня камісіі абвяшчае рэзультаты галасавання ў прысутнасці ўсіх членаў камісіі.

**Артыкул 85.** Адзін экземпляр пратакола галасавання, складзенага Ўчастковай выбарчай камісіяй, з абодвума экземплярамі падліковых лістоў на кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР накіроўваецца з нарачным на працягу 24 гадзін у Акруговую па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчую камісію.

**Артыкул 86.** Усе выбарчыя бюлетэні (асобна сапраўдныя і асобна прызнаныя несапраўднымі) павінны быць апячатаны пячаткай Участковай выбарчай камісіі і разам з другім экземплярам пратакола галасавання і пячаткай зданы старшынёю Ўчастковай выбарчай камісіі на хаванне: у гарадах—гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённым Советам дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённым Советам дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 87.** На Советы дэпутатаў працоўных ускладаецца абавязак захоўваць выбарчыя бюлетэні аж да зацверджання мандата дэпутата ад адпаведнай акругі Вярхоўным Советам БССР.

**Артыкул 88.** Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія робіць падлік галасоў на падставе пратаколаў, прадстаўленых Участковымі выбарчымі камісіямі.

**Артыкул 89.** У памяшканні, дзе Акруговая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, маюць права прысутнічаць пры падліку галасоў спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

**Артыкул 90.** На кожнага кандыдата Акруговай выбарчай камісіяй вядзецца ў 2-х экземплярах падліковы ліст, у якім адзначаецца колькасць галасоў, атрыманых кожным кандыдатам у дэпутаты.

**Артыкул 91.** Акруговая выбарчая камісія складае пратакол галасавання ў 2-х экземплярах, падпісваемых усімі членамі Акруговай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

**Артыкул 92.** У пратаколе Акруговай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) агульны лік выбаршчыкаў па акрузе;

б) агульны лік выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні;

в) лік галасоў, паданых за кожнага кандыдата ў дэпутаты;

г) кароткі выклад заяў і скарг, паданых у Акруговую выбарчую камісію, і прынятыя Акруговай выбарчай камісіяй рашэнні.

**Артыкул 93.** Не пазней 24 гадзін пасля сканчэння падліку галасоў старшыня Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі абавязан пераслаць першы экземпляр пратакола з прыкладзенымі падліковымі лістамі ў запячатаным выглядзе праз нарачнага ў Цэнтральную выбарчую камісію.

**Артыкул 94.** Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, які атрымаў абсалютную большасць галасоў, г. зн. больш паловы ўсіх галасоў, паданых па акрузе і прызнаных сапраўднымі, лічыцца выбраным.

**Артыкул 95.** Пасля падпісання пратакола старшыня Акруговай па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчай камісіі абвяшчае рэзультаты выбараў і выдае выбранаму кандыдату ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР пасведчанне аб выбранні.

**Артыкул 96.** Калі ні адзін з кандыдатаў не атрымаў абсалютнай большасці галасоў, адпаведная Акруговая выбарчая камісія адзначае аб тэтым асоба ў пратаколе і паведамляе ў Цэнтральную выбарчую камісію і адначасова абвяшчае перабалатыроўку двух кандыдатаў, атрымаўшых найбольшую колькасць галасоў, а таксама назначае дзень перабалатыроўкі не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін па сканчэнні першага туру выбараў.

**Артыкул 97.** Калі паданая колькасць галасоў па акрузе складае менш паловы выбаршчыкаў, маючых права галасаваць па гэтай акрузе, Акруговая па выбарах у Вярхоўны Совет БССР выбарчая камісія адначае аб гэтым асобна ў пратаколе і паведамляе неадкладна ў Цэнтральную выбарчую камісію, прычым у гэтым выпадку Цэнтральная выбарчая камісія назначае новыя выбары не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін пасля першых выбараў.

**Артыкул 98.** Перабалатыроўка кандыдатаў у дэпутаты, таксама як новыя выбары ўзамен прызнаных несапраўднымі, праводзяцца па спісах выбаршчыкаў, складзеных для першых выбараў, і ў поўнай адпаведнасці з гэтым «Палажэннем аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР».

**Артыкул 99.** У выпадку выбыцця дэпутата са складу Вярхоўнага Совета БССР, Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР у двухтыднёвы тэрмін назначае ў адпаведнай выбарчай акрузе тэрмін выбараў новага

дэпутата, але не пазней, чым у двухмесячны тэрмін пасля выбыцця дэпутата са складу Вярхоўнага Совета БССР.

**Артыкул 100.** Усякі, хто шляхам гвалту, ашуканства, пагроз ці подкупу будзе перашкаджаць грамадзяніну БССР у ажыццяўленні яго права выбіраць і быць выбраным у Вярхоўны Совет БССР,—караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 2-х год.

**Артыкул 101.** Службовая асоба Совета ці член выбарчай камісіі, зрабіўшыя падробку выбарчых дакументаў ці заведама няправільны падлік галасоў,—караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін да 3-х год.

---

С. Новік

Пракурор БССР

# К выбарам Вярхоўнага Совета БССР

VIII Сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР XI склікання абмеркавала і зацвердзіла праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», паклаўшы тым самым пачатак вялікай і важнай палітычнай рабоце—выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

«Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», аснаванае на Сталінскай Канстытуцыі СССР і БССР, ёсць поўнае і паслядоўнае выражэнне прынцыпаў соцыялістычнага дэмакратызма. Яно вызначае сабою ўмовы і «тэхніку» выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Совет, а галоўнае—дае ажыццяўленне асноўнага і рашаючага права грамадзян—права выбіраць і быць выбраным у дэпутаты соцыялістычнага парламента Беларускай Рэспублікі.

Сталінская Канстытуцыя не толькі правазглашае правы грамадзян, але і забяспечвае гэтыя правы ўсёй сілай Совецкага закона, тым часам, як у буржуазных краінах, нават найбольш дэмакратычных, выбарчыя правы шырокіх працоўных мас буржуазіяй пры дапамозе выбарчых законаў сістэматычна ўшчымляюцца, урэзваюцца і зводзяцца на нішто.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР, характарызуючы буржуазныя канстытуцыі, падзяліў іх на дзве групы:

> ... адна група канстытуцый прама адмаўляе або зводзіць фактычна на нішто роўнасць правоў грамадзян і дэмакратычныя свабоды. Другая група канстытуцый ахвотна прыемле і нават афішыруе дэмакратычныя пачаткі, але робіць пры гэтым такія агаворкі і абмежаванні, што дэмакратычныя правы і свабоды аказваюцца зусім зуродаванымі. Яны гавораць аб роўных выбарчых правах для ўсіх грамадзян, але тут-жа абмяжоўваюць іх аседласцю і адукацыйным і нават маемасным цэнзам. Яны гавораць аб роўных правах грамадзян, але тут-жа агаварваюцца, што гэта не датычыць жанчын, або датычыць іх частково. І т. д. і т. п.

Фактычнага ўсеагульнага выбарчага права няма ні ў адной з найбольш дэмакратычных буржуазных краін. Законы, напрыклад, такіх краін як Францыя, Англія, ЗША абвясцілі «усеагульнае» выбарчае права. Але што яно сабою прадстаўляе? Вялікабрытанія ў 1935 годзе па канстытуцыі, даравaнай Індыі, выбарчае права прадаставіла толькі 10 проц. яе насельніцтва. У Паўднёва-Афрыканскім

Саюзе (уваходзіць у Вялікабрытанію) 5,5 млн. неграў пазбаўлены выбарчага права. У французскіх калоніях 60 млн. каланіяльнага насельніцтва зусім пазбаўлена выбарчага права. У ЗША велізарная маса негрыцянскага насельніцтва пазбаўлена выбарчых правоў, хоць у канстытуцыі запісана: «права грамадзян ЗША на ўдзел у выбарах не будзе адмаўляцца або абмяжоўвацца Злучанымі Штатамі або паасобнымі штатамі пад прадлогам расы, колеру скуры або ранейшага рабскага становішча». У Польшчы для абмежавання правоў такіх нацыянальных меншасцей, як украінцы, беларусы, яўрэі і інш., буржуазія прыбягае да стварэння такіх выбарчых акруг, якія забяспечваюць прывілеяванае становішча палякаў. Напрыклад, у чыста польскай акрузе Кракава выбіраюць дэпутата ў сейм ад 48 тыс. чалавек, ва украінскім Кшэменцы—ад 96 тыс. чалавек. Аб адсутнасці сапраўды ўсеагульнага выбарчага права ва Францыі, Швейцарыі, Бельгіі, Японіі, Германіі, Італіі і інш. капіталістычных краінах гаворыць і той факт, што жанчыны пазбаўлены там выбарчага права. Гэтага-ж права ва ўсіх капіталістычных краінах пазбаўлена моладзь, якая можа выбіраць з 21 года (Англія, Францыя, ЗША, Бельгія і інш.), а быць выбранай з 25 гадоў.

У ЗША права быць выбраным у сенат атрымліваюць асобы, дасягнуўшыя 30-гадовага ўзросту, а ва Францыі—40 гадоў. У такіх краінах як Японія, Польшча правам выбіраць карыстаюцца толькі з 24—25-гадовага ўзросту, а быць выбраным—з 30 год. Гэтым буржуазія дабіваецца адхілення ад удзелу ў выбарах мільёнаў працоўнай моладзі, рэволюцыйна настроенай, незадаволенай капіталістычным рэжымам. А супроць каго накіраван цэнз аседласці? Супроць рабочых, якія ва ўмовах капіталізма, ва ўмовах беспрацоўя прымушаны мяняць месцажыхарства ў пошуках заробку, у пошуках прытулку і хлеба.

У 37 штатах ЗША цэнз аседласці ровен 1 году, у Венгрыі—2 гадам. У Штаце Каліфорнія (ЗША) з-за цэнзу аседласці пазбаўляюцца выбарчага права каля 250 тыс. сельскагаспадарчых рабочых. Ва Францыі з 42 млн. насельніцтва толькі 11½ млн. маюць выбарчае права, у Венгрыі 60 проц. дарослага насельніцтва пазбаўлена выбарчых правоў. Уся гэта маса абмежаванняў плюс механіка выбараў робіць немагчымым або істотным чынам абмяжоўвае выкарыстанне выбарчых правоў працоўнымі капіталістычных краін.

Так ажыццяўляецца «усеагульнае» выбарчае права ў найбольш дэмакратычных з капіталістычных краін, а ў фашысцкіх Германіі, Італіі, Японіі ўсякая выбарнасць ліквідавана поўнасцю. Там не існуе не толькі «ўсеагульнага», там няма наогул ніякага выбарчага права: дэпутаты ў парламент проста прызначаюцца, а самі выбары ператвараюцца ў камедыю.

Сапраўднае ўсеагульнае выбарчае права без абмежаванняў ведае толькі адна краіна—СССР.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе на Надзвычайным VIII З'ездзе Советаў сказаў:

> «Асаблівасць праекта новай Канстытуцыі СССР заключаецца ў тым, што ён вольны ад падобных агаворак і абмежаванняў.
>
> Для яго не існуе актыўных або пасіўных грамадзян, для яго ўсе грамадзяне актыўны. Ён не прызнае розніцы ў правах паміж мужчынамі і жанчынамі, «аседлымі» і «неаседлымі», маёмнымі і немаёмнымі, адукаванымі і неадукаванымі. Для яго ўсе грамадзяне роўны ў сваіх правах».

Наш Выбарчы Закон не знаходзіцца ў супярэчнасці з· Канстытуцыяй, а наадварот,—прама спасылаецца на паасобныя яе артыкулы, падкрэсліваючы тым самым яе неразрыўную сувязь і кіруючае значэнне ў выбарчым праве.

Гэта відаць хоць-бы з таго, што першая глава Выбарчага Закона, прысвечаная выбарчай сістэме, прама робіць спасылкі на паасобныя артыкулы Канстытуцыі.

Канстытуцыя Беларускай ССР і зацверджанае «Палажэнне аб выбарах» забяспечваюць сапраўды ўсеагульнае выбарчае права, сапраўды прамое і роўнае права пры тайным галасаванні.

Прынцып усеагульнага, роўнага, прамога выбарчага права пры тайным галасаванні выражан у першых шасці главах «Палажэння аб выбарах» без усякіх агаворак і абмежаванняў. Толькі асобы, страціўшыя розум або асуджаныя судом з пазбаўленнем выбарчых правоў, не прымаюць удзелу ў выбарах (арт. 9). Усім астатнім грамадзянам СССР, якія ка дню выбараў дасягнулі 18-гадовага ўзросту, незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, адукацыйнага цэнзу, аседласці, соцыяльнага паходжання, маемаснага становішча і мінулай дзейнасці,—закон прадастаўляе права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў соцыялістычны парламент. Закон у той-жа час і ахоўвае гэтыя правы.

Старая выбарчая сістэма і ранейшая канстытуцыя ўстанаўлялі некаторыя абмежаванні, што выклікалася тагочаснай палітычнай абстаноўкай. Былыя белагвардзейцы, памешчыкі і фабрыканты, служкі рэлігійных культаў, кулакі і іншыя элементы «вялі адкрытую вайну супроць народа і процідзейнічалі совецкім законам. Совецкі закон аб пазбаўленні іх выбарчага права быў адказам Совецкай улады на гэтае процідзеянне» **(Сталін).**

Гэтыя абмежаванні былі гістарычна неабходны, як неабходна было і прадастаўленне рабочым некаторых пераваг у нормах прадстаўніцтва. Цяпер-жа ва ўмовах канчатковай перамогі соцыялізма ўнутры краіны адпала неабходнасць у гэтых абмежаваннях.

Толькі ва ўмовах Совецкай улады, у рэзультаце ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, ажыццёўлена цеснае брацкае супрацоўніцтва ўсіх народаў Совецкага Саюза, якія паспяхова будуюць сваю цудоўную будучыню.

БССР, у мінулым забітая і эксплаатуемая царызмам, дзякуючы перамозе Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі, пад кіраўніцтвам ВКП(б) і пры брацкай дапамозе народаў Совецкага Саюза набыла сваю дзяржаўнасць і ператварылася ў перадавую квітнеючую рэспубліку.

Роўная сярод роўных брацкіх соцыялістычных рэспублік БССР разам з усімі народамі вялікага Совецкага Саюза пераможна будуе соцыялістычнае грамадства.

Даволі прывесці некалькі фактаў. У першай пяцігодцы прырост прамысловасці па БССР раўняўся 49 проц. Аб'ём валавой прадукцыі ў 1937 г. у 21 раз перавысіў аб'ём прадукцыі 1913 года. Яшчэ ў перыяд першай пяцігодкі ў БССР створаны новыя галіны прамысловасці: апалавая, машына- і станкабудаўнічая, тарфяная, хімічная, штучнага шоўку, швейная і інш. Рэканструяваны і тэхнічна пераўзброены старыя прадпрыемствы.

Змяніўся зусім твар беларускай вёскі. Калі да рэволюцыі 60 проц. сялян працавала на памешчыкаў, то ўжо ў 1937 г. 684.939 сялянскіх двароў знаходзяцца ў калгасах, 96 проц. пасеўнай плошчы нале-

жыць калгасам. Калі да рэволюцыі беларускі селянін апрацоўваў зямлю сахой і дрыўлянай бараной, то ўжо ў 1937 годзе на калгасных палях працавала 8.672 трактары, 665 камбайнаў і розных малацілак 29.343. Гіганцкія поспехі мы маем і ў галіне росквіту культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. Беларуская рэспубліка з'яўляецца цяпер рэспублікай суцэльнай граматнасці, тады як да рэволюцыі было няграматным 75 проц. насельніцтва, сярод якіх 90 проц. жанчын.

У БССР—22 вышэйшыя навучальныя ўстановы, 95 тэхнікумаў, 7.032 школы, 338 гукавых кіно і т. д.

Як і ўсе рэспублікі вялікага Совецкага Саюза, БССР—краіна поўнага росквіту соцыялістычнага дэмакратызма. Аб гэтым ярка сведчыць «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР».

Артыкул 22 (глава III) Палажэння аб выбарах гаворыць:

«Выбарчая акруга па выбарах у Вярхоўны Совет БССР складаецца па прынцыпу: 20 000 насельніцтва—на акругу. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Вярхоўны Совет БССР пасылае аднаго дэпутата».

Гэты артыкул Палажэння аб выбарах адпавядае 118 артыкулу Канстытуцыі БССР, які ўстанаўляе адзіны прынцып арганізацыі акруг з роўнай колькасцю насельніцтва. Выстаўленне кандыдатаў па выбарчых акругах вядома і буржуазным краінам, але там прымаюцца ўсе меры, каб забяспечыць перавагу эксплаататарам.

Буржуазія не клапоціцца аб стварэнні роўнамерных акруг. Ва Францыі перавага аддаецца Поўдню таму, што на Поўначы пераважае рабочае насельніцтва. У выніку 10 аграрных акруг з насельніцтвам у 300 тысяч чалавек і 10 прамысловых з насельніцтвам у 1.100 тысяч чалавек выбіраюць аднолькавую колькасць дэпутатаў. Асабліва наглядна выбарчая «геаметрыя» буржуазіі ў Парыжы. VI акруга Парыжа, дзе жыве 7 826 выбаршчыкаў з буржуазіі, і другі ўчастак акругі Карбей, які мае 49.659 выбаршчыкаў пераважна з пролетарскага насельніцтва, выбіраюць кожная па аднаму дэпутату. Так парушаецца прынцып роўнага выбарчага права ў карысць буржуазіі. Пры такой махінацыі голас аднаго буржуа ў цэнтры Парыжа ровен 7 галасам рабочых з яго пролетарскіх прадмесцяў.

Артыкул 11 Палажэння аб выбарах у БССР устанаўляе, што ўсе галасы ў нас роўназначны:

«Ніхто з выбаршчыкаў не можа быць унесен больш, чым у адзін выбарчы спіс».

Каб палегчыць грамадзянам нашай рэспублікі выкананне іх выбарчага права, для прыёму бюлетэняў і падліку галасоў ствараюцца выбарчыя ўчасткі.

Артыкул 28 Палажэння аб выбарах дае права ў тых выпадках, калі адлегласць паселішчаў (з насельніцтвам менш 500, але не ніжэй 300 чал.) да цэнтра выбарчага ўчастка перавышае 10 кілометраў, ствараць асобныя выбарчыя ўчасткі.

Аб велізарным клопаце да выбаршчыка сведчыць і артыкул 29, у якім сказана:

«У паасобных раёнах Палескай вобласці, дзе пераважаюць дробныя паселішчы, дапускаецца з дазволу Прэзідыума Вяр-

хоўнага Совета БССР арганізацыя выбарчых участкаў з колькасцю не менш 100 чалавек насельніцтва».

У той час, калі буржуазныя канстытуцыі пазбаўляюць военнаслужачых права выбіраць і быць выбранымі, у нашым Палажэнні аб выбарах ёсць спецыяльны артыкул 31, які гаворыць аб стварэнні выбарчых участкаў у вайсковых часцях і злучэннях.

Артыкулы 32 і 33 указваюць на стварэнне выбарчых участкаў пры больніцах, радзільных дамах, санаторыях, суднах, якія знаходзяцца ў плаванні.

Усе гэтыя артыкулы спрыяюць максімальнаму ахвату выбаршчыкаў галасаваннем. Ні ў адной буржуазнай краіне няма і не можа быць падобнай увагі да правоў чалавека.

Пры правядзенні выбараў вялікую ролю павінны адыграць выбарчыя камісіі. Ад іх складу, арганізацыі і ўмоў работы будзе ва многім залежаць поспех выбарчай кампаніі.

Спецыяльная глава Палажэння аб выбарах прысвячаецца парадку выстаўлення кандыдатаў у адпаведнасці з арт. 116 Канстытуцыі БССР. Вельмі важнай акалічнасцю з'яўляецца тое, што выбарчыя бюлетэні друкуюцца на мовах адпаведнай выбарчай акругі.

У арт. 48 Палажэння аб выбарах запісана:

> «Права выстаўлення кандыдатаў у Вярхоўны Совет БССР забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных—на падставе артыкула 116 Канстытуцыі БССР: за комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку».

Такім чынам выстаўленыя кандыдаты з'яўляюцца сапраўды народнымі, а адсюль і аднадушнасць пры галасаванні.

Рэзка адрозніваецца правядзенне выбараў у Польшчы. У польскай канстытуцыі 1935 года запісана: «сейм складаецца з дэпутатаў, выбіраемых усеагульным, тайным, прамым галасаваннем». Аднак фашысцкі закон Польшчы забараняе выбаршчыкам намячаць кандыдатаў у сейм. Гэта права належыць камісіям, якія складаюцца з прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, прадпрыемцаў, памешчыкаў, праўленняў жоўтых профсаюзаў і т. д. Ясна, што кандыдаты, намячаемыя гэтымі камісіямі, не з'яўляюцца прадстаўнікамі працоўных, а адсюль і масавая няяўка на выбары.

Усе выдаткі, звязаныя з правядзеннем выбараў у Вярхоўны Совет, робяцца за кошт дзяржавы, і кандыдату аб выдатках не прыходзіцца думаць.

Зусім іншы малюнак у капіталістычных краінах.

У Японіі, напрыклад, кожны кандыдат павінен унесці 2 тысячы іен залогу, у Англіі—150 фунтаў стэрлінгаў, прычым залог гэты зварочваецца толькі пры ўмове атрымання належнай колькасці галасоў (у Англіі—больш ⅓ паданых галасоў). Ва Францыі закон дазваляе кожнаму выстаўляць сваю кандыдатуру, і кандыдатура можа быць выстаўлена любой колькасцю выбаршчыкаў. Гэты-ж закон гласіць, што ўсе выдаткі па выбарах аплачвае сам выбіраемы.

Ясна, што такія законы капіталістычных краін праследуюць асноўную мэту: затрудніць выстаўленне кандыдатур рабочага класа і бяд-

нейшага сялянства, каб дабіцца такім шляхам пераважнай буржуазна-памешчыцкай большасці ў парламентах.

Кожная буржуазная партыя ЗША (рэспубліканская і дэмакратычная) маюць свае арганізацыі на чале з босамі (гаспадарамі), якія падкупаюць сваіх выбаршчыкаў, рознымі спосабамі ловяць іх, агітуюць, тэрарызуюць. Буржуазія ўсялякімі «законнымі» (цэнзы) і незаконнымі спосабамі імкнецца націскаць на выбаршчыкаў, ашуканскім шляхам прыцягнуць іх на свой бок.

Само сабою зразумела, што наша выбарчая сістэма нічога падобнага не ведала і не ведае. Такія метады праследуюцца ў нас па закону.

У артыкуле 100 Палажэння аб выбарах запісана:

> «Усякі, хто шляхам гвалту, ашуканства, пагроз ці подкупу будзе перашкаджаць грамадзяніну БССР у ажыццяўленні яго права выбіраць і быць выбраным у Вярхоўны Совет БССР, караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 2-х год».

У адпаведнасці з арт. 100 Канстытуцыі БССР, арт. 60 Палажэння аб выбарах забяспечвае права бесперашкоднай агітацыі на сходах, у друку і іншымі законнымі спосабамі.

Подкупы, хабар, машэнніцтва, прамы фізічны гвалт—вось звычайныя метады, да якіх прыбягаюць пры выбарах розныя буржуазныя палітычныя партыі ў капіталістычных краінах.

Раздзелы VII і VIII Палажэння аб выбарах гавораць аб парадку галасавання і аб вызначэнні рэзультатаў выбараў. Самы парадак галасавання гарантуе тайну выбараў. Кожны выбаршчык галасуе асабіста, укладаючы выбарчы бюлетэнь у канверт і запячатваючы яго. Палажэнне аб выбарах забараняе прысутнасць каго-б там ні было, у тым ліку і членаў участковай выбарчай камісіі, у асобным пакоі, для галасавання.

Артыкул 71 Палажэння спецыяльна прадугледжвае выпадкі, калі выбаршчык, у сілу няграматнасці або якога-небудзь фізічнага недахопу, не можа самастойна запоўніць выбарчы бюлетэнь. Такі выбаршчык можа і ўправе запрасіць у пакой, дзе запаўняюцца бюлетэні, любога іншага выбаршчыка для запаўнення выбарчага бюлетэня.

Апублікаванае/і зацверджанае «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» нічым не адрозніваецца ад «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», за выключэннем прынцыпу стварэння акруг. Выбарчая акруга па выбарах у Совет Саюза ахапляла 300.000 насельніцтва, па выбарах-жа ў Вярхоўны Совет БССР выбарчая акруга ахапляе 20.000 насельніцтва. Складанне спісаў, вылучэнне і рэгістрацыя кандыдатаў, арганізацыя і аб'ява складу выбарчых камісій, галасаванне і падлік рэзультатаў яго застаецца такім-жа, як і ў час выбараў Вярхоўнага Совета Саюза ССР.

Выбары ў Вярхоўны Совет БССР набліжаюцца. Да іх неабходна рыхтавацца ўжо зараз, рыхтавацца неадкладна. Да малейшых драбніц павінны быць прадуманы ўсе так званыя «тэхнічныя пытанні», ад якіх урэшце залежыць поспех справы. Павінны быць улічаны паасобныя недахопы і парушэнні выбарчага закона, якія мелі месца пры выбарах у Вярхоўны Совет Саюза і выпраўляліся на хаду.

Не лішнім будзе ўспомніць некаторыя з іх.

У гор. Менску, у Тураўскім і Пухавіцкім раёнах выбарчыя ўчасткі былі арганізаваны з перавышэннем устаноўленай нормы колькасці

насельніцтва. У Дубровенскім, Ушацкім і Рэчыцкім раёнах былі факты неўключэння паасобных грамадзян у спісы выбаршчыкаў па матывах ранейшай судзімасці. Не ўключалі ў спісы таксама глуханямых. Відавочна, іх палічылі «ненармальнымі». Па віне чыноўнікаў і бюракратаў у гор. Слуцку не ўнеслі ў спіс студэнтаў педагагічнага вучылішча. І наадварот—у спісы ўключаліся памёршыя, пазбаўленыя выбарчых правоў па прыгаворах суда або ўжо асуджаныя да пазбаўлення волі. Спісы складалі неахайна, блыталі прозвішчы, імёны. А здарылася гэта таму, што складанне спісаў выбаршчыкаў кіраўнікі палічылі занадта простаю справай, якую можна перадаверыць тэхнічным работнікам.

Былі факты, калі ворагі народа вялі падрыўную работу, каб сарваць выбары.

Усё гэта трэба прыняць пад увагу і быць на-чаку. Нельга забываць, што трацкісцка-бухарынскія здраднікі і іншыя агенты замежных разведак, розныя антысовецкія элементы, папы, сектанты, прыкрываючыся агалошанай Канстытуцыяй свабодай слова, друку і інш., усяляк двурушнічаючы, будуць весці варожую агітацыю, каб ашукаць выбаршчыкаў і прабрацца ў наш заканадаўчы орган.

Быць пільным, каб своечасова разглядзець усякія варожыя прошукі, бязлітасна выкрываць і выкарчоўваць іх—абавязак кожнага чэснага грамадзяніна нашай радзімы.

Надыходзячыя выбары ў Вярхоўны Совет БССР на аснове Сталінскай Канстытуцыі і выбарчага закона забяспечаць новы ўздым палітычнай актыўнасці працоўных.

Выбары ў БССР павінны прайсці гэтак-жа ўзорна і бліскуча, на такой-жа палітычнай вышыні, як і выбары ў Вярхоўны Совет СССР.

Ад совецкіх і партыйных арганізацый патрабуецца дзейная падрыхтоўка, правядзенне вялікай арганізацыйна-масавай і прапагандысцкай работы.

Пры выбарах у Вярхоўны Совет Саюза партыйныя і совецкія арганізацыі накапілі агромны палітычны вопыт. Яго трэба скарыстаць цяпер у працэсе падрыхтоўкі да выбараў у БССР. У актыўную работу па арганізацыі выбараў неабходна ўцягнуць вырасшыя кадры таленавітых прапагандыстаў і агітатараў, давераных асоб, старшынь і членаў выбарчых камісій, пры дапамозе якіх партыя ў перыяд выбарчай кампаніі далучыла да актыўнага палітычнага жыцця мільёны працоўных краіны Советаў.

У социялістычны парламент нашай ордэнаноснай Рэспублікі—Вярхоўны Совет БССР—павінны быць і будуць выбраны самыя лепшыя, самыя дастойныя сыны і дачкі вялікай краіны соцыялізма.

Уступаючы разам з іншымі брацкімі саюзнымі рэспублікамі ў выбарчую кампанію, народы Беларускай ССР пакажуць высокія ўзоры выканання свайго грамадзянскага доўгу і пад кіраўніцтвам вялікага настаўніка і правадыра народаў таварыша Сталіна, нашага Совецкага ўрада на чале з тав. Молатавым і тав. Калініным прыйдуць да яшчэ больш радаснага, культурнага і шчаслівага жыцця, да поўнай перамогі комунізма.

# Аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў

***Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)***

Прызнаць неабходным правесці ў перыяд красавік— першая палова чэрвеня 1938 года выбары кіруючых партыйных органаў ва ўсіх пярвічных, раённых, гарадскіх, акруговых, абласных, краявых і рэспубліканскіх партыйных арганізацыях.

Лічыць важнейшай задачай усіх партыйных арганізацый у надыходзячых выбарах забяспечыць выбранне ў кіруючыя партыйныя органы зусім праверанных большэвікоў, беззаветна адданых нашай партыі, выпрабаваных у барацьбе з ворагамі народа і здольных да канца абараняць справу комуністычнай партыі.

Выбары кіруючых партыйных органаў павінны быць праведзены пад знакам далейшага ўсямернага ўздыму партыйна-палітычнай работы, умацавання сувязі партарганізацый з масамі і паспяховага выканання палітычных і гаспадарчых задач, што стаяць перад партарганізацыямі.

Выбары кіруючых партыйных органаў неабходна правесці на аснове строгага захавання ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і смелага разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі.

**ЦК ВКП(б)**

29 сакавіка 1938 г.

---

# Інструкцыя аб правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў

1. Пры правядзенні выбараў кіруючых партыйных органаў неабходна строга кіравацца наступным рашэннем Пленума ЦК ВКП(б) ад 27 лютага 1937 года:

> «Забараніць пры выбарах парторганаў галасаванне спісам. Галасаванне вытвараць по асобных кандыдатурах, забяспечыўшы пры гэтым за ўсімі членамі партыі неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх. Устанавіць пры выбарах парторганаў закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў».

2. Закрытым (тайным) галасаваннем выбіраюцца:

а) дэлегаты ад пярвічных партыйных арганізацый на раённыя, гарадскія партыйныя канферэнцыі і дэлегаты ад раённых, гарадскіх, акруговых партыйных канферэнцый на абласныя, краявыя партыйныя канферэнцыі і з'езды нацкомпартый;

б) члены партыйных камітэтаў і партыйныя арганізатары (там, дзе няма парткомаў) пярвічных партыйных арганізацый, члены пленумаў райкомаў, гаркомаў, акругкомаў, абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый і члены рэвізійных камісій.

3. Сакратары парткомаў пярвічных партарганізацый, сакратары і члены бюро райкомаў, гаркомаў, акругкомаў, абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый выбіраюцца адкрытым галасаваннем на пленумах адпаведных камітэтаў.

4. Прэзідыум і іншыя кіруючыя органы партыйнай канферэнцыі (сходы) выбіраюцца адкрытым галасаваннем у колькасці, вызначаемай самой канферэнцыяй (сходам).

У кіруючыя органы канферэнцыі і ў склад уноў выбіраемага партыйнага камітэта могуць быць выбраны таксама дэлегаты партыйных канферэнцый з правам дарадчага голасу.

5. Выбары кіруючых партыйных органаў праводзяцца пасля заслухоўвання, абмеркавання і прыняцця канферэнцыяй (сходам) рашэння па справаздачнаму дакладу адпаведнага партыйнага камітэта і рэвізійнай камісіі.

Справаздачы партыйных органаў папярэдне абмяркоўваюцца на пленумах адпаведных камітэтаў партыі.

Папярэдняе абмеркаванне справаздачных дакладаў на пленумах камітэтаў партыі не пазбаўляе членаў пленумаў гэтых камітэтаў права выступаць на партыйных сходах і канферэнцыях з крытыкай кіраўніцтва партыйнай арганізацыі.

6. Перад правядзеннем выбараў партыйная канферэнцыя (сход) устанаўляе колькасць членаў і кандыдатаў выбіраемых партыйных органаў.

7. Кандыдатуры ў новы склад кіруючага партыйнага органа вылучаюцца дэлегатамі і абмяркоўваюцца персанальна непасрэдна на самой партыйнай канферэнцыі (паасобна ў члены і кандыдаты партыйнага органа).

Папярэдняе складанне спісаў і абмеркаванне іх паміма пасяджэння партыйнай канферэнцыі (сходу) не дапускаецца.

Кожнаму ўдзельніку сходу, дэлегату канферэнцыі, жадаючаму выставіць тую ці іншую кандыдатуру ў склад кіруючага партыйнага органа, прэзідыум канферэнцыі (сходу) прадастаўляе слова для ўнясення прапановы аб кандыдатуры і для абгрунтавання гэтай прапановы.

У выпадку паступлення прапановы аб спыненні выстаўлення кандыдатур, прэзідыум канферэнцыі (сходу) ставіць гэту прапанову на рашэнне канферэнцыі (сходу) і адкрытым галасаваннем вырашаецца пытанне прадаўжаць ці спыніць запіс новых кандыдатур.

8. Абмеркаванне ўсіх кандыдатур, вылучаных у склад кіруючага партыйнага органа, вядзецца ў тым парадку, як яны былі запісаны, па меры іх паступлення ў прэзідыум партыйнай канферэнцыі (сходу).

Пры персанальным абмеркаванні кандыдатур павінна быць забяспечана неабмежаванае права адводу вылучаных кандыдатур у склад кіруючага партыйнага органа, г. зн. кожны дэлегат можа адводзіць любую колькасць вылучаных кандыдатур і па кожнай вылучанай кандыдатуры можа высказацца неабмежаваная колькасць дэлегатаў, як «за», так і «супроць».

У выпадку паступлення прапановы аб спыненні абмеркавання той ці іншай кандыдатуры, канферэнцыя (сход) адкрытым галасаваннем вырашае пытанне аб спыненні або прадаўжэнні абмеркавання данай кандыдатуры.

Дэлегаты партыйнай канферэнцыі з правам дарадчага голасу і кандыдаты ў члены ВКП(б) на сходах пярвічных партарганізацый і на раённых партыйных сходах карыстаюцца правам дарадчага голасу пры абмеркаванні кандыдатур у кіруючыя партыйныя органы.

9. Пасля абмеркавання кандыдатур, супроць якіх паступілі адводы, неабходна, у кожным паасобным выпадку ў парадку адкрытага галасавання, вырашаць пытанне аб уключэнні або не ўключэнні

данай кандыдатуры ў спіс, складаемы партыйнай канферэнцыяй (сходам) для правядзення выбараў у кіруючыя партыйныя органы закрытым (тайным) галасаваннем.

Пры гэтым неабходна падлічыць усе галасы як «за адвод», так і «супроць адводу».

Кандыдатуры, супроць якіх адводаў не паступіла, не ставяцца на адкрытае галасаванне і ўключаюцца ў спіс для правядзення выбараў закрытым (тайным) галасаваннем.

10. Перад правядзеннем выбараў кіруючых партыйных органаў для падліку рэзультатаў галасавання партыйная канферэнцыя (сход) выбірае адкрытым галасаваннем рахунковую камісію ў колькасці, устанаўляемай канферэнцыяй (сходам). Члены рахунковай камісіі выбіраюць старшыню рахунковай камісіі.

Перад галасаваннем старшыня рахунковай камісіі абавязан растлумачыць дэлегатам партыйнай канферэнцыі (сходу) парадак правядзення закрытага (тайнага) галасавання.

Рахунковая камісія перад закрытым галасаваннем абавязана падрыхтаваць выбарчыя скрынкі і асабіста іх апячатаць.

11. Закрытае (тайнае) галасаванне пры выбарах кіруючых партыйных органаў павінна праводзіцца на закрытым пасяджэнні партыйнай канферэнцыі ў прысутнасці толькі дэлегатаў з правам рашаючага голасу.

12. Кожны дэлегат з правам рашаючага голасу атрымлівае адзін экземпляр спіса кандыдатур, намечаных канферэнцыяй (сходам) у кіруючы партыйны орган. На дэлегацкім мандаце члена партыі або ў спісах прысутных на канферэнцыі (сходзе) членаў партыі павінна быць зроблена адзнака аб тым, што член партыі прыймаў удзел у галасаванні.

13. Кожны дэлегат у спісе кандыдатур пры закрытым (тайным) галасаванні мае права закрэсліваць паасобныя кандыдатуры або дадаваць новыя кандыдатуры ў склад кіруючага партыйнага органа, незалежна ад таго, у якой колькасці ўстанавіла канферэнцыя (сход) выбіраць партыйны орган.

14. Пасля галасавання рахунковая камісія ўскрывае выбарчыя скрынкі і не выходзячы з будынка канферэнцыі (сходу) робіць падлік рэзультатаў галасавання паасобна членаў партыйных органаў і паасобна кандыдатаў у члены партыйных органаў.

Рахунковая камісія абавязана падлічыць усе галасы «за» і «супроць» кожнай кандыдатуры паасобку.

Пасля падліку галасоў рахунковая камісія складае пратакол, у які заносіць рэзультаты галасавання па кожнай кандыдатуры паасобку, і ўсе члены камісіі падпісваюць гэты пратакол.

У памяшканні, дзе праводзіцца падлік, ніхто не мае права знаходзіцца, акрамя членаў рахунковай камісіі.

15. Рахунковая камісія на пасяджэнні партыйнай канферэнцыі (сходу) дакладвае рэзультат галасавання па кожнай кандыдатуры паасобку.

Выбранымі ў склад кіруючага партыйнага органа лічацца кандыдатуры, атрымаўшыя большасць галасоў, але не менш паловы галасоў, прысутных на канферэнцыі дэлегатаў з правам рашаючага голасу.

16. Усе матар'ялы закрытага (тайнага) галасавання (спісы кандыдатур, пісьмовыя заявы, падлікі галасавання і т. п.) павінны хавацца ў партыйных органах на правах сакрэтных дакументаў.

**ЦК ВКП(б)**

29 сакавіка 1938 г

# Прыём у Крэмлі гераічных зімоўшчыкаў станцыі „Паўночны полюс“

Прама з вакзала гераічныя зімоўшчыкі станцыі «Паўночны полюс» таварышы Папанін, Ширшоў, Крэнкель і Фёдараў прыехалі ў Крэмль. У Вялікім Крэмлёўскім палацы Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Совет Народных Камісараў Саюза ССР наладзілі прыём у гонар адважных герояў—пераможцаў Паўночнага полюса.

К пяці гадзінам вечару ў Георгіеўскую залу Вялікага Крэмлёўскага палаца сабраліся прадстаўнікі партыйных і совецкіх арганізацый сталіцы, совецкай грамадскасці, культуры і навукі. Сярод прысутных—Героі Совецкага Саюза, удзельнікі паветранай экспедыцыі на Паўночны полюс і экспедыцыі па зняццю папанінцаў з дрэйфуючай крыгі, камандзіры Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, стаханаўцы заводаў і фабрык Масквы, дзеячы навукі і мастацтва, лётчыкі, канструктары.

Поўнымі захаплення воплескамі сустрэлі сабраўшыяся з'яўленне ў зале адважных заваявальнікаў Паўночнага полюса. Яны ўвайшлі ў залу, пастроіўшыся ў чоткую шарэнгу, наперадзе ішоў начальнік легендарнай станцыі Іван Дзмітрыевіч Папанін. Ён нёс у руках сцяг з партрэтам таварыша Сталіна, сцяг, які ў маі мінулага года быў узняты над Паўночным полюсам і горда палыхаў над лёдавым лагерам да апошніх дзён станцыі.

Следам за Папаніным ішлі яго верныя таварышы—Крэнкель, Ширшоў, Фёдараў, кіраўнікі экспедыцыі па зняццю зімоўшчыкаў на чале з О. Ю. Шмітам, родныя і блізкія палярнікаў.

З'яўленне ў зале таварышоў Сталіна, Молатава, Варашылава, Калініна, Кагановіча, Мікаяна, Касіора, Жданава, Ежова, Эйхе, Дзімітрава і Шкіратава было сустрэнута поўнымі захаплення авацыямі ў гонар таварыша Сталіна і кіраўнікоў партыі і ўрада.

Таварыш Сталін і яго саратнікі сардэчна вітаюць, абнімаюць і цалуюць пакарыцеляў полюса.

Адкрываючы прыём, таварыш Молатаў абвяшчае тост за слаўных папанінцаў. Уся зала, стоячы, апладзіруе гераічнай чацвёрцы.

Таварыш Молатаў падымае бакал за капітана «Таймыра» тав. Барсукова, кіраўніка экспедыцыі на «Таймыры» тав. Остальцэва, ка-

пітана «Мурмана» тав. Котцава, капітана «Мурманца» тав. Ульянава, капітана «Ермака» тав. Вароніна, кіраўніка экспедыцыі тав. О. Ю. Шміта і іншых удзельнікаў экспедыцыі. Наступны тост таварыш Молатаў абвяшчае за здароўе сем'яў адважнай чацвёркі, іх родных і блізкіх і сем'яў маракоў.

Герой Совецкага Саюза тав. О. Ю. Шміт падымае бакал за здароўе таварыша Сталіна. Тост сустракаецца бурнай, поўнай захаплення авацыяй, крыкамі «ура» і прывітальнымі воклічамі. Доўга цягнецца дэманстрацыя любві і адданасці таварышу Сталіну.

Бурнымі воплескамі сустракаецца тост, абвешчаны за главу совецкага ўрада таварыша Молатава.

Тав. Молатаў паднімае бакал за гераічных совецкіх лётчыкаў, даставіўшых папанінцаў на Паўночны полюс, за таварышоў Вадап'янава, Молакава, Алексеева, Мазурука, Галавіна і іншых удзельнікаў паветранай экспедыцыі. Вячэслаў Міхайлавіч напамінае аб дырыжаблі «В-6», які павінен быў прыняць удзел у зняцці папанінцаў з крыгі, але загінуў з-за выпадковасці. Тав. Молатаў абвяшчае тост за здароўе членаў сем'яў камандзіра дырыжабля тав. Гудаванцэва і яго спадарожнікаў.

Затым тав. Шміт абвяшчае тосты за Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР тав. М. І. Калініна, за народнага камісара абароны маршала Совецкага Саюза тав. К. Е. Варашылава, народнага камісара Ваенна-Марского Флота тав. П. А. Смірнова, за народнага камісара цяжкай прамысловасці тав. Л. М. Кагановіча, за народнага камісара ўнутраных спраў тав. Н. І. Ежова, за старшыню камісіі па арганізацыі зняцця папанінцаў з крыгі тав. А. І. Мікаяна, за кіраўніка ленінградскіх большэвікоў тав. А. А. Жданава.

З яркай, красачнай прамовай выступае Герой Совецкага Саюза начальнік станцыі «Паўночны полюс» тав. І. Д. Папанін. Ён дакладвае таварышу Сталіну, кіраўнікам партыі і ўрада, што заданне, даручанае зімоўшчыкам, выканана поўнасцю.

Таварыш Сталін абвяшчае тост за здароўе папанінцаў. Прысутныя ў зале сустракаюць тост шумнымі воплескамі.

Далей тав. Шміт падымае бакал за народнага камісара замежных спраў тав. М. М. Літвінава, народнага камісара абароннай прамысловасці тав. М. М. Кагановіча, за ленінскі комсамол і яго кіраўніка тав. Косарэва.

Пасля выступлення Героя Совецкага Саюза тав. Чкалава слова прадастаўляецца таварышу Сталіну.

У зале грыміць авацыя. Раздаюцца прывітальныя воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Ура—таварышу Сталіну!».

Таварыш Сталін гаворыць яркую прамову аб совецкім гераізме, аб мужнасці совецкіх палярнікаў і лётчыкаў. Прамова таварыша Сталіна была сустрэнута бурнай, доўгай авацыяй.

На прыёме таксама выступалі Героі Совецкага Саюза тав. М. В. Вадап'янаў, славуты радыст дрэйфуючай станцыі тав. Э. Т. Крэнкель.

Для прысутных на прыёме быў дан вялікі канцэрт, у якім прымалі ўдзел Чырвонасцяжны ансамбль чырвонаармейскай песні і пляскі СССР, лепшыя артысты сталіцы, ансамбль чырвонаармейскай мастацкай самадзейнасці часцей пагранічных і ўнутраных войск НКВД СССР.

**(БЕЛТА).**

---

# УКАЗ

***Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР аб узнагародзе персанала дрэйфуючай станцыі „Паўночны полюс“***

1. За праяўлены гераізм у справе выканання ўрадавага задання прысвоіць званне Героя Совецкага Саюза, з уручэннем Ордэна Леніна:

**Крэнкелю Эрнсту Тэодаравічу**—радысту дрэйфуючай станцыі «Паўночны полюс».

**Ширшову Петру Петровічу**—навуковаму работніку дрэйфуючай станцыі «Паўночны полюс».

**Фёдараву Еўгенію Канстанцінавічу**—навуковаму работніку дрэйфуючай станцыі «Паўночны полюс».

2. Узнагародзіць другім Ордэнам Леніна Героя Совецкага Саюза т. **Папаніна Івана Дзмітрыевіча**—начальніка дрэйфуючай станцыі «Паўночны полюс».

3. Выдаць тт. Папаніну І. Д., Крэнкелю Э. Т., Шыршову П. П. і Фёдараву Е. К. грашовую ўзнагароду ў размеры 30 тысяч рублёў кожнаму.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР**

**М. КАЛІНІН.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР**

**А. ГОРКІН.**

Масква, Крэмль. 22 сакавіка 1938 г.

## *УЗНАГАРОДЖАННЕ ЭКІПАЖАЎ І ЭКСПЕДЫЦЫЙНАГА САСТАВА СУДНАЎ „ТАЙМЫР“, „МУРМАН“, „МУРМАНЕЦ“ І „ЕРМАК“.*

За выдатнае выкананне ўрадавага задання па зняццю персанала дрэйфуючай станцыі «Паўночны полюс» указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР ад 22 сакавіка 1938 года ўзнагароджан экіпаж і экспедыцыйны састаў суднаў «Таймыр», «Мурман», «Мурманец» і «Ермак».

Ордэнам Леніна ўзнагароджаны:

**Барсукоў Б. Д.**—капітан ледакольнага парахода «Таймыр», **Котцаў І. Ф.**—капітан ледакольнага парахода «Мурман», **Ульянаў І. Н.**—капітан зверабойнага судна «Мурманец», **Остальцэў А. В.**—начальнік экспедыцыі на ледакольным параходзе «Таймыр», **Власаў Г. П.**—пілот. Гэтыя таварышы таксама ўзнагароджаны па 10 тысяч рублёў кожны.

Ордэнам Чырвоная Звязда ўзнагароджана 15 чалавек.

Ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу ўзнагароджан 31 чалавек.

Ордэнам «Знак почета» ўзнагароджана 56 чалавек.

Суднавому і экспедыцыйнаму саставу ледакольнага парахода «Таймыр», «Мурман» і зверабойнага судна «Мурманец» выдаецца грашовая прэмія ў размеры трохмесячнага палярнага акладу.

Экіпажу і экспедыцыйнаму саставу ледакола «Ермак» выдаецца грашовая прэмія ў размеры месячнага палярнага акладу.

---

**Я. Шарахоўскі**

# Вялікі пісьменнік пролетарыята

## (Да сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння А. М. Горкага)

З велізарнейшай сілай з самага пачатку свайго пісьменніцкага шляху А. М. Горкі верыў у чалавека працы і яго творчыя здольнасці. Скрозь прыгнечанасць і абяздоленасць, скрозь галечу і жабрацтва вялікі пісьменнік бачыў у недалёкім будучым шчаслівае жыццё народа, перамогу ў чалавеку сапраўды чалавечых якасцей і таму яшчэ ў цяжкую і змрочную пару царызма ён пісаў: «Чалавек—гэта гучыць горда». Упэўненасць у тым, што ён прыдзе—шчаслівы заўтрашні дзень, невыкараніма жыла ў Горкім, але ён ведаў, што шчасце народа прыдзе толькі тады, калі народ будзе змагацца, пераможа і сваімі рукамі створыць сваё шчасце. Вось чаму ён так любіў і быў так горача прывязан да тых, хто вёў масы да перамогі і шчасця—вялікіх правадыроў Леніна і Сталіна. А. М. Горкі пісаў пра Леніна:

«Вось ён не існуе фізічна, а голас яго ўсё гучней, пераможней гучыць для працоўных зямлі, і ўжо няма такога кутка на ёй, дзе-б гэты голас не ўзбуджаў-бы волю рабочага класа да рэволюцыі, да новага жыцця, да будаўніцтва свету людзей роўных. Усё больш упэўнена, мацней, пасгіяховей робяць вялікую справу вучні Леніна, наследнікі яго сілы».

Ён ганарыўся тым, што жыве «у краіне, асветленай геніем Владзіміра Ільіча Леніна, дзе нястомна і цудадзейсна працуе жалезная воля Іосіфа Сталіна». Ён захапляўся ў Леніне «ярка-выражанай воляй да жыцця і актыўнай нянавісцю да мярзотнасці яго». І ў самім Горкім жыла гэта вялікая нянавісць да мярзотнасці жыцця. Усё сваё жыццё ён змагаўся супроць тупарылага мяшчанства, супроць буйных драпежнікаў буржуазіі і дробных подленькіх людзей, супроць правакатараў і гнусных здраднікаў. У 1935 г. пасля зладзейскага забойства С. М. Кірава, Горкі пісаў: «Чалавек—вянец прыроды» і «гучыць горда», гэта бясспрэчна, але таксама бясспрэчна, што ён бывае мярзаўцам, забойцам правадыроў пролетарыята, здраднікам радзімы, здзіўляючым ліцамерам, ворагам рабочага класа, шпіёнам капіталістаў,—у такавых яго якасцях ён належыць бязлітаснаму знішчэнню».

Выключна вяліка значэнне творчасці вялікага пісьменніка пролетарыята А. М. Горкага для народаў Савецкага Саюза і ўсяго працоўнага чалавецтва. Высока-мастацкія, рэалістычна-праўдзівыя творы свайго магутнага розуму і вялікага сэрца ён аддаў на служэнне чалавеку працы, звязаўшы свой шлях пісьменніка з вызваленчай барацьбою рабочага класа ў Расіі і з яго авангардам—партыяй большэвікоў. А. М. Горкі прыйшоў у літаратуру з нізоў народа, са свету пры-

гнечаных і абяздоленых, прыйшоў, як сын народа, і свой шлях у літаратуры прайшоў разам з народам.

Літаратурная дзейнасць А. М. Горкага пачалася са з'яўленнем у тыфлiскай газеце «Кавказ» яго першага апавядання «Макар Чудра» (1892 г.), у якім ён адразу выявіў сябе пісьменнікам з яркім і шматабяцаючым дараваннем. К гэтаму часу ён, не гледзячы на маладыя гады, прайшоў ужо надзвычай суровую школу жыцця, працуючы над сабой, набываючы веды. Услед за «Макарам Чудрай» адно за адным з'яўляюцца яго маляўнічыя і страстна-пратэстуючыя апавяданні, якія ў 1898 г. выходзяць асобным выданнем у двух тамах і выклікаюць небывалы грамадска-палітычны рэзананс. Гэтыя рамантычна-натхнёныя апавяданні па сваёй ідэйна-палітычнай накіраванасці з'явіліся сугучнымі грамадскаму настрою лепшай часткі тагочаснай інтэлігенцыі і рабочага чытача, яны абуджалі рэволюцыйную думку, штурхалі на рэволюцыйную справу, і адсюль зразумелы іх выключны поспех.

У грамадска-палітычным жыцці Расіі васьмідзесятыя годы былі эпохай надзвычай цяжкай. Гэта была глухая пара, калі чалавечая асоба была асабліва прыгнечана і прыніжана, калі было немагчыма ніякае выяўленне вольнай думкі. Для людзей перадавых і пратэстуючых быў адзін шлях—Владзімірка. У грамадска-палітычным жыцці панавала панурая маўклівасць. Чэхаўскі шэры чалавек, без ідэй і ідэалаў, з нікчэмнымі думкамі і нікчэмнымі адчуваннямі—мешчанін высоўваецца на першы план са сваім ганебна-славутым: «Як-бы чаго не выйшла».

А. М. Горкі ў сваіх першых творах у процілегласць васьмідзесятнікам адраджае культ героя, самаадданага барацьбіта. У сваіх рамантычна-прыўзнятых апавяданнях і легендах ён паказвае людзей вольных і нязломных, якія высока цэняць сваю чалавечую вартасць і не дазволяць здзеквацца над сабою. У процілегласць рабскай прыніжанасці Горкі высоўвае лозунг: «Безумству храбрых поем мы песню». Горкі зноў унёс у рускую літаратуру гераічную тэму і гэтым самым прадоўжыў гераічныя традыцыі рускай літаратуры, літаратуры Пушкіна і Белінскага, Некрасава і Чэрнышэўскага і ў гэтым адна з найвялікшых яго заслуг.

У апавяданні «Макар Чудра» А. М. Горкі расказвае пра гордых і прыгожых Лойко Зобара і Радду. Моцна кахаюць яны адзін аднаго, але кожнаму з іх даражэй за ўсё ў жыцці воля. Ніводзін з іх не хоча аддаць сваю волю, і абодва гінуць. Як не падобна гэта на нікчэмныя перажыванні васьмідзесятнікаў! Гэта—палкая пропаведзь нязломнасці ў адстойванні сваёй волі і сваёй чалавечай вартасці.

Вось апавядае старая Ізергіль пра юнага героя Данко.

— На стэпавых прасторах жылі вясёлыя, моцныя і смелыя людзі. Але ворагі перамаглі іх, прагналі з родных мясцін у гушчары старога лесу. У лесе было шмат гнілых балот і панаваў спрадвечны змрок. І гінулі людзі ў лесе адзін за адным. Доўга думалі людзі і ўжо хацелі ісці здацца ворагу ў рабства, аддаць яму сваю волю. Але з'явіўся малады Данко і ўзяўся вывесці іх з лесу. І вось ён гаворыць ім, сваім таварышам:

«— Не звярнуць каменя з дарогі думаю. Хто нічога не робіць, з тым нічога не зробіцца. Што мы трацім сілы на думу ды тугу? Уставайце, пойдзем у лес і пройдзем яго скрозь, мае-ж ён канец— усё на свеце мае канец! Хадзем! Ну! Гэй!..»

Доўга вёў іх Данко, і вось аднойчы разбушавалася навальніца, зашапталі дрэвы глуха і грозна. Людзі страцілі ўсякую надзею і хацелі забіць Данко.

«— Ты,—сказалі яны,—нікчэмны і шкодны чалавек для нас! Ты павёў нас і стаміў і за гэта ты загінеш!»

Тады ад вялікай любві да людзей разарваў свае грудзі Данко, выняў сваё палаючае сэрца і павёў людзей, святлом уласнага сэрца асвятляючы ім шлях. І расступіўся лес, выйшлі людзі зноў у стэп, на прастор—радасна азірнуў вольную зямлю Данко і засмяяўся горда. Потым упаў і памёр Данко.

Гэта легенда пра чалавека, які знайшоў у сабе мужнасць у надзвычай цяжкіх умовах весці за сабою людзей, які вывеў іх да шчаслівага жыцця, самаафярна аддаўшы сябе для агульнай справы.

Вось у «Песні пра Сокала» вядуць свой славуты дыялаг Сокал і Вуж. На смерць паранены Сокал, які жыў жыццём вольных і смелых, не адмаўляецца ад яго і ў сваю апошнюю мінуту. У яго няма нават і цені сумнення ў правільнасці выбранага шляху, наадварот, ён шчаслівы і гаворыць Вужу:

— «Пажыў я слаўна!.. Я зведаў шчасце!.. Я смела біўся!.. Я бачыў неба!.. Ты не пабачыш яго так блізка!.. Эх, ты, няшчасны!..»

І ў гэтым творы Горкі ўслаўляе шчасце барацьбы і бойкі, непахіснасць у барацьбе за светлае і вольнае жыццё. Перадавы чытач, які на самім сабе адчуваў ненавісны прыгнёт самадзяржаўя, вельмі добра разумеў, пра якую барацьбу ішла гаворка ў апавяданнях Горкага. Горкаўскія заклікі ўспрыймаліся як палітычныя пракламацыі, як прадвеснікі ўздыму рэвалюцыйнай дзейнасці, новай хвалі барацьбы за лепшую будучыню народа. Як пісьменнік, шчыльна звязаны з народам, з яго думкамі і спадзяваннямі, Горкі з'явіўся выразнікам будучай буры. Ён стварыў магутны вобраз буравесніка, і ў цэлым радзе твораў, клікаючы на барацьбу за шчасце народа, сам з'явіўся буравеснікам першай рускай рэвалюцыі. Горкі выступіў у літаратуры як пісьменнік пролетарыята. Усё больш умацоўваючы свае сувязі з народам, з вызваленчай барацьбой рабочага класа і яго авангардам—партыяй большэвікоў, Горкі зрабіўся адным з адданейшых барацьбітоў за справу соцыялізма ў краіне Советаў.

Талентам вялікага мастака Горкі знайшоў у народзе і яго творчасці магутныя вобразы і на гэтым матар'яле ствараў свае гераічныя легенды, якія клікалі на барацьбу супроць прыгнятальнікаў, супроць самадзяржаўя. У сваёй ранняй творчасці А. М. Горкі паказваў і свет адверженых людзей, кінутых капіталізмам на дно жыцця,—басякоў. Ён паказваў, што ў іх, не гледзячы на нечалавечыя ўмовы існавання, жыве пратэст супроць добрапрыстойна-мяшчанскага свінства, што ў іх куды больш сапраўды чалавечых якасцей, чым у прадстаўнікоў так званага «прыстойнага грамадства». Гэтыя апавяданні напісаны таксама ў прыўзнята-рамантычным стылі.

Рамантызм ранняга Горкага быў рамантызмам рэволюцыйным, накіраваным у будучыню, але і ранні Горкі не быў выключна рамантыкам. У самога пісьменніка было выразнае адчуванне таго, што і ў першы перыяд творчасці ён не быў выключна рамантыкам, але і рэалістам. Так, у артыкуле «Пра тое, як я вучыўся пісаць» Горкі пісаў:

«Такім чынам, на пытанне: чаму я стаў пісаць? адказваю: з прычыны ціску на мяне «нудна-беднага жыцця» і таму, што ў мяне было так многа ўражанняў, што «не пісаць я не мог». Першая прычына

прымусіла мяне паспрабаваць унесці ў «беднае» жыццё такія вымыслы, «выдумкі», як «Казка пра Сокала і Вужа», «Легенда пра палаючае сэрца», «Буравеснік», а пад уплывам другой прычыны я пачаў пісаць апавяданні «рэалістычнага» характару—«Дваццаць шэсць і адна», «Супруги Орловы», «Азарнік» *).

Горкі тут зусім правільна ўскрывае паходжанне і свайго рамантызма і рэалізма. Горкі неаднаразова падкрэслівае неабходнасць у літаратуры выдумкі, але, калі мы паглядзім, якою выдумкай ён карыстаўся, то ўбачым, што ў самай выдумцы ён паказваў скрыты сэнс працэсаў, якія адбываліся ў сапраўднасці. Так, праз басякоў, з жыццём якіх, дарэчы, ён пазнаёміўся вельмі блізка, ён выказваў незадавальненне, пратэст супроць «прыстойнага», а на самай справе тупога мяшчанскага існавання.

«Нармальнае» жыццё мяшчан было ненавісна Горкаму і, наадварот, ён часта бачыў каштоўныя этычныя і маральныя якасці ў выкінутых за борт грамадскага жыцця людзей. Сярод людзей, кінутых на дно жыцця, яму даводзілася бачыць людзей моцнай волі, настойлівых у дасягненні сваіх мэт, людзей, якія ні ва што не ставяць аснову мяшчанскага дабрабыту—грошы і т. д., людзей з выключнымі душэўнымі якасцямі, якія не хацелі падпарадкавацца подласці мяшчанскага жыцця. Басякі Горкага—гэта шырокія, вольныя натуры, яны не ўкладваюцца ў малыя рамкі мяшчанскага жыцця, яны нездаволены, яны—выразнікі стыхійнага пратэсту. Вось, напрыклад, Мальва з апавядання «Мальва», якая паказана вельмі рамантычна, выказвае свой пратэст тым, што ёй хацелася-б паехаць далёка-далёка ў мора і не варочацца да нікчэмных людзей, якія ёй апрыкрылі.

Горкі няспынна расце як мастак, ахоп жыцця ў яго творчасці ўсё пашыраецца, ён робіцца больш строгім і рэалістычным у мастацкіх сродках (басякі ў «Былых людзях» і ў драме «На дне» паказаны ўжо ў рэалістычным плане), а таксама пераходзіць да паказу ў сваёй творчасці рабочых. Пісьменнік усё больш шчыльна звязваецца з рабочым рухам, які пачынаў у гэты час разгортвацца, і практычныя мэты барацьбы рабочага класа ставяць перад ім, як перад пісьменнікам, рад новых задач.

У Горкага на працягу ўсяго яго пісьменніцкага шляху была моцная вера ў магчымасць разумнай арганізацыі грамадства, у творчыя здольнасці чалавека працы—гаспадара жыцця, але, як блізкую для ажыццяўлення, задачу перабудовы жыцця ён убачыў тады, калі ўшчыльную падыйшоў у сваёй творчасці да паказу рабочых. Першым вобразам рабочага ў яго творчасці быў машыніст Ніл у п'есе «Мяшчане». Калі басякі марылі пра вольнае жыццё і былі выразнікамі пратэсту, то Ніл ставіць пытанне аб мэтах жыцця ў чыста практычным плане.

«—На ўсе сродкі душы маёй,—гаворыць ён,—здаволю сваё жаданне ўмяшацца ў самую гушчу жыцця... мясіць яго так і гэтак, таму перашкодзіць, гэтаму дапамагчы... Вось у чым радасць жыцця».

Калі ў «Мяшчанах» Ніл дзейнічае адзін, як прадстаўнік рабочага класа, то ў п'есе «Ворагі» рабочая маса паказана ўжо як згуртаваная сіла, як калектыў, які процістаіць свету мяшчанства.

Падыйсці ўшчыльную да паказу рабочых у сваёй творчасці Горкі здолеў тады, калі блізка пазнаёміўся з іх жыццём і асабліва калі

*) *М. Горкі.* „Пра літаратуру", выд. „Советский писатель". Масква, 1937 г., стар. 205.

сам прыняў удзел у вызваленчай барацьбе рабочага класа. У 1901 г. Горкі ўвайшоў у РСДРП і ў гэтым-жа годзе быў арыштован у Ніжнім Ноўгарадзе і пасаджан у турму, а пасля—сослан у горад Арзамас, Ніжагародскай губерніі за выданне «злачынных адозваў» да сормаўскіх рабочых. З гэтага пачынаецца праследванне пісьменніка з боку самадзяржаўя. Калі ў 1902 г. Горкага выбіраюць ганаровым акадэмікам па разраду прыгожага пісьменства, то па настаянню Нікалая II выбары ануліруюцца з прычыны «палітычнай ненадзейнасці» пісьменніка. У 1905 г. Горкі піша рад пракламацый і адозваў для ЦК партыі, пра гэта значна пазней у часе супрацоўніцтва Горкага ў большэвіцкай «Звяздзе» (1912 г.) Ленін пісаў яму такім чынам:

«Ці не напішаце майскі лісток? Або лістовачку ў такім-жа майскім духу? Кароценькую, «духаўздымную», га? Трасаніце старыной—памятаеце 1905 г.—і чырканіце пару слоў, калі з'явіцца ахвота напісаць» *).

У гэтым-жа 1905 г. Горкага за тое, што ён асмеліўся напісаць праўду аб «крывавай нядзелі», арыштоўваюць і саджаюць у Петрапаўлаўскую крэпасць, адкуль самадзяржаўе вымушана яго вызваліць у 1906 годзе пад уплывам пратэстаў выдатных пісьменнікаў Захаду. Каб ухіліцца ад праследванняў з боку царызма, Горкі выязджае за мяжу і пасяляецца на востраве Капры. У гэтым-жа годзе ён едзе ў Амерыку па партыйных справах і піша першы аб Расіі буйны твор, цалкам прысвечаны вызваленчай барацьбе рабочага класа,—аповесць «Маці». Аповесць была моцна скалечана рускай цэнзурай, але мела надзвычайны поспех у рабочага чытача. За мяжою аповесць вышла ў мільённых тыражах у дадатках да газет і журналаў і хутка зрабілася настольнаю кнігай заходняга рабочага. Гэты выдатнейшы твор А. М. Горкага не страціў свайго значэння і на сёння, з'яўляючыся мастацкім дакументам жыцця і барацьбы за ўладу рускага пролетарыята. Ленін, прачытаўшы аповесць яшчэ ў рукапісу, даў ёй высокую ацэнку, назваўшы вельмі своечасовай кнігай. Горкі ў сваіх успамінах пра Леніна так перадае размову з Леніным пра аповесць «Маці»:

«Я сказаў, што спяшаўся напісаць кнігу, але не справіўся растлумачыць, чаму спяшаўся,—Ленін, сцвярджальна кіўнуўшы галавой, сам растлумачыў гэта: вельмі добра, што я паспяшаўся, кніга—патрэбная, шмат рабочых удзельнічала ў рэволюцыйным руху несвядома, стыхійна і цяпер яны прачытаюць «Маці» з вялікай карысцю для сябе» **).

Ленін надзвычай высока цаніў Горкага як мастака. 16 лістапада 1909 г. Ленін пісаў Горкаму з Парыжа:

«Сваім талентам мастака Вы прынеслі рабочаму руху Расіі—ды і не адной Расіі—такую аграмадную карысць, Вы прынясеце яшчэ столькі карысці, што ні ў якім выпадку недазвольна для Вас даваць сябе ва ўладу цяжкім настроям, выкліканым эпізодамі замежнай барацьбы» ***).

У 1907 г., з часу пятага з'езда партыі, на якім Горкі прысутнічаў з дарадчым голасам, і пазней, пісьменнік блізка сходзіцца з Леніным і зноў пачынае вялікую работу ў большэвіцкіх выданнях, друкуе ў большэвіцкай «Звездзе» частку сваіх «Казак», рэдагуе белетрыстычны аддзел большэвіцкага органа «Просвещение» і т. д. У 1913 г., калі

*) „Пісьмы Леніна да Горкага," Партвыдавецтва ЦК ВКП(б), 1936 г., стар. 63.

**) *М. Горкі.* „9 студзеня, Ленін", ОГИЗ, 1933 г., стар. 35.

***) „Пісьмы Леніна да Горкага", стар 36.

Горкі пачынаў з лютаўскай кніжкі рэдагаваць белетрыстычны аддзел «Просвещения», Ленін пісаў яму з Кракава:

«Вось сапраўды надзвычайна будзе, калі мы памаленьку далучым белетрыстаў ды рушым «Просвещение»! Надзвычайна! Чытач новы, пролетарскі,—зробім журнал танным,—белетрыстыку будзеце выпускаць толькі дэмакратычную, без ныцця, рэнегацтва» *).

1910—12 гг. Горкі стварае новы буйны твор «Гарадок Окураў», у якім паказвае беспрасветнае жыццё павятовай Расіі. Горкі ў гэтым творы настолькі тыпова паказаў жорсткія формы жыцця, коснасць і прагавітасць герояў «цёмнага царства», што акураўшчына зрабілася такою-ж абагульняючай назвай, як абломаўшчына і т. д. У 1913 г. выходзіць першая частка аўтабіяграфічнай трылогіі «Дзяцінства», у 1916 г. другая—аповесць «У людзях». У гэтых творах, а таксама ў трэцяй частцы трылогіі—у «Маіх універсітэтах», якія вышлі значна пазней, пасля рэволюцыі, Горкі расказвае пра надзвычай цяжкія ўмовы, у якіх рос, выхоўваўся, вучыўся будучы вялікі пісьменнік. Як далёкі і непадобныя гэтыя ўмовы на тыя, у якіх жыве і развіваецца совецкая моладзь! Гэтыя творы асабліва трэба раіць чытаць маладым пісьменнікам, бо яны вельмі ярка паказваюць, што для таго, каб зрабіцца пісьменнікам, патрэбна надзвычайна вялікая праца над сабою.

Ужо ў 1914 г. Горкі пачынае вялікую працу па збіранню сіл пролетарскай і сялянскай літаратуры. Ён з вялікім энтузіязмам бярэцца за гэтую справу, выдае пад сваёй рэдакцыяй зборнікі пролетарскіх пісьменнікаў. Але асабліва разгарнулася дзейнасць Горкага ў гэтым напрамку ў совецкіх умовах, калі ён канчаткова пераехаў у 1929 г. жыць у СССР. З гэтага часу ён выяўляе надзвычайныя клопаты аб выхаванні маладых кадраў совецкіх літаратараў, піша цэлую серыю артыкулаў у дапамогу пачынаючаму пісьменніку, у якіх дзеліцца вопытам пісьменніцкай работы і дае надзвычай каштоўныя парады аб тым, што трэба рабіць, каб навучыцца праўдзіва і па-мастацку паказваць жыццё.

У цэлым радзе сваіх твораў Горкі з запалам сапраўднага барацьбіта за разняволенне чалавека працы пісаў пра буржуазію і буржуазную інтэлігенцыю. Ужо ў такіх творах, як «Варэнька Олесава», ён выводзіць гадзенькага, нікчэмнага прыват-доцэнта Палканава, у «Чорце» паказвае тупасць гэтай інтэлігенцыі ў яе адносінах да пісьменнікаў, у п'есах «Мяшчане», «Дачнікі», «Варвары», малюючы жыццё буржуазнай інтэлігенцыі, галоўны ўпор робіць на бяссэнсавасць, непатрэбнасць, шэрую бясколернасць яе жыцця. У гэтым плане ён выступаў супроць буржуазнай інтэлігенцыі і ў радзе сваіх публіцыстычных твораў, у гэтым сэнсе даволі прыгадаць яго артыкулы «Пра мяшчанства», якія ён друкаваў у канцы 1905 г. у органе большэвікоў «Новая жизнь».

Бязлітасна рэалістычна паказаў А. М. Горкі жыццё буржуазіі ў «Фаме Гардзееве», «Справе Артамонавых» і інш. Якаў Маякін у «Фаме Гардзееве» упэўнен, што буржуазныя ўзаемаадносіны—воўчы эгаізм, вайна ўсіх супроць усіх,—гэта вечны закон жыцця. У гэтым ён ніколькі не адстае ад сучасных фашыстаў. Маякін норму паводзін буржуазіі пераносіць на ўсё грамадства. Гэтыя свае думкі ён спрабуе прышчапіць і пратэстанту, шукальніку праўды Фаме Гардзееву.

«— Усякі сабе лепшага жадае, а што яно лепшае? Наперад за

*) „Пісьмы Леніна да Горкага“, стар. 88.

людзей зайсці, вышэй за іх стаць. Вось і ўсе стараюцца дасягнуць першага месца ў жыцці». Такім чынам, канкурэнцыю Маякін лічыць галоўным рэгулятарам грамадскіх узаемаадносін, а паколькі так, дык падобным «філосафам» нічога не абыходзіць апраўдаць і зверскі прыгнёт і бесчалавечнасць і ўсё астатняе. Тут Горкі паказвае ў рэалістычна аголенай форме буржуазную «мудрасць». «Ніколі чалавек чалавеку не ўступіць» і «агульнае шчасце немагчыма»—вось яна «філасофія» капіталістычных драпежнікаў.

Але «чалавек чалавеку воўк». Вайна ўсіх супроць усіх,—гэта капіталістычны прынцып у яго чыстай, аголенай форме. Для таго, каб трымаць у руках рабочыя масы, буржуазіі бываюць патрэбны слугі, якія маглі-б, каб заваяваць давер'е ў народных мас, прыкрываць сваё драпежнае нутро размовамі аб рэволюцыі, аб інтарэсах народа і т. д. Якраз выкрыццю такіх слуг буржуазіі, буржуазнай і калярэволюцыйнай інтэлігенцыі прысвечан найбольш вялікі твор А. М. Горкага «Клім Самгін». У цэнтры гэтага твору стаіць адвакат Клім Самгін, які марыць аб кар'еры, характэрнай для такіх людзей у буржуазных краінах. Зрабіць такую кар'еру яму перашкаджае царызм, і адсюль пачынаецца ўяўленне ў Самгіна аб тым, што ён чалавек перадавы, бо ён хоча скасавання царызма, бо ён, як быццам, спачувае рэволюцыі. Ён спрабуе хаваць непрыязнь да сапраўдных рэволюцыянераў і захапляецца правакатарамі. Яны яму вельмі па душы, ён круціцца каля рэволюцыйнага руху і са скуры лезе вон, каб захаваць «незалежнасць» сваёй нікчэмнай асобы. Ён адчувае сябе вельмі і вельмі нязручна ў момант рэволюцыйнага ўздыму, бо ён не верыць у сілу мас, бо ён панікёр, ён чужы ім, і, наадварот, у час задушэння рэволюцыі ён з гадзенькім задавальненнем мешчаніна думае пра тое, што вось усё «увойдзе ў норму». У вобразе Кліма Самгіна А. М. Горкі выкрывае чужога чалавека ў рэволюцыйным руху, які ў рашаючы момант няўхільна выявіць сваё сапраўднае нутро і акажацца або правакатарам або здраднікам. У часе поспехаў рэволюцыі людзі гэтага сорту наліпаюць на яе арганізм, яны як быццам нешта робяць, у кожным разе мітусяцца і гавораць гучныя фразы, а тым часам уладжваюць свой дабрабыт (вядома, за кошт «любові да народа») і навыперадкі лезуць угару па іерархічнай лесвіцы. Але як толькі прыходзіць складаны або проста рашаючы момант у рэволюцыі, калі трэба або перамагчы або загінуць, тады астаюцца сапраўдныя, крыштальна-чыстыя рэволюцыянеры, а ўвесь накіп, усё іншароднае аказваецца ў радах здраднікаў, правакатараў, шпіёнаў. У асобе Кліма Самгіна А. М. Горкі даў правобраз ворагаў народа.

Горкі вучыўся ў Леніна большэвізму і ўменню распазнаваць людзей. Горкі быў саратнікам Леніна і Сталіна, змагаўся разам з імі за адну справу—справу соцыялізма. Яго моцна ненавідзелі здраднікі і забойцы, правакатары і шпіёны з контррэволюцыйнага трацкісцкага лагера. Ненавідзелі таму, што «да апошняга ўздыху Горкі жыў аднымі пачуццямі і мыслямі з тымі, хто з такім энтузіязмам будуе цяпер новае, соцыялістычнае грамадства пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна. Яго вочы да канца дзён жыцця зіхацелі агнямі барацьбы і непрымірымасці да ворагаў працоўных, да фашыстаў і да ўсіх іншых прыгняталынікаў, да душыцеляў культуры і падпальшчыкаў вайны» (**Молатаў**).

Перад тварам совецкага правасуддзя на папярэднім следстве адзін з главароў антысовецкага «права-трацкісцкага блока» Рыкаў

паказаў: «Мне вядома, што Троцкі праз сваіх прадстаўнікоў у кантактным цэнтры ўсяляк распальваў злобныя настроі ў дачыненні Горкага. Гэта, натуральна, тлумачыцца тым, што Троцкаму было добра вядома, што Горкі лічыць яго прайдзісветам і авантурыстам. З другога боку, агульна вядома блізкасць Горкага і Сталіна і тая акалічнасць, што ён з'яўляецца незгінаным палітычным прыхільнікам Сталіна, выклікала злобныя адносіны да яго нашай арганізацыі». У сваёй нянавісці да вялікага пісьменніка яны дайшлі да нечуванага злачынства—па-зладзейску ўмярцвілі яго. На вобразе Кліма Самгіна Горкі паказвае шлях, па якому чужыя ў рэвалюцыі людзі немінуча прыходзяць да здрады радзіме, да правакацыі, да шпіянажу.

Работа над «Клімам Самгіным» ішла роўналежна надзвычай вялікай публіцыстычнай і арганізацыйнай дзейнасці Горкага за апошняе дзесяцігоддзе яго жыцця. Калі ў «Кліме Самгіне» А. М. Горкі ў мастацкай форме канцэнтраваў увагу совецкай грамадскасці на пытаннях пільнасці да ворага, то ў сваіх публіцыстычных выступленнях ён з запалам адданейшага барацьбіта за соцыялізм гаварыў пра неабходнасць рэволюцыйнай мужнасці і рашучасці ў барацьбе з ворагамі. У артыкуле «Калі вораг не здаецца—яго знішчаюць» (1930 г.) Горкі пісаў:

«Мы жывем ва ўмовах няспыннай вайны з усёй буржуазіяй свету. Гэта абавязвае рабочы клас дзейсна рыхтавацца да самаабароны, да абароны ўсяго, што ўжо створана ім для сябе і ў навучанне пролетарыям усіх краін на працягу 13 год гераічнай самазабыўнай работы будаўніцтва новага свету» *).

Гэтыя словы Горкага такія-ж актуальныя цяпер, як і тады, калі ён іх пісаў. У сваіх артыкулах Горкі звяртаецца не толькі да совецкай грамадскасці, да рабочых, сялян і інтэлігенцыі Совецкага Саюза, але і да заходне-еўрапейскіх рабочых і дэмакратычнай інтэлігенцыі, растлумачваючы ім сусветна-гістарычнае значэнне справы пабудовы соцыялізма ў Совецкім Саюзе. Поўнае рэволюцыйнага запалу слова Горкага—пісьменніка з сусветным імем, які карыстаўся вялікай павагай сярод працоўных усяго свету і ўсіх прыхільнікаў дэмакратыі і міру—арганізоўвала сусветную грамадскую думку для адпору фашызму, згуртоўваючы лепшыя сілы чалавецтва вакол Совецкага Саюза. Горкі піша аб пераможным поступе соцыялізма і перавазе соцыялістычнай формы гаспадаркі над капіталістычнай, аб культурнай рэволюцыі, пераробцы чалавечай псіхікі («Пра цынізм», «Адказ інтэлігенту», «Гісторыя маладога чалавека» і інш.), аб пагрозе новай імперыялістычнай вайны, за абарону бацькаўшчыны працоўных—СССР, аб праблемах гуманізма ў рэволюцыі. У артыкуле «З кім вы, майстры культуры? (1932 г.) А. М. Горкі піша аб тым, што сапраўдны гуманізм, канчатковае вызваленне свету ад нянавісці сярод людзей прыйдзе толькі ў выніку перамогі рабочага класа над буржуазіяй і фашызмам.

«Вам, гуманістам, якія хочуць быць практыкамі»,—піша Горкі, час зразумець, што ў свеце дзейнічаюць дзве нянавісці: адна ўзнікла сярод драпежнікаў на глебе іх канкурэнцыі паміж сабой, а таксама ад пачуцця страху перад будучым, якое пагражае драпежнікам няўхільнай пагібеллю; другая—нянавісць пролетарыята—узнікае з яго агіды да рэчаіснасці і ўсё больш ярка асвятляецца яго ўсведамленнем права на ўладу. У той сіле, да якой абедзве гэтыя нянавісці даразві-

*) *М. Горкі.* „Публіцыстычныя артыкулы", ОГИЗ, 1933 г., стар. **141.**

ліся, нішто і ніхто не можа прымірыць іх, і нішто, апрача няўхільнай, баявой сутычкі іх фізічных, класавых носьбітаў, нішто, апрача перамогі пролетарыята, не вызваліць свет ад нянавісці» *).

У 1932 г. Горкі арганізаваў сумесна з Анры Барбюсам і Ромен Раланам антываенны кангрэс. І хоць галандскі ўрад, абараняючы справу буржуазіі, не пусціў Горкага на кангрэс, тым не менш прамова Горкага была сказана праз друк, яна дайшла да тых, каму прызначалася,—да ворагаў фашызма і вайны.

Велізарнейшая работа Горкага, накіраваная супроць фашызма і вайны, супроць ворагаў совецкай улады, прадаўжаецца і ў наступныя гады да апошніх дзён яго жыцця. Выключнае значэнне маюць яго артыкулы на літаратурныя тэмы, пра маладых пісьменнікаў і на агульналітаратурныя пытанні. Велізарную карысць прынёс Горкі, як старшыня праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР, як кіраўнік совецкай літаратуры. У гэтым сэнсе дастаткова прыгадаць цэлы рад яго артыкулаў, у якіх ён узнімаў важнейшыя пытанні совецкай літаратурнай рэчаіснасці («Пра мову», «Літаратурныя забавы» і інш.), у якіх ён вучыў совецкіх пісьменнікаў найсур'ёзнейшым адносінам да сваёй справы, выхоўваў у совецкіх пісьменнікаў якасці соцыялістычнага чалавека. Горкі з'яўляецца адным з ініцыятараў стварэння гісторыі грамадзянскай вайны, гісторыі фабрык і заводаў СССР, паказу герояў пяцігодкі ў літаратуры, выдання «Гісторыі маладога чалавека 19 стагоддзя» і інш.

На працягу доўгіх год Горкі быў звязан самай блізкай дружбай з правадырамі сусветнага пролетарыята В. І. Леніным і І. В. Сталіным. Гэтая дружба натхняла яго на бязлітасную барацьбу з ворагамі соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Горкі ўсё сваё жыццё, усю сваю творчасць аддаў «на радасць усім працоўным, на страх ворагам рабочага класа» **(Сталін).**

В. М. Молатаў на жалобным мітынгу 21 чэрвеня 1936 года сказаў:

> «Па сіле свайго ўплыву на рускую літаратуру Горкі стаіць за такімі гігантамі як Пушкін, Гогаль, Талстой, як лепшы прадаўжальнік іх вялікіх традыцый у наш час. Уплыў мастацкага слова Горкага на лёс нашай рэволюцыі непасрэдней і мацней, чым уплыў якога-небудзь іншага нашага пісьменніка. Таму іменна Горкі і з'яўляецца сапраўдным роданачальнікам пролетарскай соцыялістычнай літаратуры ў нашай краіне і ў вачах працоўных усяго свету».

Неацаніма значэнне А. М. Горкага—вялікага пісьменніка, палкага трыбуна і выдатнага арганізатара для совецкай літаратуры і ўсёй краіны Советаў. Горкі прыйшоў у літаратуру, як буравеснік рэволюцыі, ён першы ўвасобіў у мастацкія вобразы ідэі Леніна і Сталіна, ён стварыў цэлую галерэю барацьбітоў за шчасце народа—такі Ніл з «Мяшчан», прадстаўнікі пролетарыята ў «Ворагах», такія Власаў і яго маці Нілаўна з «Маці», такі Павел з аповесці «Трое» і інш. Горкі быў адным са стваральнікаў совецкай культуры—новай культуры чалавецтва. Усёю сілай свайго магутнага таленту ён славіў совецкага чалавека—творца соцыялізма. Вялікі пісьменнік ведаў і бачыў, што толькі совецкая ўлада і партыя большэвікоў могуць забяспечыць чалавеку працы сапраўды чалавечае, шчаслівае жыццё. Горкі

*) *М. Горкі.* „Публіцыстычныя артыкулы", ОГИЗ, 1933 г., стар. 340.

жыў, працаваў і змагаўся, як верны сын народа, як чалавек, да канца адданы справе соцыялізма. Ён змагаўся з нечысцю буржуазнага свету, як непахісны, нязломны сталінец. Ён загінуў на баявым пасту, як мужны пісьменнік і рэволюцыянер. Прэзрэнныя шпіёны і забойцы з права-трацкісцкага лагера ўмярцвілі нашага Горкага і самі заплацілі галовамі за гэта нечуванае злачынства. Але за гэта злачынства, як і за тысячы іншых, учыненых супроць працоўнага чалавецтва, павінны будуць расплачвацца і іх гаспадары—цёмныя сілы буржуазіі і фашызма.

---

**Б. Зельцэр**
Інструктар Сталінскага РК К П(б)Б

# Выконваем рашэнні Студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б)

У Сталінскім раёне гор. Менска разгарнулася вялікая работа па вывучэнню пастановы студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б) і выпраўленню дапушчаных памылак і скажэнняў.

Ва ўсіх партыйных арганізацыях праведзены спецыяльныя партыйныя дні. У гуртках і школах партыйнай асветы, у цэхах і зменах фабрык і заводаў, ва ўстановах пастанову Пленума вывучаюць комуністы, комсамольцы, спачуваючыя, беспартыйныя.

У сваіх выступленнях і рэзалюцыях комуністы поўнасцю адабраюць рашэнні студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б), накіраваныя на далейшы ўздым большэвіцкай пільнасці, на канчатковае выкрыццё і ачышчэнне радоў партыі ад замаскаваўшыхся ворагаў, астаткаў разгромленай трацкісцка-бухарынскай і нацыянал-фашысцкай банды, на рашучае выпраўленне памылак, дапушчаных пры выключэнні комуністаў з партыі.

На партыйных сходах комуністы выкрывалі злачынныя метады і прыёмы ворагаў, якія арудавалі ў паасобных звеннях партыйнага апарата. З рэзкай большэвіцкай крытыкай і самакрытыкай яны ўскрывалі памылкі і скажэнні, што за апошні час мелі месца як у пярвічных партарганізацыях, так і ў райкоме пры разглядзе спраў аб партыйнасці паасобных таварышоў.

Ворагі народа, якія ў мінулым арудавалі ў ЦК КП(б)Б, у Менскім гаркоме і райкомах, выкарысталі праверку і абмен партыйных дакументаў, каб перабіць большэвіцкія кадры і захаваць у радах партыі трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх бандытаў. Без усякіх падстаў яны выключалі з партыі чэсных комуністаў, перадавікоў вытворчасці, стаханаўцаў за так званую «пасіўнасць» і іншыя малазначныя ўчынкі.

У рэзультаце па Менскай партарганізацыі ў перыяд праверкі і абмену партдакументаў і за 1937 год сярод выключаных з партыі 667 чалавек было выключана за пасіўнасць і малазначачыя ўчынкі, у тым ліку па Сталінскаму раёну за гэты час выключана з партыі 41 за пасіўнасць і 23 як механічна выбыўшыя.

Сярод выключаных пярвічнымі партарганізацыямі і бюро райкома выкрыта нямала ад'яўленых ворагаў народа, арыштаваных органамі НКВД. Аднак, ачышчаючы свае рады ад ворагаў народа—трацкісцка-правых і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, мы дапусцілі сур'ёзнейшыя памылкі і скажэнні, як гэта правільна адзначыў

студзеньскі Пленум ЦК ВКП(б). Не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні Цэнтральнага Камітэта партыі і асабіста таварыша Сталіна, нашы пярвічныя партарганізацыі і бюро райкома ва многіх выпадках павярхоўна, лёгкадумна падыходзілі да разбору спраў аб выключэнні, пазбаўлялі комуністаў работы і нярэдка абзывалі іх ворагамі народа, не маючы на гэта ніякіх падстаў.

У паасобных пярвічных партарганізацыях (Акадэміі Навук, Інстытута гісторыі партыі, ЦС Асоавіяхіма, Нафтазбыта і інш.) кампраметуючыя матар'ялы паступілі амаль на дзве трэці комуністаў. Праверкай выяўлена, што большасць заяў беспадстаўна.

У кіраўніцтве Акадэміі Навук доўгі час арудавалі мацёрыя ворагі народа. У партарганізацыі працвітала фальшывая, паказная пільнасць. Кожны лічыў сваім абавязкам напісаць на другога заяву і пакінуць сабе копію, каб потым дэманстраваць яе на партсходах у якасці доваду, што ён займаецца «выкрыццём» ворагаў. Аб паказной пільнасці сведчыць факт завочнага выключэння спачуваючага тав. Ю. толькі па вуснай заяве, тым часам як аб партыйнасці цэлага раду ворагаў народа, арыштаваных органамі НКВД, партарганізацыя пытання не ставіла.

Пярвічная партарганізацыя Ушосдора выключыла з партыі тав. Г. на падставе паступіўшых заяў аб сувязях яго з ворагамі народа, калі ён працаваў старшынёю мясцсовета і нам. старшыні РВК у Дзержынску. Бюро райкома партыі, разглядаючы гэту справу ў лістападзе 1937 г., адклала яе для дадатковага расследавання. Не гледзячы на гэта, пярвічная партарганізацыя Радыёкамітэта выключыла з партыі і зняла з работы жонку тав. Г. за сувязь са сваім мужам. Зараз бюро райкома адмяніла рашэнне пярвічнай партарганізацыі і аднавіла тав. Г. у радах партыі, адначасова ўказаўшы парткому Ушосдор на лёгкадумны, несур'ёзны падыход пры разглядзе гэтай справы.

Партарганізацыя Мясакамбіната, пачынаючы з 1936 г., кожны год ставіла пытанне аб партыйнасці тав. К. па адных і тых-жа абвінавачваннях. Вясной 1937 г. партарганізацыя абвясціла тав. К. суровую вымову. Пасля гэтага ён працаваў ужо на Асфальта-бетонным заводзе. Па водзывах партарганізацыі і дырэкцыі завода, тав. К. працаваў нядрэнна. Аднак, у парадку паказной пільнасці партарганізацыя Асфальта-бетоннага завода перагледзела яго справу, выключыла з партыі і зняла яго з работы. Зараз бюро райкома аднавіла тав. К. у партыі і прапанавала неадкладна аднавіць яго на рабоце.

Партарганізацыя люстэркавай фабрыкі выключыла з кандыдатаў партыі тав. Ф. за тое, што аб арышце свайго брата яна паведаміла раней беспартыйным рабочым, а не партарганізацыі, хоць апошняя ніякіх довадаў аб сувязі тав. Ф. з братам не мела.

Ад памылак і перастрахоўкі не зусім вольны і пярвічныя партарганізацыі Менскага гаркома, Сталінскага райкома КП(б)Б.

Пярвічнай партарганізацыяй Сталінскага РК КП(б)Б быў выключан з партыі загадчык аддзела палітвучобы райкома комсамола тав. К. Сакратаром райкома комсамола з'яўляўся тады вораг народа, «кіраўніцтва» якога сказалася, безумоўна, і на палітвучобе. Палітвучоба, як і ўся работа РК ЛКСМБ, была развалена. Тав. К., як член бюро, вядома, вінаваты, што не здолеў выкрыць ворага, маючы аб ім рад сігналаў. Аднак, ніякіх матар'ялаў аб сувязі тав. К. з ворагамі не было. Не гледзячы на тое, што тав. К. малады комуніст,

якога можна было выхаваць, бюро райкома выключыла яго з партыі. Цяпер бюро перагледзела справу тав. К. і аднавіла яго ў партыі.

На Менскай гарадской канферэнцыі комсамола быў пазбаўлен дэлегацкага мандата і выключан з комсамола, будучы членам партыі, былы сакратар Гаркома ЛКСМБ тав. Ф. за тое, што ён працаваў сумесна з ворагамі народа, якія арудавалі ў ЦК ЛКСМБ. Пярвічная партарганізацыя Гаркома на падставе гэтых матар'ялаў выключыла яго таксама і з радоў партыі. Райком грунтоўна праверыў высунутыя супроць тав. Ф. абвінавачанні. Сам ён—рабочы, бацька рабочы-стаханавец, комуніст, усе браты і сёстры, жонка—комсамольцы. На ўсіх работах да работы ў менгаркамоле тав. Ф. сябе апраўдваў. Праўда, будучы другім сакратаром Менскага ГК ЛКСМБ, ён дапусціў рад грубейшых палітычных памылак, але гэта не значыць, што да яго трэба прымяніць апошнюю меру пакарання—выключэнне з партыі. Бюро РК адмяніла рашэнне пярвічнай партарганізацыі і аднавіла тав. Ф. у правах члена партыі, даўшы яму партыйнае спагнанне.

Бюро РК без папярэдняга абмеркавання на пярвічнай партарганізацыі выключыла з партыі тав. Б.—загадчыка аддзела ачысткі пры Горсовеце. Ён абвінавачваўся ў тым, што своечасова не рэагаваў на рад антысовецкіх вылазак у аддзеле ачысткі. Справа ў тым, што тав. Б. быў адзіным комуністам з 300 работнікаў аддзела ачысткі. Аднаму тав. Б. было цяжка ахапіць палітычным уплывам гэтых людзей. Ні пярвічная партарганізацыя Горсовета, ні райком не дапамаглі яму. Замест дапамогі бюро райкома выключыла яго з партыі. Цяпер яно выправіла сваю памылку.

Ёсць яшчэ рад таварышоў, якія, як цяпер высняецца, пасля дэтальнай індывідуальнай праверкі і расследавання, выключаны з партыі незаслужана.

Памылка пярвічных партарганізацый і бюро райкома была і ў тым, што яны часта забывалі аб іншых мерах партыйнага ўдзеяння паміма выключэння. Пры разглядзе вышэйадзначаных намі спраў яны павінны былі падыйсці па-большэвіцку чула, а не прымяняць да гэтых таварышоў вышэйшую меру партыйнага пакарання—выключэнне з партыі. Тым больш, што гэтыя людзі маюць нямала дадатных якасцей.

Партыя і таварыш Сталін вучыць нас уважліва ўзважваць усе дадатныя і адмоўныя якасці комуніста пры абмеркаванні яго справы, памятаючы, што выключэнне для члена партыі—пытанне жыцця і смерці.

Другая памылка пярвічных арганізацый і райкома партыі была ў тым, што яны не заўсёды чотка фармуліравалі прычыны, пацягнуўшыя за сабою выключэнне комуністаў з партыі. Акрамя аднаго, асноўнага, абвінавачвання многія партарганізацыі прыпісвалі комуністу цэлы рад усякіх іншых учынкаў, прычым да справы падыходзілі не заўсёды аб'ектыўна. Можна прывесці рад фактаў, калі бюро райкома не ўказвала партыйным арганізацыям на іх няправільны падыход да справы і нярэдка частку беспадстаўных абвінавачванняў уключала ў сваё рашэнне, г. зн. праштампоўвала. Гэту памылку мы таксама выпраўляем, не паўтараем яе пры разборы новых спраў.

Памылка таксама і ў тым, што мы яшчэ не прыцягнулі да адказнасці паклёпнікаў, якія займаюцца ілжывымі даносамі на чэсных комуністаў. Гэты недахоп мы павінны выправіць неадкладна, па-

мятаючы ўказанне ЦО нашай партыі «Праўды»: «Трэба вывесці на чыстую ваду ўсіх паклёпнікаў, кар'ерыстаў-комуністаў, нельга пакідаць беспакаранымі іх брудныя ўчынкі. Справа гонару партыйных кіраўнікоў стварыць у арганізацыях атмасферу сапраўднай большэвіцкай пільнасці, каб нікому не было павадна паклёпнічаць на чэсных членаў партыі».

Аб тым, што ў паасобных партарганізацыях нашага раёна ёсць такія паклёпнікі, сведчаць факты.

На партсходзе завода імя Варашылава пры абмеркаванні справаздачы парткома былы рэдактар заводскай газеты, цяпер выкрыты як вораг народа, выступіў з паклёпам адразу на трох членаў парткома. Аднаго назваў двурушнікам і падляцом, другога—удзельнікам антыпартыйнай групоўкі супроць газеты, трэцяга—зажымшчыкам крытыкі. Свае абвінавачванні ён не мог пацвердзіць ні адным канкрэтным фактам. Аб двух астатніх членах парткома сказаць нічога не мог, але ўсё-ж выразіў сваё асабістае недавер'е ўсяму складу парткома і патрабаваў яго роспуску. І калі комуністы далі рашучы адпор паклёпніцкім выпадам ворага, ён выступіў з новым паклёпам на ўсю партарганізацыю. Калі на чарговым партыйным сходзе ў абарону гэтага ворага выступіў паклёпнік Змачынскі, то партарганізацыя не дала яму ніякага адпору.

У пярвічнай партарганізацыі Асфальтава-бетоннага завода член партыі, кар'ерыст Жэмайціс, скарыстоўваючы сваё становішча рэдактара насценгазеты, увесь час займаецца паклёпамі на чэсных комуністаў і беспартыйных. Як цяпер высняецца, у самога Жэмайціс «рыльца ў пуху». Будучы загадчыкам гаспадаркі ў Палацы піонераў, ён займаўся дробнымі пакражамі, за што быў зволен з работы. Жэмайціс ужо раз выключаўся з партыі. Каб адвесці ад сябе агонь крытыкі, ён цяпер займаецца паклёпамі. Бюро райкома прапанавала партарганізацыі прыцягнуць паклёпніка Жэмайціс да суровай адказнасці. Але яна чамусьці маўчыць, і кар'ерыст-паклёпнік застаецца непакараным.

Вельмі характэрны факт з тав. А., на якога Гомельская партарганізацыя прыслала кампраметуючы матар'ял. Справа заключалася ў тым, што нехта Чаушнік на пасяджэнні бюро Гомельскага гаркома ЛКСМБ 19 жніўня 1937 года выступіў з абвінавачваннем тав. А. ў сувязях з работнікамі ЦК ЛКСМБ, якія потым былі выкрыты як ворагі народа. На гэтай падставе тав. А. знялі з работы і ставілі пытанне аб яго партыйнасці.

Аказалася, што гэта яўны паклёп. Па гэтаму пытанню праводзіўся партсход апарата гаркома комсамола, на якім сам Чаушнік гэты факт адмаўляў і заявіў, што **«гэта я гаварыў для прыкрасы»...**

Райком партыі спыніў справу тав. А. Трэба паклёпніка прыцягнуць да суровейшай адказнасці.

У партарганізацыі Інстытута гісторыі партыі пры разглядзе справы тав. М. комуніст Валадкевіч выключна паклёпніцкі абзываў тав. М. здраднікам радзімы, ворагам народа і т. п. У Акадэміі Навук кіраўнікі выдавецтва Брэнейзін і Сініцкі ў парадку перастраховкі знялі з работы кваліфікаванага лінатыпіста тав. П., як выключанага з партыі. Яго абвінавачвалі ў трацкізме і т. д. На працягу 6 месяцаў тав. П. хадзіў без работы. Пасля дэтальнай праверкі ўсе матар'ялы, якія паслужылі матывам для выключэння з партыі тав. П., былі абвергнуты, і бюро райкома аднавіла яго ў правах члена партыі без усякіх спагнанняў.

Падобныя факты мелі месца на Мясакамбінаце, Аўтарэмстанцыі, фабрыцы імя Крупскай.

Безадказнымі, антыпартыйнымі, антысавецкімі адносінамі да чэсных комуністаў кар'ерысты і перастрахоўшчыкі імкнуцца стварыць нездаволенасць, азлабленне, пасеяць склокі ў партыйным асяроддзі, скампраметаваць максімальную колькасць людзей. Паклёпнікі і перастрахоўшчыкі, імкнучыся фальшывай, паказной пільнасцю адвесці ўвагу ад саміх сябе, ад уласнай бруднай асобы, дэзарыентуюць партыйныя арганізацыі, накіроўваюць іх на ложны след. Падобныя дзеянні нельга разглядаць інакш, як падрыўной работай пасобнікаў ворага.

Наша раённая партарганізацыя разгарнула работу па рэалізацыі рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б). Аднак праводзіцца гэта работа яшчэ вельмі марудна.

За ўвесь час пасля Пленума пярвічныя партарганізацыі перагледзелі 89 спраў комуністаў, раней выключаных з партыі, з якіх 51 таварышоў у партыі адноўлены. Адноўлены без спагнанняў 30 і са спагнаннямі 21 чал., адзін пераведзен у кандыдаты і адзін у спачуваючыя.

Адна з адноўленых у правах члена партыі слесар завода імя Кірава тав. Л., член партыі з 1932 года, скончыўшы соўпартшколу, пачала працаваць у Менскай дзяржбібліятэцы, дзе не здолела адразу як след уключыцца ў партработу. Тав. Л. ніхто не дапамог. У 1936 годзе пры абмене партдакументаў Сталінскі райком выключыў яе з партыі за «пасіўнасць». Тав. Л. пайшла працаваць зноў на свой завод, дзе праявіла сябе адной з лепшых работніц-стаханавак. Партарганізацыя і калектыў завода са здавальненнем сустрэлі рашэнне бюро райкома аб аднаўленні яе ў партыі.

Гэты факт наглядна сведчыць нам аб вялікім значэнні пастановы студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б).

Далёка не ўсё яшчэ зроблена намі для выпраўлення сваіх памылак. Бюро райкома аднавіла ў правах членаў партыі рад няправільна выключаных комуністаў, але ні па аднаму рашэнню прадстаўнік райкома асабіста не праінфармаваў членаў пярвічнай партарганізацыі аб дапушчанай раней памылцы і аб рэабілітацыі таварыша. У выніку часам яўна парушаецца пастанова ЦК ВКП(б) аб стварэнні таварыскай абстаноўкі і выхаванні адноўленых у партыі комуністаў.

Возьмем прыклад. Бюро райкома адмяніла сваё ранейшае рашэнне і аднавіла ў партыі тав. К. Але ў тав. К. яшчэ няма партбілета: стары быў ануліраван, а новы з ЦК яшчэ не атрыман. Не гледзячы на тое, што на бюро райкома пры аднаўленні тав. К. прысутнічаў парторг Саюзпродмага тав. Вінік, ён не давёў аб гэтым рашэнні да ведама партарганізацыі, не дапускае тав. К. на закрытыя партсходы і нават на партвучобу. Зразумела, што з такімі адносінамі трэба неадкладна пакончыць.

Абмеркаванне гістарычнай пастановы студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б)—гэтай праграмы дзеяння для кожнага большэвіка—у большасці партарганізацый прайшло на высокім ідэйна-палітычным узроўні. Ускрываліся скажэнні ў партыйнай рабоце, намячаліся далейшыя практычныя мерапрыемствы па рэалізацыі пастановы.

Аднак, яшчэ не ўсе комуністы і нават кіраўнікі партыйных арганізацый зразумелі ўвесь глыбокі сэнс гэтага дакумента. На сходзе такой вялікай пярвічнай партарганізацыі, як завода імя Варашылава

(былы сакратар парткома тав. Ярмалкевіч) была прынята наступная рэзалюцыя: «Агульны сход вітае рашэнні студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б) і прымае іх да няўхільнага кіраўніцтва і выканання. Прапанаваць парткому мабілізаваць усіх адноўленых членаў партыі».

Прымаючы гэту стандартную рэзалюцыю, ніхто слова не сказаў аб тым, што ў кіраўніцтве партарганізацыі доўгі час арудаваў вораг, што ў час праверкі і абмену партдакументаў значная частка чэсных комуністаў была выключана з партыі за так званую «пасіўнасць», што ворагі тармазілі на заводзе прыём у партыю. Або ўзяць партарганізацыю промарцелі «Чырвоны інвалід». Пасля зачыткі рашэнняў Пленума пастанавілі: «Даручыць тав. Арцюшэўскаму і тав. Мейер скласці план партыйна-масавай і палітычнай работы». Такі «стандарт» характэрны для ўсіх сходаў гэтай партарганізацыі.

У партарганізацыі люстэркавай фабрыкі выступаўшы тав. Гутэрман між іншым заявіў: «У нашай партарганізацыі не было выпадкаў паклёпу на паасобных членаў партыі, але гэта не значыць, што яны павінны зазнавацца». У пастанове сходу каротка запісалі: «Для глыбокага вывучэння рашэнняў Пленума правесці адны заняткі ў сетцы партвучобы». Зусім зразумела, што выступленне Гутэрмана палітычна шкоднае, што падобнае рашэнне па такому важнаму пытанню нельга назваць палітычным рашэннем.

Некаторыя зразумелі Пастанову ЦК ВКП(б) як усеагульную «амністыю». Цяпер, моў, «будуць усіх аднаўляць у партыі і ні за якія справы нікога не будуць прыцягваць да адказнасці». Такія «ноткі» былі ў выступленнях тт. А. Ароцкера і Раговіна на заводзе «Большэвік». Так выступалі паасобныя члены партыі на заводзе імя Варашылава і ў іншых партарганізацыях. Выступаўшыя ў спрэчках комуністы далі рэзкі адпор падобным антыпартыйным настроям. Яны адзначалі велізарную работу партыі па разгрому ворагаў народа, па ачышчэнню яе радоў ад трацкісцка-правых агентаў фашызма і ўказвалі, што аднаўляць у партыі трэба толькі няправільна выключаных.

Партыйныя сходы паказалі, што маса комуністаў правільна зразумела рашэнні студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б). Партарганізацыі прыступілі да выпраўлення памылак, дапушчаных пры выключэнні комуністаў з партыі.

Бюро Сталінскага райкома партыі ставіць перад пярвічнымі арганізацыямі задачу—хутчэй выправіць дапушчаныя памылкі і скажэнні, вышэй узняць большэвіцкую пільнасць, цвёрда і няўхільна праводзіць у жыццё рашэнні Пленума Сталінскага Цэнтральнага Камітэта партыі, памятаючы, што гэтым мы ўзнімем яшчэ вышэй нашу баездольнасць і нанясем рашаючы ўдар па маскіруючыхся ворагах, што яшчэ больш умацуе нашы партыйныя арганізацыі.

---

# У дапамогу прапагандысту і агітатару

## Прыкладны план работы гуртка па вывучэнню „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР“

### Першы занятак

### Аб надыходзячых выбарах вышэйшага органа дзяржаўнай улады БССР

Вынікі і значэнне прайшоўшых выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Склад Вярхоўнага Совета СССР. Перамога блока комуністаў і беспартыйных—перамога ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Умацоўваючы саюз комуністаў і беспартыйных, бязлітасна выкарчоўваючы гнусных ворагаў народа—права-трацкісцкіх бандытаў і ўсіх іншых наёмнікаў фашызма, працоўныя СССР пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна няўхільна ідуць наперад да новых перамог.

Надыходзячыя выбары ў Вярхоўны Совет БССР і значэнне іх. БССР—неадрыўная частка СССР. Беларусь у мінулым—поўкалонія царызма, цяпер—квітнеючая рэспубліка ў сузор'і рэспублік Вялікага Совецкага Саюза.

Прамысловасць, сельская гаспадарка і культура Совецкай Беларусі. Беларусь—фарпост СССР на Заходняй граніцы з капіталістычным Захадам.

Беларусь—соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян. Советы дэпутатаў працоўных—палітычная аснова БССР. Вярхоўны Совет БССР—вышэйшы орган дзяржаўнай улады.

Грамадскі ўклад БССР. Органы дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання БССР.

ЛІТАРАТУРА:

Канстытуцыя СССР. Раздзелы I, II, III.
Канстытуцыя БССР. Раздзелы I, II, III.
**Сталін:** Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР, раздзелы II і III.
**Молатаў:** Канстытуцыя соцыялізма. Прамова на VIII Надзвычайным з'ездзе Советаў, раздзел III.
Паведамленне Цэнтральнай выбарчай камісіі аб колькасці выбаршчыкаў, галасаваўшых за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР 12/XII-1937 г.
Даклад Мандатнай Камісіі аб складзе Совета Саюза ССР.
Даклад Мандатнай Камісіі аб складзе Совета Саюза Нацыянальнасцей.

**Другі занятак**

## Выбарчае права, выбарчая сістэма

Буржуазная дэмакратыя—дэмакратыя для багатых, прыкрытае панаванне буржуазіі.

Абмежаванні правоў працоўных у буржуазна-дэмакратычных канстытуцыях.

Фармальны характар буржуазнай дэмакратыі. Поўнае палітычнае бяспраўе народаў у краінах фашызма.

Немагчымасць для шырокіх працоўных мас ва ўмовах капіталізма выкарыстаць прадастаўляемыя ім буржуазнымі канстытуцыямі мізэрныя правы.

Наяўнасць матар'яльных умоў для росквіту паслядоўнага соцыялістычнага совецкага дэмакратызма ў СССР і яго адлюстраванне ў Канстытуцыі БССР. Адлюстраванне ў Канстытуцыі БССР факта перамогі соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці—эканамічная аснова БССР. Росквіт заможнага жыцця працоўных. Росквіт культуры ў БССР.

Сталінская Канстытуцыя—самая дэмакратычная ў свеце. Яна прадастаўляе шырокія гарантаваныя правы грамадзянам. Выбары ў нашай краіне праводзяцца на аснове ўсеагульнага, роўнага, прамога выбарчага права пры тайным (закрытым) галасаванні.

**Усеагульнае** выбарчае права ў БССР і ў чым яно выражаецца. Хто мае права выбіраць і быць выбраным у БССР.

**Роўнае** выбарчае права ў БССР на аснове разгорнутай да канца соцыялістычнай дэмакратыі.

**Прамое** выбарчае права ў БССР на аснове Сталінскай Канстытуцыі і ў чым яно выражаецца.

**Тайнае** (закрытае) галасаванне і ў чым яго значэнне.

ЛІТАРАТУРА:

Канстытуцыя БССР, раздзел IX.
Канстытуцыя СССР, раздзел XI.
«Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», раздзел I.
**Ленін:** Тэзісы і даклад аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пролетарыята. Збор твораў, т. XXIV, стар. 7—20.
**Сталін:** Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР, раздзел III.
**Сталін:** Гутарка са старшынёю амерыканскага газетнага аб'яднання «Скрыпс-Говард Ньюспейперс» панам Рой Говардам (апошняе пытанне).
**Молатаў:** Аб зменах у совецкай Канстытуцыі (даклад на VII з'ездзе Советаў СССР 6 лютага 1935 г., раздзел II.
**Молатаў:** Канстытуцыя соцыялізма, раздзел II.
**Калінін:** Што дала совецкая ўлада працоўным.
СССР і краіны капіталізма. Раздзелы V і VI.
**Наталевіч:** Даклад аб праекце «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР». Раздзел «Соцыялістычная выбарчая сістэма і надыходзячыя выбары ў Вярхоўны Совет БССР». («Звязда» ад 27.II-1938 г., № 47).

**Трэці занятак**

Як утвараюцца выбарчыя акругі і выбарчыя ўчасткі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

Выбарчая Камісія, спісы выбаршчыкаў.

Выбарчыя акругі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР—20 тысяч насельніцтва на акругу.

Вытворчы прынцып стварэння выбарчых участкаў у ранейшай Канстытуцыі БССР і тэрытарыяльны прынцып у новай Канстытуцыі БССР.

Кім утвараюцца выбарчыя акругі і выбарчыя ўчасткі. Як утвараюцца выбарчыя акругі і ўчасткі ў горадзе і ў вёсцы, у аддалёных мясцовасцях, у больніцах, на караблях і т. д.

Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Акруговыя, участковыя выбарчыя камісіі, іх склад, іх функцыі і кім яны зацвярджаюцца. Тэрміны складання выбарчых камісій.

Кім складаюцца спісы выбаршчыкаў. Хто ўключаецца ў спісы выбаршчыкаў, хто не ўносіцца ў спісы выбаршчыкаў. Парадак унясення ў спісы выбаршчыкаў ваеннаслужачых.

Як забяспечваецца грамадзянам магчымасць азнаямлення са спісамі выбаршчыкаў.

Як праводзіцца абскарджанне выключэння са спісаў выбаршчыкаў або няправільнае ўключэнне ў спісы выбаршчыкаў.

ЛІТАРАТУРА:

Канстытуцыя БССР, раздзел III.
«Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», раздзелы II, III, IV, V.
Даклад тав. Наталевіча аб праекце «Палажэння аб Выбарах у Вярхоўны Совет БССР», раздзел «Парадак арганізацыі і правядзення выбараў у Вярхоўны Совет БССР».

## Чацверты занятак

Парадак выстаўлення кандыдатаў. Парадак галасавання і вызначэння рэзультатаў выбараў.

Якія арганізацыі маюць права выстаўляць кандыдатаў у Вярхоўны Совет БССР.

Парадак выстаўлення і рэгістрацыі кандыдатаў. Парадак апублікавання прозвішчаў выстаўленых кандыдатаў. Сталінскі блок камуністаў і беспартыйных—важнейшая ўмова паспяховага правядзення выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

Вылучым у Вярхоўны Совет БССР патрыётаў соцыялістычнай радзімы, дастойных людзей рэспублікі, непахісных барацьбітоў за справу Леніна—Сталіна, за шчасце рабочых і ўсіх працоўных.

Вышэй большэвіцкую пільнасць. Бязлітасна выкарчоўваць ворагаў соцыялізма, ворагаў народа, права-трацкісцкіх бандытаў—фашысцкіх наймітаў, шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў, забойцаў—агентаў фашызма. Памятаць аб капіталістычным акружэнні.

Парадак устанаўлення дня і гадзін выбараў у Вярхоўны Совет БССР.

Выбарчы бюлетэнь, канверт, выбарчая скрынка, памяшканне для запаўнення бюлетэняў у выбарчым участку.

Неабходнасць асабістай яўкі выбаршчыка ў выбарчую камісію для падачы голасу.

Парадак выдачы выбарчага бюлетэня і канверта. Парадак запаўнення выбарчага бюлетэня. Як запаўняюць бюлетэнь няграматныя і інваліды. Парадак падліку галасоў на падставе выбарчых бюлетэняў і аб'яўленне рэзультатаў галасавання па выбарчаму ўчастку. Парадак падліку галасоў на падставе пратаколаў участковых выбарчых камісій і акруговай выбарчай камісіі. Парадак аб'яўлення кандыдата, выбранага па акрузе. Парадак перабалатыроўкі кандыдатаў у выпадку прызнання Цэнтральнай выбарчай камісіяй БССР выбараў несапраўднымі і па якіх прычынах выбары могуць быць адменены.

ЛІТАРАТУРА:

Канстытуцыя БССР, раздзел IX.

«Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», раздзелы VI, VII, і VIII.

**Сталін:** Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў (даклад на Пленуме ЦК ВКП(б), 3 сакавіка 1937 г.).

**Сталін:** Прамова на прадвыбарным сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі Масквы 11 снежня 1937 г.

Пісьмо т. Іванова і адказ т. Сталіна.

**Молатаў:** Аб выбарчым блоку комуністаў з беспартыйнымі (прамова на сходзе выбаршчыкаў Молатаўскай выбарчай акругі г. Масквы 8 снежня 1937 г.).

Пастанова Пленума ЦК ВКП(б) (студзень 1938 г.).

**Калінін:** Што дала совецкая ўлада працоўным. Раздзел «Комуністычная партыя—авангард працоўных».

Зварот Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) да ўсіх выбаршчыкаў, рабочых, работніц, сялян і сялянак, да Чырвонай Арміі, да совецкай інтэлігенцыі.

**Наталевіч:** Аб праекце «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР».

З а ў в а г а: Акрамя ўказаных матар'ялаў неабходна на занятках выкарыстаць наступную літаратуру:

**Сталін:** «Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР»—даклад на Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў, 25 лістапада 1936 г.

**Сталін:** Прамова на нарадзе перадавых калгаснікаў і калгасніц Таджыкістана і Туркменістана з кіраўнікамі партыі і ўрада.

**Молатаў:** Канстытуцыя соцыялізма. Прамова на Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў.

Прамовы кіраўнікоў партыі і ўрада на прадвыбарных сходах выбаршчыкаў. (Выдана Партвыдатам ЦК ВКП(б) асобнай брашурай у 1937 г.).

**Калінін:** «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР і задачы Советаў».

Канстытуцыя СССР.

Канстытуцыя БССР.

Матар'ялы першай сесіі Вярхоўнага Совета СССР.

Матар'ялы VIII Сесіі ЦВК БССР.

***Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б.***

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ

## Брэсцкі мір і барацьба партыі большэвікоў супроць трацкісцка-бухарынскіх правакатараў вайны

Адною з важнейшых задач Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі быў рэволюцыйны выхад з сусветнай імперыялістычнай вайны, пытанне аб міры. На другі дзень пасля перамогі рэволюцыі—8 лістапада 1917 года—II усерасійскі з'езд советаў прыняў пад бурныя авацыі ўсіх дэлегатаў ленінскі дэкрэт аб міры. «Рабочы і сялянскі ўрад,—гаварылася ў дэкрэце,—створаны рэволюцыяй 6—7 лістапада (24—25 кастрычніка) і апіраючыйся на Советы рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, прапануе ўсім ваюючым народам і іх урадам пачаць неадкладна перагаворы аб справядлівым дэмакратычным міры».

Кіруемая Леніным, Совецкая рэспубліка разгарнула напружаную і энергічную барацьбу за мір. 3 снежня ў Брэст-Літоўску адкрыліся перагаворы совецкай дэлегацыі з прадстаўнікамі краін германскай кааліцыі (Германія, Аўстрыя, Турцыя, Балгарыя). 15 снежня было заключана перамір'е на ўсім агромным працягу рускага фронта і ваенныя дзеянні поўнасцю спыніліся. Аднак вельмі хутка выяснілася, што Антанта адмаўляецца весці перагаворы аб міры і што справа павінна ісці толькі аб міры Совецкай Расіі з імперыялістычнай Германіяй. Германскі імперыялізм поўнасцю выявіў сваю драпежніцкую прыроду, навязваючы Рэспубліцы советаў рабаўнічыя ўмовы міру, па якіх у руках Германіі заставаліся захопленыя ў часе вайны Польшча, Літва, большая частка Беларусі і Латвіі, а таксама выплачвалася 3-мільярдная кантрыбуцыя пад выглядам уплаты за ўтрыманне палонных. К сярэдзіне студзеня 1918 года перад Совецкай Расіяй ва ўвесь рост паўстала пытанне аб сепаратным і анексіянісцкім міры з Германіяй.

Ленін і Сталін стаялі за падпісанне міру з Германіяй, як-бы цяжкі ні былі яго ўмовы. І міжнародная і ўнутраная абстаноўка, гаварыў Ленін, абавязваюць нас заключыць мір: першыя месяцы пасля вялікай кастрычніцкай перамогі былі месяцамі трыумфальнага шэствія совецкай улады, якая лёгка спраўлялася з супраціўленнем расійскіх памешчыкаў, капіталістаў і іх меншавіцка-эсэраўскай чэлядзі; а зараз маладая, неўзмацнеўшая яшчэ Совецкая рэспубліка аказалася перад тварам узброенага да зубоў германскага імперыялістычнага драпежніка; ваяваць мы не можам; змучаныя трохгадовай імперыялістычнай вайной, народныя масы не здольны ваяваць, прагнуць міру; старая армія—«хворая частка арганізма»; новая, Чырвоная Армія яшчэ не створана. У такіх умовах злачынствам з'яўляецца прыймаць

заведама невыгодны бой з працiўнiкам, ва многа раз больш сiльным. Калi мы не заключым мiру з Германiяй, указваў Ленiн, то Совецкая рэспублiка будзе раздаўлена, а мiр на яшчэ больш цяжкiх умовах усёроўна будзе заключан, але не намi, а буржуазным урадам, якi прыдзе на змену совецкай уладзе.

Працягваючы вайну, мы аб'ектыўна ператварылiся-б у агентаў англа-французскага iмперыялiзма. У сваiм артыкуле «Аб рэволюцыйнай фразе» Ленiн пiсаў, што англа-французская буржуазiя ставiць нам западню, дабiваючыся таго, каб бяззбройная совецкая соцыялiстычная рэспублiка працягвала вайну, каб совецкая ўлада загiнула ад несвоечасовай ваеннай схваткi з германскiм iмперыялiзмам. Толькi заключэнне мiру i выхад з вайны ў максiмальнай ступенi вызвалялi Совецкую рэспублiку ад абодвух враждуючых iмперыялiстычных груп. Мiр магчымы, заяўляў Владзiмiр Ільiч, бо мы ў сваёй палiтыцы мiру апiраемся на найглыбейшыя супярэчнасцi, якiя раздзiраюць сусветны iмперыялiзм, на той факт, што памiж двума асноўнымi групамi iмперыялiстычных драпежнiкаў iдзе вайна; заключыўшы мiр, мы атрымаем перадышку, якую выкарыстаем для працягу i замацавання соцыялiстычнай рэволюцыi.

Заключэнне мiру, указваў Ленiн, не аслабiць, а, наадварот, яшчэ больш узмоцнiць мiжнароднае значэнне нашай рэволюцыi. «Прыклад соцыялiстычнай Совецкай рэспублiкi ў Расii будзе стаяць жывым узорам перад народамi ўсiх краiн, i прапагандысцкае, рэволюцыянiзуючае дзеянне гэтага ўзору будзе гiганцкiм. Тут—буржуазны лад i аголеная да канца захватная вайна двух груп драпежнiкаў. Там—мiр i соцыялiстычная рэспублiка Советаў».[1]

Ленiн быў прасякнут найглыбейшаю верай у невычарпальныя сiлы нашай рэволюцыi i яе найвялiкшае мiжнароднае значэнне. У Совецкай рэспублiцы Ленiн бачыў аплот i базу сусветнай соцыялiстычнай рэволюцыi i iмкнуўся ва што-б там нi стала захаваць яе iснаванне.

У барацьбе за мiр прыходзiлася перамагаць шалёнае супрацiўленне ворагаў совецкай улады зне i ўнутры краiны—iмперыялiстаў, рускай буржуазii, яе падгалоскаў. Англа-французскiя iмперыялiсты ўсяляк прабавалi ўцягнуць Совецкую Расiю ў вайну з Германiяй. Германскi iмперыялiзм быў таксама зацiкаўлен у тым, каб бяззбройная совецкая рэспублiка працягвала вайну.

Заадно з iмперыялiстамi дзейнiчалi руская буржуазiя i яе верныя лакеi—меншавiкi i эсэры. Яны ўсяляк паносiлi «пахабны» мiр, патрабуючы працягу вайны. Меншавiкi ў сваёй паганенькай газетцы «Новый луч» з пенай у рта патрабавалi ўдзелу Совецкай краiны ў iмперыялiстычнай вайне, прыкрываючы гэта патрабаванне лозунгам «рэволюцыйнай вайны». З асаблiвым асцервяненнем выступалi супроць мiру «левыя» эсэры, якiя з кожным днём усё больш выяўлялi сваю контррэволюцыйную прыроду.

Агентамi iмперыялiстычнай буржуазii ўнутры партыi, саюзнiкамi ўсiх антысовецкiх элементаў выступiлi Троцкi i яго супольнiкi—бухарынцы. Троцкi ведаў, што ваяваць Совецкая рэспублiка не ў стане. Гэты гнусны вiртуоз маскiроўкi i двурушнiцтва прыкрываў сваю злачынную пазiцыю правакатара вайны лозунгам: «Нi мiру, нi вайны». Пралезшы ў рады большэвiцкай партыi, Іудушка-Троцкi лiчыў за лепшае трымацца некалькi ў ценю, высоўваючы супроць Ленiна

1 В. І. Ленiн. Тв. т. XXII, стар. 198.

свайго подлага супольніка Бухарына. Бухарынцы, як і Троцкі, дабіваліся звяржэння совецкай улады, прабуючы ўцягнуць Совецкую рэспубліку ў гібельную вайну. У мэтах маскіроўкі яны называлі сябе «левымі комуністамі», патрабавалі спынення ўсякіх перагавораў з германскімі імперыялістамі і аб'яўлення «рэволюцыйнай вайны» Германіі.

У Троцкага і бухарынцаў было поўнае адзінства ва ўсім. І Троцкі і бухарынцы прабавалі атруціць рабочы клас буржуазнай атрутай няверʼя ў соцыялістычны характар Кастрычніцкай рэволюцыі, атрутай няверʼя ў магчымасць пабудовы соцыялізма ў адной краіне. І Троцкі і бухарынцы прабавалі падарваць у рабочага класа веру ў свае сілы і ў здольнасць рабочага класа павесці за сабою сялянства, навязвалі партыі злачынную палітыку разрыву з сялянствам. Трацкісты і бухарынцы падрывалі справу ўмацавання совецкай дзяржавы, зрывалі перамогу соцыялізма ў нашай краіне. Яны правакацыйна навязвалі партыі палітыку, якая магла-б прывесці да пагібелі пролетарскай дыктатуры. «Левая фраза» прыкрывала контррэволюцыйную прыроду гэтых правакатараў вайны і агентаў імперыялізма. Трацкісты і бухарынцы выступалі як сапраўдныя правакатары і падпальшчыкі вайны, узаемна падтрымліваючы, натхняючы адзін другога на барацьбу супроць партыі большэвікоў. Заадно з імі былі гнусныя здраднікі і двурушнікі Каменеў і Зіноўеў.

Уся гэта шайка агентаў і лакеяў імперыялізма ўсяляк прабавала справакаваць напад Германіі на Совецкую рэспубліку. Іудушка-Троцкі вераломна парушыў атрыманую ад Леніна прамую дырэктыву падпісаць мір, як толькі немцы прадʼявяць ультыматум. 9 лютага прадстаўнікі контррэволюцыйнай Цэнтральнай Рады ў Брэсце заключылі сепаратны мір з Германіяй, прадаўшы Украіну германскаму імперыялізму. Немцы катэгарычна патрабавалі ад совецкай дэлегацыі адказу на свой ультыматум. Троцкі двудушна запытаў ЦК, як быць. Ленін і Сталін тэлеграмай зноў пацвердзілі сваю лінію: «Наш пункт погляду Вам вядомы; ён толькі ўмацаваўся за апошні час...» [2] Але Троцкі злачынна парушыў дырэктыву Леніна. 10 лютага Іуда-Троцкі агаласіў сваю заяву: міру не падпісваем, вайны не вядзем, армію дэмабілізуем. Мірныя перагаворы былі перарваны, совецкая дэлегацыя пакінула Брэст. Сваёй правакацыйнай заявай у Брэсце Троцкі паставіў Совецкую рэспубліку пад удар германскага імперыялізма. У тайных перагаворах з прадстаўнікамі германскага генеральнага штаба Іудушка-Троцкі заяўляў, што совецкая ўлада бяссільна, што яна «труп, які няма каму ўбраць». Іудушка-Троцкі прыняў усе меры для таго, каб шырока адчыніць дзверы ў Совецкую рэспубліку германскаму імперыялістычнаму драпежніку.

Здрадніцтва Троцкага ў Брэсце было сустрэнута адабрэннем з боку буржуазіі і яе прыспешнікаў і пасобнікаў. 11 лютага 1918 года на пасяджэнні Петраградскага совета меншавікі і эсэры цалкам падтрымалі пазіцыю Троцкага ў Брэсце: прадстаўнік меншавікоў «лічыць немінучым крокам» паводзіны Троцкага; правы эсэр «са здаваленнем канстатуе» разрыў мірных перагавораў. Выступіўшы ў спрэчках «левы» эсэр заявіў, што «пазіцыю рускай дэлегацыі лічыць адзіна верным шляхам». З усімі гэтымі заявамі паспяшыў салідарызавацца Зіноўеў. На пасяджэнні ВЦВК 14 лютага, паўтарыўся той-жа малю-

[2] *Ленінскі зборнік, XI, стар. 25.*

нак. Троцкі быў падтрыман усімі ворагамі Леніна і совецкай улады: меншавікамі, правымі і «левымі» эсэрамі, бухарынцамі.

Прайшло ўсяго толькі некалькі дзён, і рэзультаты злачынных паводзін Іудушкі-Троцкага ў Брэсце сказаліся з усёй сілай. Грозная небяспека навісла над Совецкай краінай. Германскі імперыялізм рашыў рушыць свае полчышчы на Совецкую рэспубліку. 16 лютага немцы паставілі наша камандаванне ў вядомасць аб тым, што з 12 гадзін дня 18 лютага перамір'е канчаецца. Аднак Троцкі і яго супольнік Бухарын працягвалі сваю злачынную справу. 17 лютага вечарам на пасяджэнні ЦК Ленін заявіў, што трэба неадкладна прапанаваць Германіі новыя перагаворы для падпісання міру. Большасцю 6 галасоў (Троцкі, Бухарын, Ломаў, Урыцкі, Іоффе, Крэсцінскі) супроць 5 (у тым ліку Ленін, Сталін і Свердлоў) прапанова Леніна была адхілена.

18 лютага з раніцы сабраўся ЦК. Ленін настойліва патрабаваў неадкладна паслаць немцам тэлеграму з прапановай міру. Троцкі разам з Бухарыным прадаўжалі сваю авантурыстычную лінію правакатараў і падпальшчыкаў вайны, высоўваючы як асноўны довад супроць Леніна сцвярджэнне, якое сеяла небяспечныя ілюзіі,—«што немец не пасмее наступаць». Прапанова Леніна была адвергнута: за—6 галасоў, супроць—7. Прайшло некалькі гадзін, і ілжывае сцвярджэнне здраднікаў—Троцкага і Бухарына—было ушчэнт разбіта жыццём: германскія войскі перайшлі ў наступленне па ўсяму фронту; рускія войскі адступалі, не аказваючы праціўніку ніякага супраціўлення. Дзвінск паў. Больш нельга было марудзіць ні мінуты.

Зноў сабраўся ЦК большэвікоў у гэты дзень найвялікшых іспытаў—18 лютага. Іудушка-Троцкі зноў лавіраваў, прабаваў сарваць прапанову міру немцам, прапануючы абмежавацца пасылкай запросу ў Берлін. Ленін і Сталін рашуча выступілі супроць здрадніка Троцкага, ускрылі пагібельны для рэволюцыі характар яго прапаноў.

«Трэба сказаць прама, па сутнасці,—гаварыў таварыш Сталін,—немцы наступаюць, у нас няма сіл, час сказаць прама, што трэба аднавіць перамовы». [3]

Ленін гнеўна бічаваў Троцкага:

> «Ігра зайшла ў такі тупік, што крах рэволюцыі немінучы, калі далей займаць палітыку сярэднюю... цяпер няма магчымасці чакаць; гэта значыць здаваць рускую рэволюцыю на злом... Паперкі мы пішам, а яны пакуль бяруць склады, вагоны, і мы акаляваем. Цяпер на карту пастаўлена тое, што мы, іграючы з вайной, аддаем рэволюцыю немцам. Гісторыя скажа, што рэволюцыю вы аддалі» [4].

З велізарнаю сілай абрушыўся на гэтым пасяджэнні Ленін на Бухарына, які адстойваў авантурыстычны лозунг «рэволюцыйнай вайны». «На рэволюцыйную вайну,—гаварыў Ленін,—мужык не пойдзе і скіне ўсякага, хто адкрыта гэта скажа» [5].

Ленін указваў, што калі немцы зараз прад'явяць больш цяжкія ўмовы міру, то трэба будзе на іх згадзіцца ў мэтах выратавання рэволюцыі. За ленінскую прапанову—паведаміць германскаму ураду аб згодзе неадкладна заключыць мір—упершыню выказалася большасць.

---

[3] Пратаколы ЦК РСДРП, стар. 233, ГИЗ 1929.
[4] Там-жа, стар. 234.
[5] Там-жа, стар. 236—237.

У ноч з 18 на 19 лютага Соўнаркам паслаў тэлеграму германскаму ўраду аб згодзе падпісаць мір. Але германскія імперыялісты, зацягваючы адказ, прадаўжалі наступаць. Немцы прасунуліся далёка наперад на ўсход, занялі Нарву, Пскоў і Оршу, непасрэдна пагражалі Петраграду і Смаленску, захапілі мноства ваеннага снаражэння, гарматы, снарады і іншыя ваенныя матар'ялы. Здраднік Троцкі і яго пасобнік Бухарын сваёй злачыннай палітыкай прывялі рэвалюцыю на край пагібелі.

23 лютага раніцай совецкі ўрад атрымаў адказ ад немцаў. Гэты адказ, як і прадказваў Ленін, ставіў яшчэ больш цяжкія ўмовы, чым раней. Германскія імперыялісты дадаткова патрабавалі ад Совецкай рэспублікі безадкладна ачысціць усю Латвію, Эстонію і Фінляндыю, заключыць мір з Украінскай Радай, дэмабілізаваць усю армію (акрамя таго пры падпісанні міру немцы аднялі ў нас для Турцыі Карс і Батум).

Фактычна ў распараджэнні совецкага ўрада быў толькі адзін дзень для адказу немцам—23 лютага. Гэта быў дзень самай вострай і напружанай барацьбы Леніна за мір. На гістарычным пасяджэнні ЦК Ленін у рэзкай і ультыматыўнай форме патрабаваў прыняцця германскіх умоў міру, заяўляючы, «што палітыка рэвалюцыйнай фразы скончана. Калі гэта палітыка будзе цяпер прадаўжацца, то выходзіць і з урада і з ЦК. Для рэвалюцыйнай вайны патрэбна армія, яе няма. Значыць, трэба прыймаць умовы».

Аб сваёй пазіцыі Ленін неадкладна давёў да ведама ўсёй партыі. У вячэрнім выпуску «Праўды» ад 23 лютага кожны член партыі, кожны рабочы з хваляваннем чытаў гнеўныя ленінскія радкі:

> «Толькі нястрымная фраза можа штурхаць Расію, пры такіх умовах, у даны момант на вайну, і я асабіста, зразумела, ні секунды не застаўся-б ні ва ўрадзе ці ў Ц. К. нашай партыі, калі-б палітыка фразы ўзяла верх...
>
> Няхай ведае ўсякі: хто супроць безадкладнага хоць і архіцяжкага міру, той губіць Совецкую ўладу» [6].

Ленінскую пазіцыю цалкам раздзялілі і з усёй сілай адстойвалі на пасяджэнні Сталін і Свярдлоў. «Або перадышка, або пагібель рэвалюцыі—іншага выхаду няма»,—заявіў Сталін. Бухарынцы ярасна супраціўляліся; Троцкі верны сваёй іезуіцкай прыродзе, звіваўся змяёй. Але лінія Леніна ўзяла верх: большасцю 7 галасоў (у тым ліку Ленін, Сталін, Свярдлоў) супроць 4, пры 4 устрымаўшыхся, ЦК галасаваў за прыняцце ўмоў міру.

Перамогу ў ЦК партыі трэба было яшчэ замацаваць на пасяджэнні ВЦВК, які павінен быў канчаткова вырашыць пытанне аб прыняцці або адхіленні пастаўленых немцамі ўмоў міру. Пасяджэнню ВЦВК прадшэствавала аб'яднанае пасяджэнне большэвіцкай і «лева»-эсэраўскай фракцыі ВЦВК, працякаўшае ў абстаноўцы лютай барацьбы. Услед за тым адбылося асобнае пасяджэнне большэвіцкай фракцыі. Ярасныя атакі бухарынцаў былі адбіты. Бухарынцы патрабавалі прадаставіць ім права свабоды галасавання на пасяджэнні ВЦВК у разліку на тое, што сумесна з «левымі» эсэрамі ім удасца на гэтым пасяджэнні сабраць большасць супроць Леніна і сарваць заключэнне міру. Гэта нечуванае ў гісторыі партыі патрабаванне бухарынцаў большэвіцкая фракцыя з абурэннем адвергла, выказаўшыся боль-

---

[6] В. І. Ленін. Тв. т. XXII, стар. 276.

шасцю галасоў за ленінскую палітыку міру. Нарэшце, каля 3 гадзін ночы (з 23 на 24 лютага) адкрылася пасяджэнне ВЦВК. Ленін зрабіў кароткі даклад. «Левыя» эсэры ярасна выступілі супроць заключэння міру. Бухарынцы, груба нарушаючы партыйную дысцыпліну, часткова ўшлі перад галасаваннем, часткова галасавалі супроць (напрыклад Бухарын) або ўстрымліваліся. Але дарэмны былі ўсе гэтыя манеўры. 116 чалавек галасавалі за мір, 84—супроць, устрымалася—26. ВЦВК пастанавіў прыняць ўмовы міру, і Ленін неадкладна паведаміў гэта рашэнне германскаму ўраду.

Тыдзень з 18 па 24 лютага 1918 года—ад пачатку наступлення немцаў да прыняцця германскіх умоў міру—адыграў найвялікшую ролю ў гісторыі нашай рэвалюцыі. Ленін тады пісаў, што гэты тыдзень «увойдзе як адзін з найвялікшых гістарычных пераломаў у гісторыі рускай—і міжнароднай — рэвалюцыі» [7]. Правакацыя Троцкага і Бухарына паставіла пад пагрозу само існаванне маладой Совецкай рэспублікі. Непасрэдным рэзультатам здрадніцтва быў яшчэ больш цяжкі мір з германскім імперыялізмам, страта агромных запасаў ваеннага снаражэння, захопленых немцамі пры наступленні. Трацкісты і бухарынцы «на справе **дапамаглі** германскім імперыялістам і **перашкодзілі** росту і развіццю рэвалюцыі ў Германіі» [8]. Такавы былі плады злачыннай палітыкі трацкісцка-бухарынскіх падпальшчыкаў вайны. Ленін і Сталін сваёй цвёрдай і паслядоўнай палітыкай міру, бязлітасна громячы здрадніка Троцкага і яго супольніка Бухарына, адстаялі існаванне Совецкай рэспублікі.

Пасля рашэння ЦК большэвікоў і ВЦВК аб падпісанні міру барацьба набыла яшчэ больш вострыя, яшчэ больш жорсткія формы. Кадэты, меншавікі, правыя і «левыя» эсэры вялі разбэшчаную кампанію супроць Леніна, партыі, совецкага ўрада. З імі заадно выступалі трацкісты і бухарынцы. Бухарынцы, карыстаючыся тым, што стаялі ў кіраўніцтва ў радзе месц, у тым ліку ў такіх важнейшых арганізацыях, як Петраградская і Маскоўская, прабавалі ўзняць гэтыя арганізацыі на бунт супроць Леніна. 24 лютага маскоўскае абласное бюро, фактычна быўшае арганізацыйным цэнтрам бухарынцаў ва ўсерасійскім маштабе, «выказала недавер'е» ЦК, патрабавала перавыбараў ЦК і адмовілася падпарадкавацца яго рашэнню аб прыняцці германскіх умоў міру, заявіўшы, што «знаходзіць наўрад ці ўстаранімым раскол партыі ў бліжэйшы час». «Мы лічым,—пісалі бухарынцы,—мэтазгодным ісці на магчымасць утраты совецкай улады, якая становіцца цяпер чыста фармальнай». Гучнымі фразамі прыкрывалася страшэнная здрада, адкрыта агалашалася паражэнцтва ў адносінах совецкай улады.

Бухарынцы ў сваёй гнуснай барацьбе супроць партыі і совецкага ўрада, усяляк маскуючыся, прабавалі выкарыстаць негадаванне і абурэнне рабаўнічымі ўмовамі міру, ахапіўшыя шырокія масы рабочых і членаў партыі, прабавалі абаперціся на гэтыя настроі. Але рэвалюцыйны рассудак хутка браў верх у свядомых рабочых. Хутка рассейваўся ў масах чад «рэвалюцыйнай фразы».

З велізарнаю сілай гучэла ў тыя гістарычныя дні агітацыя Леніна за мір. Амаль штодня ў «Правде» з'яўляліся палкія ленінскія артыкулы, якія цяжкім ударам абрушваліся на правакатараў вайны, штурхаўшых Совецкую ўладу на пагібель. 21 лютага быў апублікован

[7] В. І. Ленін, Тв. т. XXII, стар. 290.
[8] Там-жа, стар. 307.

артыкул Леніна «Аб рэволюцыйнай фразе»; 23 лютага—«Мір ці вайна?»; 24 лютага—«Няшчасны мір» і «Тэзісы па пытанню аб безадкладным заключэнні сепаратнага і анексіянісцкага міру»; 25 лютага—«Цяжкі, але неабходны ўрок»; 26 лютага—напісаны Леніным зварот ЦК «Пазіцыя Ц.К. Р.С.-Д.Р.П. (большэвікоў) у пытанні аб сепаратным і анексіянісцкім міры»; 28 лютага—«Дзіўнае і страшэннае»; 1 сакавіка—«На дзелавую глебу»; 5 сакавіка—напярэдадні адкрыцця VII партыйнага з'езда—«Сур'ёзны ўрок і сур'ёзная адказнасць»; пасля партыйнага з'езда і незадоўга да з'езда советаў—палкі артыкул Леніна «Галоўная задача нашых дзён». Жыццё з велізарнай хуткасцю пераконвала масы ў найвялікшай праваце Леніна, паказвала, што ратунак толькі ў адным: сціснуўшы зубы, сабраўшы ўсю сваю волю і рашымасць, падпісаць цяжкі мір з тым, каб безадкладна пачаць па-сапраўднаму рыхтаваць абарону соцыялістычнай бацькаўшчыны. Партыя, рабочы клас, народныя масы ўсё цясней згуртоўваліся вакол Леніна.

Трацкісты і бухарынцы сумесна з «левымі» і правымі эсэрамі ў глыбокім падполлі сталі арганізоўваць контррэволюцыйную змову супроць Леніна як главы совецкага ўрада. Гэтыя нягоднікі ставілі сваёй мэтай сарваць брэсцкі мір, звергнуць совецкі ўрад, арыштаваць і забіць Леніна, Сталіна і Свердлова. Толькі цяпер, праз 20 год, сталі вядомы гнусныя планы гэтага чалавечага атрэб'я.

3 сакавіка совецкая дэлегацыя ў Брэсце падпісала мірны дагавор, дэманстрацыйна адмовіўшыся абмяркоўваць яго. Але барацьба здраднікаў радзімы супроць брэсцкага міру не спынілася: прадстаяла яшчэ ратыфікацыя мірнага дагавора. Вакол гэтай ратыфікацыі разгарнулася вострая барацьба. Першым этапам з'явіўся VII з'езд партыі, экстрана скліканы для канчатковага вырашэння пытання аб міры. На працягу паўтара дзён, 6—8 сакавіка, на з'ездзе ішла зацятая і ўпартая барацьба з трацкісцка-бухарынскімі правакатарамі вайны. Зграя ворагаў была выкрыта і разбіта.

Пры абмеркаванні і галасаванні ленінскай рэзалюцыі аб міры Троцкі і бухарынцы выступілі з «папраўкай», забараняючай совецкаму ўраду падпісаць мір з Украінскай Радай і фінляндскім буржуазным урадам. Ленін падверг рэзкай крытыцы гэтую спробу—пазбавіць ЦК свабоды манеўравання, і з'езд гэтую «папраўку» адхіліў. Услед за тым трацкісты ўнеслі прапанову адобрыць здрадніцкія паводзіны Іудушкі-Троцкага ў Брэсце, яго адмаўленне падпісаць мір 10 лютага. З'езд рашуча адхіліў і гэту прапанову і закляймі́ў спробу пацярпеўшых паражэнне трацкістаў і бухарынцаў прадаўжаць на з'ездзе сваю падрыўную, дэзарганізатарскую работу.

Цэнтральны камітэт быў абран з'ездам у такім складзе, які забяспечваў правядзенне ленінскай лініі. Разграміўшы трацкісцка-бухарынскую зграю, VII з'езд адыграў буйнейшую ролю ва ўмацаванні партыі, у згуртаванні яе радоў на аснове ленінізма.

Наступным этапам барацьбы з'явіўся IV надзвычайны ўсерасійскі з'езд советаў, які адбыўся 14—16 сакавіка. Для таго, каб сарваць ратыфікацыю мірнага дагавора, ворагі пусцілі ў ход усе сілы і сродкі. Атмасфера на з'ездзе была накалена да крайнасці. Адзіным фронтам супроць Леніна і большэвіцкай партыі выступілі меншавікі, правыя і «левыя» эсэры, максімалісты, анархісты.

У гэтай напружанай абстаноўцы бухарынцы прадаўжалі злачынную і вераломную палітыку ў адносінах партыі. На большэвіцкай фракцыі з'езда бухарынцы былі разбіты: за зацвярджэнне мірнага да-

гавора галасавала 453 дэлегаты, супроць—36, устрымалася—8. Ашалелыя ад свайго паражэння, бухарынцы пайшлі на прамы зрыў партыйнай дысцыпліны. Пры галасаванні на з'ездзе рэзалюцыі аб зацвярджэнні брэсцкага міру бухарынцы ў колькасці 55 чалавек устрымаліся ад галасавання і агаласілі дэкларацыю, накіраваную супроць ленінскай палітыкі большэвіцкай партыі.

IV усерасійскі з'езд советаў агромнай большасцю адобрыў ленінскую палітыку перадышкі. За ленінскую рэзалюцыю галасавала 784 дэлегаты, супроць—261, устрымаліся—115. Брэсцкі мір быў ратыфіцыраван.

Так Ленін і Сталін, ламаючы ўсе перашкоды, цвёрда ішлі да мэты—вырваць краіну з імперыялістычнай вайны, даць замучаным вайною народным масам мір, заваяваць перадышку для арганізацыі і ўмацавання совецкай дзяржавы.

* * *

Мір быў заключан. Совецкая ўлада, кіруемая большэвікамі, выканала сваё абяцанне—даць змучаным народным масам мір. Гэта мела найвялікшае, сусветна-гістарычнае значэнне. «З імперыялісцкай вайны, з імперыялісцкага свету вырвала **першую сотню мільёнаў людзей** на зямлі **першая большэвіцкая рэволюцыя»** [9]. Совецкая рэспубліка паказала змучаным чатырохгадовай імперыялістычнай бойняй народам шлях да выхаду з вайны. Заваявана была перадышка. Яе трэба было скарыстаць для арганізацыі і ўмацавання совецкай улады, для стварэння Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Але нават ратыфікацыя брэсцкага мірнага дагавора IV усерасійскім з'ездам советаў яшчэ не палажыла канец барацьбе за мір, за перадышку. Барацьба прадаўжалася. Капіталістычны свет і эксплаататарскія класы ўнутры краіны, іх агентура—ад меншавікоў і эсэраў да трацкістаў і бухарынцаў—прабавала сарваць справу ўмацавання Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Яны паставілі сабе мэтай сарваць перадышку, сарваць брэсцкі мір і ўцягнуць Совецкую рэспубліку ў вайну супроць германскага імперыялізма; перашкодзіць максімальнаму скарыстанню перадышкі, перашкодзіць арганізацыі эканамічнай і ваеннай магутнасці совецкай дзяржавы, сарваць наладжванне соцыялістычнай вытворчасці і падарваць абараназдольнасць краіны, забяспечыць аднаўленне ўлады і ўласнасці капіталістаў і памешчыкаў. У барацьбе за дасягненне гэтай гнуснай мэты яны ішлі на ўсё. І кадэты, і меншавікі, і правыя, і «левыя» эсэры, і трацкісты, і бухарынцы выступілі супроць брэсцкага міру, супроць знешняй палітыкі Совецкай улады. Усе іх друкаваныя органы—ад кадэцкага «Нашего века» да «левага» «Коммуниста»—вялі ярасную кампанію супроць брэсцкага міру, стараючыся штурхнуць бяззбройную Совецкую рэспубліку на вайну і паражэнне.

Перадышка была нетрывала. Яна трымалася на супярэчнасцях унутры міжнароднага імперыялізма, на жорсткай сутычцы паміж двума асноўнымі групамі імперыялістычных драпежнікаў. У любы момант перадышка магла быць сарвана.

К канцу красавіка—пачатку мая 1918 года палітычнае становішча Совецкай рэспублікі стала надзвычай напружаным. Па-першае, Антанта, націскаючы на нас і патрабуючы аб'яўлення вайны немцам,

---

[9] В. І. Ленін. Тв. т. XXVII, стар. 28—29.

уступіла на шлях адкрытай інтэрвенцыі: у пачатку красавіка ў Мурманску высадзіўся англійскі дэсант, а ва Владзівастоку—англа-японскі дэсант. Так быў пакладзен пачатак антантаўскай інтэрвенцыі на Поўначы і на Далёкім Усходзе. Па-другое, абвастрыліся ўзаемаадносіны Совецкай рэспублікі з Германіяй. Акупіраваўшы к канцу красавіка ўсю Украіну і Крым, германскі імперыялізм не думаў гэтым абмежаваць свае рабаўнічыя планы. 7 мая аўстра-германскімі войскамі быў заняты Растоў-на-Дану. Наспеўшы канфлікт з немцамі па пытанню аб форце Іно і Мурмане мог даць Германіі, дзе ўзмацняўся ўплыў ваеннай партыі, повад да аднаўлення агульнага наступлення на Совецкую рэспубліку. Пры падтрымцы германскай акупацыйнай арміі была люта падаўлена рабочая рэволюцыя ў Фінляндыі і ўчынен гетманскі пераварот на Украіне, які азначаў нішто іншае, як рэстаўрацыю «буржуазна-памешчыцкага манархізма ва Украіне...» [10]

Вельмі напружаным было становішча на фінляндскай, украінскай і турэцкай граніцах. З Фінляндыяй, Украінай і Турцыяй мір усё яшчэ не быў заключан; Совецкая рэспубліка знаходзілася фактычна ў стане вайны з імі. Любая правакацыя на гэтых граніцах магла ўзарваць брэсцкі мір. Абвастрылася і становішча ўнутры краіны. Гетманскі пераварот на Украіне ўзняў настрой контррэволюцыйных элементаў унутры Совецкай Расіі, актывізаваў іх. Краіна перажывала харчовы крызіс, у радзе раёнаў і гарадоў быў голад.

У гэтай напружанай палітычнай абстаноўцы ўзмацнілася атака на знешнюю палітыку комуністычнай партыі з боку буржуазіі і яе падгалоскаў—меншавікоў і эсэраў. Меншавікі і правыя эсэры з пенаю ў рта патрабавалі адмаўлення ад брэсцкага міру. «Левыя» эсэры правакавалі зрыў брэсцкага міру і вайну з Германіяй. Заадно з імі выступалі трацкісты і бухарынцы. На пасяджэнні ЦК 10 мая 1918 года Сакольнікаў унёс рэзалюцыю, у якой падкрэслівалася, што «вайна з Германіяй з'яўляецца немінучай, перадышка—даная брэсцкім мірам—скончанай». У той-жа час ён патрабаваў «заключыць ваеннае пагадненне з англа-французскай кааліцыяй на прадмет ваеннай каперацыі на пэўных умовах».

Трацкісты і бухарынцы выступілі як агентура антантаўскага імперыялізма. Недарма ў адскія планы англійскага разведчыка Локарта ўваходзіла ўсямернае выкарыстанне Троцкага і яго бухарынскага ахвосця для зрыву брэсцкага міру і звяржэння совецкай улады. Локарт у сваіх мемуарах піша: «Я паслаў некалькі тэлеграм у Лондан, патрабуючы афіцыяльных дырэктыў, якія дазволілі-б мне ўмацаваць пазіцыю Троцкага». У сваіх перагаворах з Троцкім Локарт абяцаў гэтаму прасмаленаму здрадніку і правакатару поўную падтрымку з боку Англіі ў выпадку зрыву брэсцкага міру. І Троцкі яму абяцаў, што «мір будзе заключан на кароткі тэрмін». Так ужо ў 1918 годзе Іудушка-Троцкі сумесна з агентамі замежных разведак прыкладаў усе сілы да звяржэння совецкай улады.

Антанта прабавала падвесці пад пачаўшуюся інтэрвенцыю законную «падставу», прадставіць яе народным масам капіталістычных краін, горача спачуваючым совецкай уладзе, не як грубае ўмяшанне ў справы Рэспублікі советаў, а як «запрашэнне» антантаўскіх войск совецкім народам і ўрадам. З гэтай мэтай інсцэніраваліся выступленні ўсякага роду «грамадскіх дзеячоў». Так, у Маскве адбылася нарада членаў Устаноўчага сходу, прадстаўнікоў эсэраў, энэсаў, ка-

[10] Ленінскі зборнік XI, стар. 81.

дэтаў, плеханаўскай групы «Адзінства», буржуазных каапэратараў і т. д. Нарада прыняла рэзалюцыю, у якой гаварылася, што «умовы Брэсцкага міру не даюць Расіі арганізаваць адпор нашэствію германскага імперыялізма. Усё гэта дае падставу саюзнікам паспрабаваць арганізаваць абарону на рускай тэрыторыі. Такое выступленне павінна, па думцы нарады, выклікаць спачуванне ўсіх тых груп, якія не прызнаюць Брэсцкага міру».

У тым-жа напрамку дзейнічаў і Троцкі, і бухарынцы, якія прыкрываліся маскаю «левых комуністаў». Здраднік Троцкі ўсяляк палягчаў справу інтэрвенцыі драпежнікам антантаўскага імперыялізма. 14 сакавіка Троцкі даў Мурманскаму совету злачынную дырэктыву: «Вы абавязаны прыняць усякую садзейнасць саюзных місій». Гэта дырэктыва заахвоціла контррэволюцыйных царскіх афіцэраў, якія аказвалі агромны ўплыў на палітыку Мурманскага совета, і з'явілася апраўданнем для здрадніцкай дзейнасці кіраўнікоў совета. 15 сакавіка трацкісцкае кіраўніцтва Мурманскага совета заключыла з прадстаўнікамі англа-французскай місіі пагадненне, у сілу якога пачалася «на законнай падставе» акупацыя Мурманскага края.

Ленін і Сталін прынялі ўсе меры да таго, каб прадухіліць акупацыю Мурмана англічанамі. У размове па прамому проваду са старшынёю Мурманскага совета Юр'евым Сталін ад свайго імя і ад імя Леніна заявіў:

> «Прыміце наш адказ: нам здаецца, што вы крыху папаліся, цяпер неабходна выпутацца. Наяўнасць сваіх войск у Мурманскім раёне і аказаную Мурману фактычную падтрымку англічане могуць выкарыстаць пры далейшым ускладненні міжнароднай кан'юнктуры, як падставу для акупацыі» [11].

Але палітыка ганебнага супрацоўніцтва кіраўніцтва Мурманскага совета з інтэрвентамі прадаўжалася. Тады Ленін паслаў апошняе папярэджанне Юр'еву:

> «Калі вам дагэтуль няўгодна зразумець совецкую палітыку, роўна варожую і англічанам і немцам, то наракайце на сябе... З англічанамі мы будзем ваяваць, калі яны будуць прадаўжаць сваю палітыку рабунку» [12].

Акупацыя Мурманска, а ўслед за ім і Архангельска адбылася. Так Троцкі дапамог антантаўскай інтэрвенцыі на Поўначы.

Адначасова Троцкі аказаў садзейнасць японскай інтэрвенцыі на Далёкім Усходзе. Вось сведчанне аднаго з натхніцеляў і арганізатараў замежнай інтэрвенцыі ў СССР, Чэрчыля: «28 сакавіка Троцкі паведаміў Локарту, нашаму прадстаўніку ў Маскве, што ён не супярэчыць супроць уступлення ў Расію японскіх сіл для процідзеяння германскаму націску, калі толькі ў гэтым выступленні будуць удзельнічаць іншыя саюзнікі і дадуць са свайго боку некаторыя гарантыі. Ён прасіў, каб Вялікабрытанія назначыла брытанскую марскую камісію для рэарганізацыі рускага чорнаморскага флота і вылучыла брытанскага афіцэра для кантролю над рускімі чыгункамі. ... Англічане прыклалі ўсе намаганні, каб атрымаць фармальнае запрашэнне ад большэвіцкіх правадыроў» [13]. А праз некалькі дзён пасля гэтай

---

[11] „Правда" № 51 ад 21 лютага 1935 года.
[12] Там-жа.
[13] В. Чэрчыль „Мировой кризис", стар. 51, Воениз. 1932.

размовы—5 красавіка—ва Владзівастоку высадзіўся дэсант англійскіх і японскіх войск. Так, пры садзейнасці Троцкага, пачалася інтэрвенцыя і на Далёкім Усходзе.

Не абмяжоўваючыся гэтым, Троцкі прадаваў соцыялістычную радзіму і амерыканскаму імперыялізму. Аб гэтым сведчыць перапіска тагочаснага амерыканскага пасла ў Совецкай Расіі Фрэнсіса са сваім урадам: «Троцкі заявіў Робінсу,—пісаў Фрэнсіс,—што ні ўрад, ні рускі народ нічога не маюць супроць амерыканскага нагляду над усімі адпраўкамі тавараў з Владзівастока ў Расію, а роўна і не супярэчаць супроць фактычнага кантролю над Сібірскай чыгункай» [14].

У Троцкага, тройчы прэзрэннага найміта япона-германскага фашызма, вялікі стаж па частцы ўсякага роду крывавых і брудных паслуг імперыялізму ў яго барацьбе супроць совецкай дзяржавы!

Партыя большэвікоў дала рэзкі адпор правакатарам вайны. ЦК большэвікоў пацвердзіў сваю вернасць ленінскай палітыцы. «Знешняя палітыка Совецкай улады ніякім чынам не павінна быць зміняема. Наша ваенная падрыхтоўка яшчэ не закончана, і таму агульным лозунгам астаецца па-ранейшаму: лавіраваць, адступаць, чакаць, прадаўжаючы гэтую падрыхтоўку з усіх сіл» [15],—заявіў ЦК на сваім пасяджэнні 13 мая, прыняўшы прапанаваныя Леніным «Тэзісы аб сучасным палітычным становішчы».

У той-жа дзень Ленін выступіў з дакладам на маскоўскай агульнагарадской партыйнай канферэнцыі. Тэзісы Леніна былі прыняты на канферэнцыі пераважнай большасцю галасоў. На наступны дзень—14 мая—Ленін выступаў двойчы з дакладам аб становішчы Совецкай рэспублікі: першы раз на пасяджэнні фракцыі большэвікоў ВЦВК, Соўнаркома і прадстаўнікоў Маскоўскага совета; другі раз—на аб'яднаным пасяджэнні ВЦВК і Маскоўскага совета. «... Мы гаворым сабе,—заявіў Ленін,—да абароны бацькаўшчыны мы адносімся з асцярожнасцю, усё, што можа наша дыпламатыя даць, каб аддаліць момант вайны, каб прадліць перарыў, мы абавязаны зрабіць, мы абяцаем рабочым і сялянам зрабіць усё для міру. І мы гэта зробім» [16]).

Супроць ленінскай палітыкі перадышкі на гэтым пасяджэнні заядла выступілі меншавікі, правыя і «левыя» эсэры, патрабуючы разрыву брэсцкага міру, узброенай барацьбы з немцамі і аднаўлення саюзных сувязей з Антантай. Але пераважнай большасцю галасоў была прынята рэзалюцыя, якая ўхваляла мірную палітыку совецкай улады і падкрэслівала неабходнасць умацавання работы па арганізацыі Чырвонай Арміі. Атака меншавіцка-эсэраўскай контррэволюцыі была адбіта; трэба было даць адпор і іх супольнікам—бухарынцам. На наступны дзень—15 мая—адкрылася маскоўская абласная партыйная канферэнцыя. Бухарынцы, якія заселі ў маскоўскім абласным бюро, прыбеглі да самых машэнніцкіх прыёмаў барацьбы супроць партыі. Прадстаўніцтва маскоўскай гарадской арганізацыі было ўдвая паменшана. Дакладчыкам быў прызначан «левы» Ломаў. Леніну быў прадастаўлен толькі судаклад. Але ўсе гэтыя хітраванні не дапамагалі. Бухарынцы былі разбіты.

Адбіўшы ўсе спробы справакаваць вайну Совецкай Расіі з Германіяй і злавіць совецкую ўладу ў западню, партыя большэвікоў цвёрда і паслядоўна праводзіла ленінскую палітыку перадышкі. Перадышка,

---

[14] Палкоўнік Робінс—прадстаўнік амерыканскага Чырвонага крыжа ў Расіі. Амерыканская чыгуначная місія працавала ў Сібіры яшчэ з часоў урада Керэнскага.

[15] Ленінскі зборнік XI, стар. 81.

[16] В. І. Ленін. Тв. т. XXIII, стар. 14.

як яна ні была хістка і нетрывала вясной 1918 года, дала магчымасць комуністычнай партыі і совецкай уладзе перанесці цэнтр сваёй увагі і сіл на пытанні социялістычнага будаўніцтва.

Шлях да перамогі социялізма, указваў Ленін, ляжыць праз арганізацыю найстражэйшага і ўсенароднага ўліку і кантролю за вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, праз павышэнне прадукцыйнасці працы і арганізацыю социялістычнага спаборніцтва. Барацьба супроць дробнабуржуазнай стыхіі, з якой нараджаецца і расце капіталізм, барацьба за стварэнне новай, социялістычнай дысцыпліны сталі ў цэнтры ўвагі.

> «Вядзі акуратна і добрасумленна рахунак грошай,—пісаў Ленін,—гаспадарнічай эканомна, не лодырнічай, не крадзі, захоўвай найстражэйшую дысцыпліну ў працы,—іменна такія лозунгі, якія справядліва асмейваліся рэволюцыйнымі пролетарыямі тады, калі буржуазія прыкрывала падобнымі гутаркамі сваё панаванне, як класа эксплаататараў, становяцца цяпер, пасля звяржэння буржуазіі, чарговымі і галоўнымі лозунгамі моманту» [17].

Ленін з усёй сілай падкрэсліваў, што практычнае правядзенне ў жыццё гэтых лозунгаў **Совецкаю** ўладай, яе метадамі, на падставе яе законаў, з'яўляецца неабходным і **дастатковым** для поўнай перамогі социялізма.

Такім быў геніяльны ленінскі план барацьбы за социялізм. Недарма так успалашыліся буржуазія і яе дробна-буржуазныя лакеі! Недарма ўвесь буржуазны і дробнабуржуазны друк ярасна атакаваў ленінскі план. Асабліва стараліся верныя халопы буржуазіі—меншавікі і эсэры. Сваю барацьбу супроць будаўніцтва социялізма і супроць працоўнай дысцыпліны яны прыкрывалі крытыкай «злева», паклёпніцкі абвінавачваючы большэвікоў у «звароце да капіталізма». Буржуазія і яе прыхвасні ў барацьбе супроць уліку, кантролю і пролетарскай дысцыпліны прабавалі выкарыстаць дробнабуржуазныя забабоны, распальвалі дробнаўласніцкія інстынкты. Заадно з імі дзейнічалі бухарынцы, з асцервяненнем выступаўшыя супроць ленінскага плана будаўніцтва социялізма. На пасяджэнні ВЦВК 29 красавіка супроць Леніна дружна выступілі меншавік Мартаў і «левы» Бухарын, правы эсэр Ліхач і «левы» эсэр Карэлін. Пісанні трацкісцка-бухарынскіх агентаў буржуазіі з «Коммуниста» нічым не адрозніваліся ад практыкаванняў «лева»-эсэраўскіх пісак са «Знамени труда». Недарма Ленін назваў бухарынцаў «неданошанымі левымі эсэрамі».

Так у пытаннях і знешняй і ўнутранай палітыкі бухарынцы выступалі фактычна разам з усёй буржуазнай і дробнабуржуазнай контррэволюцыяй—ад кадэтаў да «левых» эсэраў—супроць Леніна і ленінскай палітыкі большэвіцкай партыі.

З канца мая—пачатку чэрвеня адзнакі зрыву перадышкі ўсё множыліся. Пачаўся чэхаславацкі мяцеж, арганізаваны па ўказцы англа-французскіх імперыялістаў Мяцеж з'яўляўся састаўною часткай буйнейшай змовы супроць совецкай улады, змовы, на чале якой стаяў англійскі дыпламат-разведчык Локарт. Гэтая змова будавалася на актыўным выкарыстанні ўсіх ворагаў совецкай улады. Не выпадкова 6—7 ліпеня выбухлі адначасова савінкаўскі мяцеж у Яраслаўлі, Рыбінску, Мураме, і «лева»-эсэраўскі мяцеж у Маскве. У разлікі Локарта ўваходзіла і выкарыстанне Троцкага з яго бухарынскім ахвосцем. Гэтыя разлікі цалкам апраўдаліся.

[17] В. І. Ленін. Тв. т. XXII, стар. 443.

У смуродным контррэвалюцыйным падполлі, цесна звязаныя з імперыялістычнымі разведкамі, перапляліся ў адзін клубок трацкісты, бухарынцы, правыя і «левыя» эсэры. Бухарынцы былі поўнасцю ў курсе падрыхтоўваўшагася «левымі» эсэрамі правакацыйнага забойства германскага пасла ў Маскве Мірбаха і контррэвалюцыйнага ліпеньскага мяцежу. Паводзіны Пятакова і Бубнова на I з'ездзе КП(б)У, які адбываўся ў Маскве ў дні «лева»-эсэраўскага мяцежу, сведчылі аб тым, што бухарынцы на справе падтрымліваюць гэту контррэвалюцыйную банду, якая выступіла са зброяй у руках супроць савецкай улады. Пятакоў і Бубноў адмовіліся асудзіць контррэвалюцыйны «лева»-эсэраўскі мяцеж, фактычна салідарызаваліся з ім.

Падтрымкай «лева»-эсэраўскага мяцежу не абмежаваліся злодзеянні трацкісцка-бухарынскай шайкі ў 1918 годзе. Следствам па справе «права-трацкісцкага блока» неабвяргальна даказана, што Бухарын і яго саюзнікі, «левыя» эсэры, ведалі аб падрыхтоўцы правымі эсэрамі тэрарыстычных актаў супроць кіраўнікоў партыі і савецкага ўрада. Больш таго, нягоднік і двурушнік Бухарын арганізаваў з дапамогай правых эсэраў злачынскі замах на Леніна. За злачынскі замах эсэраўскай тэрарысткі Каплан на жыццё Леніна цалкам і поўнасцю адказвае ізверг Бухарын, які дарэмна спадзяваўся скрыць ад савецкага народа гэту нечуваную здраду і страшэннае злачынства.

Так, у выключна напружанай абстаноўцы 1918 года Троцкі, Бухарын і ўся іх бандыцкая шайка ішлі на любое злачынства і злодзеянне супроць Савецкай рэспублікі. У барацьбе супроць брэсцкага міру яны самкнуліся са злейшымі ворагамі савецкай улады—імперыялістамі і іх лакеямі з лагера меншавікоў і эсэраў.

> «Вядома,—гаварыў аб бухарынскім ахвосці Троцкага таварыш Сталін,—што яны крытыкавалі партыю «злева», выступаючы супроць Брэсцкага міру і кваліфікуючы палітыку партыі як апартуністычную, непралетарскую, згодніцкую ў адносінах імперыялістаў. А на справе аказалася, што выступаючы супроць Брэсцкага міру, «левыя» камуністы перашкаджалі партыі атрымаць перадышку для арганізацыі і ўмацавання Савецкай улады, дапамагалі эсэрам і меншавікам, якія стаялі тады супроць Брэсцкага міру, палягчалі справу імперыялізма, які імкнуўся задушыць Савецкую ўладу ў самым яе зародку» [18].

Выкрываючы класавы сэнс палітыкі трацкістаў і бухарынцаў, як пасобнікаў імперыялізма, партыя ў той час, аднак, яшчэ не ведала аб існаванні контррэвалюцыйнай змовы верхавінкі так званых «левых» камуністаў. Толькі праз 20 год раскрылася гэта страшэннае злачынства.

Бальшэвіцкая партыя ў барацьбе з трацкісцка-бухарынскімі правакатарамі вайны дабілася перадышкі, а затым цвёрда і няўхільна праводзіла палітыку захавання і ўмацавання гэтай перадышкі. І хоць перадышка 1918 года была вельмі нядоўгай, яна адыграла найвялікшую гістарычную ролю. Брэсцкі мір, указваў таварыш Сталін, даў партыі «магчымасць выйграць час, скарыстаць сутычкі ў лагеры імперыялізма, разлажыць сілы праціўніка, захаваць за сабою сялянства і накапіць сілы для таго, каб падрыхтаваць наступленне на Калчака і Дзянікіна [19]. Перадышка дала Савецкай рэспубліцы магчымасць умацаваць сваё міжнароднае і ўнутранае становішча. Партыя бальшэ-

[18] І. Сталін. „Аб апазіцыі“, стар. 449.
[19] І. Сталін. „Пытанні ленінізма“, стар, 56—57, X выд.

вікоў ішла на нечувана цяжкі брэсцкі мір, ведаючы, што ён будзе нядоўгавечны. І калі ў лістападзе 1918 года ў Германіі разразілася рэвалюцыя, Совецкая рэспубліка анулявала брэсцкі мір.

* * *

Дваццаць год прайшло з таго часу, як большэвікі, кіруемыя Леніным і Сталіным, вырвалі нашу краіну з сусветнай імперыялістычнай бойні. Мір быў заваёван у зацятай барацьбе супроць Троцкага і яго супольнікаў—бухарынцаў.

Гісторыя ўсёй наступнай барацьбы большэвіцкай партыі супроць антыленінскіх груп цесна звязана з той барацьбой, якая разгарнулася ў першыя месяцы 1918 года. Усе антыленінскія групы запазычылі ў трацкісцка-бухарынскай зграі зброю для барацьбы супроць партыі Леніна—Сталіна, паўтаралі гнусныя прыёмы і метады трацкісцка-бухарынскіх ворагаў соцыялізма, усё далей «удасканальваючы» гэтыя прыёмы і метады.

Ужо тады ў сваёй барацьбе супроць большэвіцкай партыі трацкісцка-бухарынская зграя дашла да прамой здрады, да прамых перагавораў з імперыялістамі і ўдзелу ў контррэволюцыйных змовах, злачынцы прабавала забіць Леніна, Сталіна і Свердлова.

Раскрыццё слаўнай совецкай разведкай гэтых страшэнных злачынстваў робіць зразумелай усю гнусную, злачынную дзейнасць трацкісцкіх і бухарынскіх извергаў, ворагаў народа. Усе гэтыя нягоднікі: Троцкі, Бухарын, Пятакоў, Радэк і іншыя—увесь час прадаўжалі подлую барацьбу супроць партыі Леніна—Сталіна і совецкай улады, пакуль не былі канчаткова выкрыты і разгромлены. Зараз удзельнікі «права-трацкісцкага блока» трымаюць адказ перад совецкім судом за ўсе свае нечуваныя, крывавыя злачынствы, за д'ябальскія планы звяржэння ў СССР існуючага соцыялістычнага грамадскага і дзяржаўнага ладу, аднаўлення ўлады капіталістаў і памешчыкаў у нашай краіне, распродажу соцыялістычнай радзімы імперыялістычным драпежнікам.

Становішча Совецкай рэспублікі к вясне 1918 года было выключна цяжкім. Але большэвікі, кіруемыя Леніным, мужна глядзелі ў твар нябачаным труднасцям, цвёрда ўпэўненыя ў перамозе. Непахісна была вера большэвікоў у невычарпальныя сілы народа, узнятага Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыяй да творчасці новага жыцця.

Партыя Леніна—Сталіна прайшла з таго часу слаўны, гераічны шлях. Пад яе кіраўніцтвам совецкі народператварыў «убогую і бяссільную» краіну ў магутную і багатую вялікую соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян, у краіну перамогшага соцыялізма, аплот міру, надзею ўсяго перадавога чалавецтва.

„Большевік" № 5 ад 5 сакавіка 38 г.

---

Галоўлітбел № 4319.
Тыраж 7000.
376.640 друк. зн. (7 друк. арк.)
Здана ў набор 25/III—38 г.
Падпісана да друку 10/IV—38 г.

РЭДКАЛЕГІЯ

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. 3262.

